# ЛіМ ЛІТАРАТУРА і МАСТАЦТВА

10 СТУДЗЕНЯ 2003 г. № 1—2/4187—4188 КОШТ 500 РУБ.


**АКЦЫЯ!**

**МЫ — БЕЛАРУСЫ!**

*"Няхай акцыя па стварэнні кнігі "Мы — беларусы!" стане агульнанацыянальнай, агульнанароднай!"*

5

**Начныя ўспаміны Івана ШАМЯКІНА**

9-12



*Якаў КАСЦЮКОЎСКІ:*

**"Сяброў у мяне сярод беларускіх пісьменнікаў, шмат. І ўвогуле, Беларусь — для мяне асаблівая зямля, асаблівыя людзі."**

10-11



**ДЫЯЛОГІ**

## Міхаіл МЯСНІКОВІЧ:

# «НАВУКІ ДРУГОГА ГАТУНКУ НЕ БЫВАЕ»

***На пытанні рэдактара аддзела публіцыстыкі газеты "Літаратура і мастацтва" Міхала ТАЛОЧКІ адказвае Прэзідэнт Нацыянальнай акадэміі навук Рэспублікі Беларусь Міхаіл МЯСНІКОВІЧ.***

Чытайце на стар. 4-5





*Чаму — "Юнона" і "Авось"? Чаму менавіта рок-опера А. Рыбнікава на лібрэта А. Вазнясенскага стала чарговай прэм'ерай Беларускага дзяржаўнага музычнага тэатра? Пра што ён, гэты новы спектакль, якога наша публіка, не спешчаная мюзікламі, а тым больш рок-операмі, чакала з нецярпеннем — спешна раскупіўшы білеты на ўсе чатыры першыя паказы яшчэ да з'яўлення вулічных афіш, наслухаўшыся радыёабвестак, начытаўшыся газетных анонсаў?*

**Адказы на гэтыя пытанні чытайце на стар. 11**

## КОЛА ДЗЁН

**На вуліцы зіма. Снежна. Марозна. Адсвяткаваны Каляды. У гісторыю адышоў мінулы год. Які ён быў! На гэтае пытанне ў кожнага свой адказ. Якім будзе 2003 год! Гэта ўжо залежыць ад кожнага з нас...**

### ПРАГРАМА ТЫДНЯ

На пасяджэнні Прэзідыума Савета Міністраў 31 снежня 2002 года была адобрана Праграма дзеянняў урада па прыцягненні замежных інвестыцый у нашу краіну ў 2003 годзе. Гэты дакумент мае мабілізуючы характар. У ім пастаўлена задача прыцягнуць у гэтым годзе да паўтара мільярда долараў інвестыцый. Усяго за апошнія дзесяць гадоў Беларусь атрымала тры мільярды замежных інвестыцый.

### НАПАМІН ТЫДНЯ

Для тых, хто працуе ў некалькіх месцах, надышоў час, калі трэба прадстаўляць дэкларацыю ў падатковыя органы. Сёння мінімальнай стаўкай падатку ў памеры 9 працэнтаў абкладаецца сукупны гадавы даход да 2. 506. 080 рублёў. Калі сукупны гадавы даход будзе вагацца ад 2. 506. 081 рубля да 6. 265. 200 рублёў, тады падатак пасля мінімальнай рысы ў 2. 506. 080 рублёў будзе павялічаны да 15 працэнтаў. Пры сукупным гадавым даходзе будзе складаць ад 6. 265. 201 да 8. 771. 280 рублёў сума падатку будзе складаць 789. 485 рублёў плюс 20 працэнтаў ад сумы, якая перавышае 6. 256. 200 рублёў. Наступная стаўка падатку ў памеры 1. 290. 631 рубель плюс 25 працэнтаў ад сумы, якая перавышае 8. 771. 280 рублёў, дзейнічае, калі сукупны гадавы даход не дасягае 11. 277. 360 рублёў. Словам, калі хочаце спаць спакойна, заплаціце падаткі.

### ПАСТАНОВА ТЫДНЯ

Міністэрствам эканомікі Беларусі прынята пастанова, згодна з якой з 10 студзеня 2003 года ў рэспубліцы ўводзіцца новы парадак акруглення рознічных цэн і тарыфаў для ўсіх суб'ектаў гаспадарання. Адпускныя цэны на тавары суб'екты гаспадарання вызначаюць самастойна. З 10 студзеня новыя рознічныя цэны на тавары і тарыфы на паслугі павінны заканчвацца на "10" ці на "5". Цана і тарыф, якія складаюць да 1 тысячы рублёў уключна, акругляюцца з дакладнасцю да 5 рублёў. Парадак акруглення наступны: меней за 2,5 рублі адкідваюцца, 2,5 — 7,5 рубля акругляюцца да 5 рублёў, а больш як 7,5 рубля — акругляецца да 10 рублёў.

### ЗАПАЗЫЧАНАСЦЬ ТЫДНЯ

Знешняя запазычанасць Беларусі за атрыманы прыродны газ на пачатак студзеня склала 207,5 мільёна долараў. Такім чынам, за 2002 год яна знізілася больш як на 30 мільёнаў. Акрамя таго, за год істотна скараціўся знешні доўг за электраэнергію. Так, калі на пачатак 2002 года запазычанасць складала 87,6 мільёна долараў, то на сённяшні час гэта лічба зменшылася да 55,3 мільёна.

### УЗГАДНЕННЕ ТЫДНЯ

Пасольства ФРГ у Рэспубліцы Беларусь з 1 студзеня па 30 чэрвеня 2003 года будзе выконваць функцыю лакальнага прадстаўніцтва Еўрапейскага саюза ў нашай краіне. Гэта ажыццяўляецца па ўзгадненні з урадам Грэчаскай Рэспублікі, якая ў першым паўгоддзі 2003 года старшынствуе ў Еўрасаюзе, а таксама з адпаведнымі органамі Еўрапейскага саюза ў Брусэлі.

### АДКРЫЦЦЁ ТЫДНЯ

Новае радовішча высакаякаснай нафты за тры кіламетры ад Рэчыцы адкрылі геолагі вытворчага аб'яднання "Беларуснафта": Гэта радовішча ўключана ў адно з 64 разведаных радовішчаў нафты ў Беларусі — Усходне-Першамайскае. Знаходзіцца яно на глыбіні 4 300 метраў, а аб'ём яго запасаў, паводле разлікаў спецыялістаў, складае каля 230 тысяч тон. Каб прабурыць свідравіну да радовішча, спатрэбілася 8 месяцаў, і цяпер яно выдае да 200 кубаметраў нафты ў суткі. Пры існуючых тэмпах здабычы "чорнага золата" тут павінна хапіць на 20 гадоў.

### ПРАГНОЗ ТЫДНЯ

На сённяшні дзень прыватным аўтамабілем пры перамяшчэнні па Мінску карыстаецца кожны пяты жыхар сталіцы. Астатнія гараджане — пастаянныя пасажыры гарадскога транспарту. Па прагнозах спецыялістаў у 2030 годзе на тысячу жыхароў нашай сталіцы будзе прыпадаць 350 асабістых аўтамабіляў. Гэта прыкладна ў два разы больш, чым цяпер.

### ПЕРСПЕКТЫВА ТЫДНЯ

На пасяджэнні Мінскага гарвыканкама быў ухвалены генеральны план развіцця Мінска да 2030 года з прылеглымі тэрыторыямі ў межах перспектыўнай гарадской рысы. Дакумент быў распрацаваны па распараджэнні Прэзідэнта краіны навукова-практычным камунальным унітарным прадпрыемствам "Мінскграда". Генпланам прагназуецца, што да 2030 года тэрыторыя Мінска павялічыцца з 266,8 да 418 квадратных кіламетраў, а колькасць насельніцтва — з 1,7 да 1,9 млн. чалавек. У сферы паслуг будуць заняты 75 працэнтаў мінчан, а ў вытворчым сектары — 25 працэнтаў (зараз 60 і 40 працэнтаў адпаведна). Да 2030 года плануецца, што жыллёвая забяспечанасць павялічыцца з 18,5 да 25—30 квадратных метраў на чалавека. У раздзеле, прысвечаным развіццю ландшафтна-рэкрэацыйных зон, прадугледжваецца мемарыяльнае ўрочышча "Курапаты".

**ВІНШУЕМ!**

# РУПЛІЎЦАМ ДОБРАГА ДУХУ

**"Храмы будуюцца не толькі з каменю..." — зазначыў Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка, адкрываючы цырымонію ўручэння традыцыйных прэмій "За духоўнае адраджэнне" і спецыяльных прэмій дзеячам культуры і мастацтва за дасягненні ў 2002 годзе. На гэтай святочнай цырымоніі, што адбылася 7 студзеня ў Палацы Рэспублікі, ушаноўваліся руплівцы храма нашай духоўнасці, сапраўдныя падзвіжнікі, якія прысвяцілі сваё жыццё дабрыні ды прыгажосці, адраджэнню душэўнай чысціні, маральнасці, што супрацьстаіць злу.**

Новыя лаўрэаты пяці прэмій "За духоўнае адраджэнне" — асобы вядомыя: архімандрыт Кірыл, настаяцель Свята-Троіцкага храма ў Хоцімску; старшы навуковы супрацоўнік Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя К. Крапівы НАН РБ Анатоль Кулагін; настаяцель мінскага храма Усіх Святых, кіраўнік праекта "Дом міласэрнасці" Фёдар Поўны; супрацоўнікі Магілёўскага мастацкага музея імя П.Масленікава; аўтарскі калектыў тэлепраграмы "Існасць".

Сярод узнагароджаных спецыяльнымі прэміямі за дасягненні ў розных галінах культуры і мастацтва — дэкан педагагічнага факультэта Беларускай акадэміі музыкі Леанід Іваноў, рэжысёр Валерый Анісенка, паэт Мікола Маляўка, журналіст Міхась Шыманскі, акцёр Уладзімір Гасцюхін, мастак Міхаіл Савіцкі, мастацкі кіраўнік Дзяржаўнага ансамбля танца РБ Валянцін Дудкевіч, майстар саломапляцення Зінаіда Елісеева з Чашнікаў, кіназнаўца Ефрасіння Бондарава, саліст Дзяржаўнага канцэртнага аркестра РБ Валерый Шчарыца, дэкан факультэта павышэння кваліфікацыі БАМ Мірон Була, калектывы народнага духавога аркестра Рэчыцкага ГДК, Слонімскага краязнаўчага музея, ансамбля вандроўных музыкаў "Фэст" з Баранавічаў ды інш.

Да ўсіх прысутных звярнуўся мітрапаліт Філарэт, патрыяршы Экзарх Усяе Беларусі. У святочным канцэрце ўдзельнічалі майстры мастацтваў краіны, прынамсі — ганараваныя гэтымі высокімі прэміямі, як сёлета, так і ў мінулыя гады.

**Н. К.**

# УЗЫХОДЗЯЦЬ ЗОРКІ...

***Рэспубліканскі каледж пры Беларускай акадэміі музыкі, як вядома, унікальная навучальная ўстанова са шматгадовай гісторыяй. З'яўленне яго ў 1935 годзе звязана з развіццём дзіцячай музычнай адукацыі на Беларусі.***

Выдатныя поспехі і слава вучняў каледжа — яркае сведчанне высокага ўзроўню выкладання. Многія яго выпускнікі, набыўшы музычныя прафесіі, працуюць у філармоніях, оперных калектывах, камерных ансамблях, выкладаюць у школах, вучылішчах, ВНУ культуры і мастацтва, і не толькі на Беларусі.

Сярод выпускнікоў каледжа — больш за 300 лаўрэатаў нацыянальных, міжнародных конкурсаў. Кожны год юныя выканаўцы бяруць удзел у шматлікіх музычных спаборніцтвах і фестывалях. І прамінулы год — не выключэнне.

У 2002 г. маладыя выканаўцы на розных музычных інструментах (фартэпіяна, скрыпка, віяланчэль, цымбалы, баян, флейта, кларнет, саксафон і інш.) удзельнічалі ў конкурсных праграмах, якія праходзілі ў Беларусі, Расіі, на Украіне, у Малдове, Польшчы, у Францыі, Італіі. Выхаванцы каледжа выступалі на фестывалі фартэпіяннай музыкі "Творчая моладзь — XXI стагоддзю", спаборнічалі на "Юнацкіх асамблеях мастацтваў", у Першых Дэльфійскіх гульнях дзяржаў СНД і інш.

33 вучні сталі летась лаўрэатамі міжнародных конкурсаў, а 10 — дыпламантамі.

Пра музычны конкурс "Юнацкія асамблеі мастацтваў" варта сказаць больш падрабязна. Ён праходзіў на пачатку лістапада 2002 г. у Маскве, сабраў многіх выканаўцаў з розных краін. Вучні нашага каледжа таксама былі ў іх ліку, трое нават прайшлі на II тур пасля адборачнага праслухоўвання.

А Васіль Бялоў, кларнетыст, вучань 9 класа, у намінацыі "драўляныя духавыя інструменты" стаў лаўрэатам. Васіль, дарэчы, лаўрэат яшчэ трох музычных турніраў: 1997 г. — трэцяя прэмія Міжнароднага конкурсу імя М. Кл. Агінскага ў Смаргоні, 1999 г. — першая прэмія конкурсу выканаўцаў на Украіне, 2002 г. — другая прэмія на Дэльфійскіх гульнях дзяржаў СНД.

Дыпламантам "Юнацкіх асамблеяў мастацтваў" стаў вучань 4 класа Іван Карызна (віяланчэль). Знамянальна, што гэты хлопчык за 2002 год быў двойчы адзначаны міжнароднымі журы: у сакавіку ў Расіі на конкурсе "Разань—2002" ён атрымаў трэцюю прэмію.

Тым часам вельмі таленавітыя дзеці, якія вучацца ў каледжы, разам рыхтуюцца пад кіраўніцтвам сваіх педагогаў да новых творчых дасягненняў і конкурсных перамог.

**Марыя КАСЦЮКЕВІЧ**

**МУЗЫКА**

# АДКРЫЛІ... БЕТХОВЕНА!

Заўсёднікі Залы камернай музыкі, што на Залатой Горцы ў Мінску, адкрылі для сябе новы ансамбль выканаўцаў. Імя кожнага з удзельнікаў гэтага дуэта меламаны ведаюць добра: малады скрыпач (а цяпер яшчэ і дырыжор), прадаўжальнік шаноўнай музычнай дынастыі, Яўген Асновіч ды яго бацька, піяніст Барыс Спектар. Абодва — лаўрэаты конкурсаў.

Разам яны граюць, бадай, з тых часоў, як юны музыкант, засвоіўшы скрыпічную азбуку, пачаў развучваць п'есы з акампанементам. Супольныя выступленні былі адзінкавыя і перад слухачамі-спецыялістамі (конкурсная аўдыторыя, зала Беларускай акадэміі музыкі). Так што 19 снежня 2002 года адбыўся паўнавартасны філарманічны дэбют высакакласнага сямейнага ансамбля, які праз дзень выступіў і перад ужо самай шырокай публікай — слухачамі радыёшоу "Жывы гук". (Яно ладкуецца кожную суботу на 1-м канале Беларускага радыё і прываблівае унікальнай магчымасцю пазнаёміцца з акадэмічнымі выканаўцамі праз наўпростую трансляцыю не толькі непасрэднай размовы ля мікрафона, але і жывога выканання музыкі ў эфіры).

Адметнасць гэтага дэбюта не толькі ў складзе выканаўцаў ды іх натхнёным стварэнні асаблівай эмацыйна-вобразнай атмасферы, якая атуляе і хвалюе слухача. Адметнасць — і ў праграме канцэрта: гучалі санаты Л. ван Бетховена для скрыпкі ды фартэпіяна. Аказваецца, на пачатку XXI стагоддзя можна раскрыць і малавядомыя для сённяшняй публікі, нават для музыкантаў, старонкі бетховенскай спадчыны!

Рэч у тым, што Бетховена, паводле даволі ўстойлівага стэрэатыпу, успрымаюць як стваральніка фартэпіянных санат і кампазітара-сімфаніста. Яго камерныя ансамблі, прынамсі, скрыпічна-фартэпіянныя дуэты, — амаль забыты жанр у мінскіх канцэртах. Каментуючы праграму ў радыёэфіры, Б. Спектар падкрэсліў, што хаця ў гэтых творах можна прасачыць прыхільнасць кампазітара да фартэпіяна, усё ж Бетховен і тут уражвае здатнасцю ўвасобіць у артадаксальнай класічнай санатнай форме цудоўную, пранікнёную, дасціпную, сакавітую камерную музыку, даўшы абодвум інструментам, абодвум выканаўцам, роўную нагрузку.




Скрыпічныя санаты, за выключэннем, бадай, апошняй, 10-й, — плён ранняга перыяду творчасці кампазітара. Цікава, што ва ўмовах жорсткай рэгламентацыі стылю, сродкаў выразнасці, прынятых у часы панавання класіцызму, сфарміраваліся такія розныя індывідуальнасці, як Гайдн, Моцарт, Сальеры, Бетховен. Ужо ў першай з гэтых санат, якую Бетховен прысвяціў вялікаму настаўніку, прыдворнаму маэстра А. Сальеры, ёсць і строгасць класічных прыёмаў пісьма, і народныя танцавальныя матывы, і гумар, і мяцежны дух, і ледзь прыкметная інтанацыя будучай эпохі рамантызму...

**С. Б.**

**Фота П. ІВАНОВА**

# ЯК У ПАРЫЖ ВАЗІЛІ КУЗЬМУ

Вельмі шкада: я так і не прызвычаіўся запісваць у храналагічнай паслядоўнасці якія-небудзь значныя даты і падзеі свайго жыцця. Не вёў і не вяду дзённікі, аднак, прызнаюся шчыра, не дужа люблю чытаць і чужыя "жыццяпісы". Добра, калі на вочы патрапяцца нататкі талковага, а не злога чалавека. Наогул закіды ў вечнасць — справа тонкая. Дакладней, справа тонкага мастацкага густу, і надта ўжо далікатная. Не сакрэт: у многіх пісьменніцкіх мемуарах дастаткова жоўці. Я з дзяцінства паважаю шмат якіх паэтаў, і цяпер не хачу чытаць, што нехта з іх, едучы ў Маскву, вёз у падарунак начальству дэфіцытны па тым часе насценны дыван. Дзённікі звычайна друкуюцца пасля скону найбольш знакамітых аўтараў, дык ты і ведаць не будзеш, які твой удачлівы і славалюбны сучаснік запэцкаў цябе вялікай лыжкай дзёгцю.

Я, вядома, трошкі перабольшваю, таму што спроба занатоўваць свае ўражанні на паперы ўсё-такі была. За якім ужо часам — 37 гадоў назад, калі мяне з селькораў узялі ў штат Ляхавіцкай раённай газеты, намеснік рэдактара Васіль Праскураў зрабіў нейкія слушныя заўвагі па адным маім матэрыяле. Помніцца, там было нешта пра тэлеграфны стыль, які, вобразна кажучы, нагадвае куртаты хвост ці то ляснога зайца, ці то падстрыжанага кавалерыйскага каня. Урок прафесіянала мне, пачаткоўцу, спадабаўся, і я, каб не забыць нічога, запісаў павучанні ў скамечаным блакноце, прычым у яркіх мастацкіх дэталях і, сабе ж на бяду, паставіў нават дату нашай прыемнай размовы. Мой "дыярыуш", што валяўся на стале, выпадкова ўбачыў крыху старэйшы за мяне, але баламутны супрацоўнік рэдакцыі, прачытаў запіс і адразу пабег з даносам: маўляў, паглядзіце, Васіль Фёдаравіч, што тут піша пра вас гэты ціхамірны палескі хлопец. Трэба сказаць, мае думкі наконт стылю Праскураву спадабаліся, ён яшчэ і пахваліў за спробу творчага пошуку, аднак працягваць свой "дзённік" я не стаў.

Сёння шкада ўдвая: іменна мне было ў каго павучыцца. Тут жа, у Ляхавічах, роўна на чатыры вякі раней за мяне нарадзіўся першы беларускі мемуарыст Фёдар Еўлашоўскі, які ўвайшоў у нашу гісторыю дзякуючы сваім успамінам. Вядома, што гэты грамадскі дзеяч і пісьменнік шырокія веды ў галіне матэматыкі, справаводстве, юрыспрудэнцыі набываў самаадукацыяй, па даручэнні навагрудскай шляхты быў паветовым паслом на варшаўскім вальным сейме, браў удзел у складанні "Трыбунала Вялікага княства Літоўскага", затым працаваў падсудкам у земскім судзе. І на ўсіх этапах свайго нялёгкага жыцця вёў дзённікавыя запісы, на падставе якіх, мабыць, і стварыў самы ранні помнік мемуарнага жанру ў беларускай літаратуры. "Дзённік" Фёдара Еўлашоўскага цікавы тым, што ў ім жыва і маляўніча, з болем і пяшчотай апавядаецца аб убачаным, пачутым і перажытым. Вось паслухайце: "...в неделе прэднем умарла намилшая матка моя Феодора, осиротила з великим жалем пана отца нашего и нас, детей их милых..." Хто з сённяшніх, нават слынных, летапісцаў эпохі здатны на такую адчайную і шчырую душэўную споведзь?

Апошняя, 55-я, старонка мемуараў Фёдара Еўлашоўскага, што дайшлі да нашчадкаў без першай, уступнай часткі, пазначана 1604-ым годам, значыць, хутка юбілей, але галоўнае іншае. Ці ж часта ў наш скрутны час знойдзецца творца, які гэтак жа, як і знаны старажытны мемуарыст, з болем і пяшчотай умеў бы ці жадаў бы гаварыць "аб убачаным, пачутым і перажытым"? Яшчэ нядаўна такі пісьменнік жыў, і паміж імі нібы адбываецца пераклічка ў стагоддзях. Зноў жа на ўвазе я маю Васіля Праскурава, а да звестак, ужо вядомых вам, толькі дадам, што пасля Ляхавіч мы нямала гадоў працавалі разам у Ганцавічах. Назаўсёды закаханы ў маляўнічыя палескія краявіды, у падарожным нарысе "Жывыя крыніцы" ён справядліва, узрушана заўважыў: "Ніхто з нас не выбіраў сабе мацярок — гэта не ў нашых сілах, ніхто не выбірае і Радзіму — якая ні ёсць, яна твая, не плявузгай на яе: Радзіма заўсёды вялікая, ты ж вялікі толькі ўкленчаны перад ёй". Слушныя, залатыя словы. Нарыс друкаваўся ў газеце "Звязда", і, прачытаўшы яго, незнаёмая настаўніца з Баранавіч, каб падзякаваць аўтару, пачала званіць у Мінск, потым у Брэст і была вельмі здзіўлена, даведаўшыся, што такі мудры чалавек жыве зусім побач з ёю, у палескай глыбінцы. Тэлефонны званок у Ганцавічы лучыўся акурат на мой рэдакцыйны пакой, таму я добра помню ўсю прывабную гісторыю з баранавіцкай настаўніцай. Мусіць, невыпадкова эпіграфам да "Жывых крыніц" пісьменнік узяў шчымлівыя радкі яшчэ аднаго майго земляка, таленавітага паэта Міхася Рудкоўскага: "О Скарыны зямля, нескароная воляй і духам, край Купалы і звонкае песні купальскае край!"

Няхай зласлівец усміхнецца, але ці ведае ён выслоўе разумнага лаціняніна: мы любім Радзіму не таму, што вялікая, а таму, што яна свая. Падмацаваць старажытную мудрасць можна вершамі Максіма Танка, Аркадзя Куляшова, Петруся Броўкі, Пімена Панчанкі. "Кожны з нас прыпасае Радзімы куток..." А Янка Купала! А Якуб Колас! "Сабраць з дарог каменні тыя, што губяць сілы маладыя",— вось пра што думаў калісьці першы пясняр Беларусі. І ягоныя жыццёвыя клопаты людзі не забылі. Бачылі б вы, як у вёсцы Люсіна прайшоўшай восенню святкавалі 120-гадовы юбілей Якуба Коласа! Было дужа холадна, зранку ляпіў мокры снег, але вёска ўся, бадай, да апошняга чалавека, выйшла на вуліцы, на свае векавыя скрыжаванні. Тут, на падмурку школы, дзе ў пачатку мінулага стагоддзя пачынаў працу малады настаўнік Кастусь Міцкевіч, быў урачыста адкрыты памятны знак, адбылося ледзь не калектыўнае шэсце ў літаратурна-этнаграфічны музей народнага песняра, заснаванага ў Люсінскай сярэдняй школе дваццаць гадоў таму назад. Потым ажыла, завіравала, расплюскалася на ўсе чатыры бакі вялікая літаратурна-музычная праграма "Песняй вітаю я вас". І вось яшчэ адзін штрых, які найлепш характарызуе адвечную гасціннасць, шырокую натуру палешукоў. На галоўнай вуліцы, ці не праз кожную трэцюю хату, стаялі багатыя сталы: хлеб, сала, дамашняе печыва, пузатая чарачка. Мяне і Валодзю Марука афіцыйна, амаль на самым "вертыкальным" узроўні папярэдзілі: не праходзьце міма, таму што добрыя, чулыя люсінцы пакрыўдзяцца на ўсё жыццё.



У той сыры, ветраны дзень там, на скрыжаванні дзвюх эпох, не адбылося і без прыемных, хоць, на першы погляд, і дробных прыгод. З сабой у паездку па родных мясцінах я ўзяў свежы нумар абноўленага часопіса "Маладосць", паабяцаўшы Раісе Баравіковай адзіны, сігнальны, экземпляр прывезці назад. Яшчэ ў аўтобусе па дарозе на Люсіна часопіс доўга і з увагай разглядаў дэпутат Нацыянальнага сходу Аляксандр Свірыд, потым навінку задаволена гарталі раённыя бібліятэкары, пазней, ужо ў вёсцы, "Маладосць" пайшла па руках і знікла ў невядомым кірунку. Што сцібрылі, грэх нават падумаць, але ж адразу згадалася нешта амаль ясенінскае: добрага коніка не купіш без гармоніка. Відавочная страта, праўда, тут жа была кампенсавана. Проста каля весніц адной гасціннай хаты, не пытаючыся, хто і адкуль гэты чужы чалавек, узрушаныя святам гаспадар і гаспадыня папрасілі мяне ўзяць на поспыт іхні вялізны, як кола, пірог, закручаны ў саматканы бялюткі ручнік. Хатні пірог з пахам медуніцы і нейкіх іншых лясных траў, вядома, даўно з'едзены, застаўся толькі кужалёвы ручнік з беларускім чырвоным арнаментам. Вось менавіта ён, змалку памятны, вытрыманы ў геаметрычных абрысах узор, цяпер, калі гляджу на яго, выклікае неспатольную журбу і невясёлыя думкі.

Канечне, гэта не апошні ў Беларусі саматканы, ільняны ручнік з прыгожым нацыянальным арнаментам. І само слова "нацыянальны" не знікла: ёсць нацыянальная бібліятэка, нацыянальны парк і многае іншае, не менш "нацыянальнае". Ды вось пытанне: як жа ў нас з нацыянальнай душой, браткі-беларусы? Што нам баліць? Што хвалюе? "Паспявалі" пра Чарнобыль і — хопіць? Разбураецца вёска — ну і кадук з ёю? Стыхійныя бедствы: ураганы, летнія маразы, сухавеі — гэта ўсё Настрадамус? Шкада: беларускіх кніг мала, тыражы літаратурных часопісаў — кот наплакаў. "Хто вінаваты?" — спытаў бы адзін вялікі дэмакрат. Тут, зразумела, няма ніякага папроку канкрэтным палітыкам, айчынным волатам пяра — ні старым, ні маладым. Але адкуль пастаянныя скаргі і калі скончацца адвечныя пошукі вінаватых? Забыты родныя вытокі, забыты радзінныя карані, і пачынаецца абрыдлае плявузганне пра цывілізаваную Еўропу. А што ж у нас? Асабліва сёння, у гэты дужа складаны перыяд нашай крэўнай гісторыі. Вершы аморфныя? Проза бездухоўная? "Ни то, ни сё" — сказала б адукаваная Кацярына II. Яна ж, як вядома, надта ўжо любіла "пакрасавацца" перад Еўропай. І нясвіжскі князь Радзівіл таксама любіў. Зрэшты, аднойчы і з ім была вось такая прыгода.

Даўным-даўно ў ганцавіцкай вёсцы Нача князь Радзівіл запрыкмеціў Кузьму, панскага конюха. Спадабаўся Кузьма князю, і паехалі яны ў Парыж. Конюх у новых бялюткіх нагавіцах, скрыпучых лазовых лапцях. Вышываная сарочка, чырвоны паясок — усё як мае быць. Прыехалі ў Парыж, уладкаваліся. Князь пайшоў па сваіх справах, а калі вярнуўся — каля гатэля вялікі натоўп шуміць. "Ну,— думае,— Кузьма нешта ўтварыў". І праўда. Гэта яго Кузьма выйшаў на вуліцы Парыжа ў сваім прыгожым адзенні, ды яшчэ ў лапцях. А парыжане не змаглі па праве ацаніць прыгажосць яго ўбрання. Злавілі Кузьму, пасадзілі ў клетку і пачалі рагатаць ды цешыцца, што людаеда злавілі. Ледзь даказаў князь: гэта яго чалавек, яго Кузьма. Вярнуўся панскі конюх дамоў жывы і здаровы, але, кажуць, да самай смерці баяўся ён слова "Парыж".

Гэта не пустая байка і зусім не смешны анекдот. Проста я коратка пераказаў жывое паданне, якое мінулым летам запісала ў ганцавіцкай вёсцы Нача бібліятэкар А. Завадская. Пераказаў у павучанне для самога сябе, бо і сягоння ў нас, беларусаў, славуты Парыж атаясамліваецца з буйнай славай і незлічоным багаццем. Але ж у даўні час былі і іншыя думкі пра цывілізаваную Еўропу. Той жа Фёдар Еўлашоўскі пасля таго як "умарла намилшая матка" ягоная, жыў у беднасці і вельмі шкадаваў, што не можа "зведать инше краины далеке, научиться ремесл розных". Пра вялікую жыццёвую крыўду ён з горычу піша ў сваім знакамітым "Дзённіку".

Напаследак скажу яшчэ: як жа не чытаць успаміны, дзённікі, дыярыушы, калі яны становяцца помнікамі культуры і эпохі, адметнымі творамі літаратуры? Менавіта "Дзённік" Фёдара Еўлашоўскага навеяў мне тэму і мараль гэтага, бадай-што, сумбарнага і "непрычасанага" артыкула.

**Віктар ГАРДЗЕЙ**

## ЛІМ-ЧАСАПІС

## ПРЫНЯТЫ Ў САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ



**Вітаўт Чаропка (Чаропка Віктар Кузьміч) нарадзіўся 21 жніўня 1961 года ў Мінску. Служыў у войску, працаваў на розных прадпрыемствах г. Мінска, рэдактарам часопісаў "Спадчына", "Беларуская мінуўшчына", "Хрысьцьянская думка". Цяпер загадчык аддзела "Беларускага гістарычнага часопіса". Друкавацца пачаў з 1988 г. Аўтар кніг "Храм без Бога", "Імя ў летапісе", "Гісторыя нашага імя", "Перамога ценю", "Уладары Вялікага княства". Рэкамендавалі Навум Гальпяровіч, Кастусь Цвірка, Алесь Камароўскі.**

•

**17 снежня 2002 года адбылася Рада СБП, на якой былі разгледжаны наступныя пытанні: "Палажэнне аб ганаровым членстве ў СБП"; аб маючым адбыцца сходзе Літфонду і маёмасці СБП; аб тыднёвіку "ЛіМ"; аб складах секцый паэзіі і прозы, а таксама прыёмнай камісіі.**

**Па ўзнятых пытаннях выступілі: Г. Бураўкін, У. Арлоў, А. Вярцінскі, А. Камароўскі, В. Іпатава, Б. Пятровіч, С. Законнікаў, А. Мальдзіс. У сябры СБП адзінагалосна быў прыняты празаік В. Чаропка.**

**Вёў Раду старшыня СБП А. Пашкевіч.**

•

**Секцыя паэзіі СБП правяла сваё пасяджэнне 18 снежня. На ёй была разгледжана творчасць А. Хадановіча, В. Бохан, Т. Сівец, Л. Кебіч, А. Паплаўскага і А. Ломцева. У абмеркаванні паэзіі маладых аўтараў прынялі ўдзел: У. Паўлаў, М. Шабовіч, У. Мазго, М. Скобла, А. Зэкаў, В. Гардзей.**

**У выніку тайнага галасавання ўсе прэтэндэнты рэкамендаваны для ўступлення ў СБП. Пасяджэнне правёў старшыня секцыі Э. Акулін.**

•

**У гэты ж вечар у вялікай зале Дома літаратараў адбылася вечарына-прэзентацыя гістарычнай трылогіі В. Іпатавай "Альгердава дзіда", якая нядаўна пабачыла свет у выдавецтве Беллітфонду. У імпрэзе ўдзельнічалі Л. Савік, В. Вярбоўская, В. Якавенка, В. Страмкоўская...**

**Са сцэны гучалі песні ў выкананні бардаў А. Камоцкага і П. Русава. З прывітальным словам ад кіраўніцтва СБП выступіў намеснік старшыні СБП Э. Акулін.**

•

**19 снежня 2002 года ў Доме літаратараў адбыўся справаздачна-выбарны Сход Беллітфонду. З дакладам аб дзейнасці арганізацыі за апошнія 4 гады выступіў старшыня аргкамітэта па падрыхтоўцы Схода і дырэктар Беллітфонду У. Мачульскі.**

**У абмеркаванні пытанняў звязаных з дзейнасцю Беллітфонду выступілі Я. Будзінас, К. Цвірка, Г. Бураўкін, С. Законнікаў, А. Пашкевіч, А. Кудравец, І. Карэнда, І. Капыловіч, М. Вяршынін і іншыя.**

**У выніку адкрытага галасавання на пасаду старшыні Беллітфонда быў абраны М. Чаргінец, а ягоным намеснікам — А. Камароўскі.**

**ЯнАк**

## НАДЗЕЯЙ АБРАЛІ... ЛЮБОЎ

**Пры канцы 2002 года ў Гомелі прайшоў традыцыйны Міжнародны конкурс юных выканаўцаў "Музыка надзеі", зладкаваны пры дапамозе Спецыяльнага фонду Прэзідэнта РБ па падтрымцы таленавітай моладзі. Гран-пры атрымала ўжо вядомая ў музычным асяроддзі Любоў Саладухіна з Гродна. Люба вучыцца па спецыяльнасці скрыпка ў шостым класе 1-й гродзенскай ДМШ. Яе педагог — прадстаўнік беларускай музычнай дынастыі Віктар Гільдзюк.**

**С. Б.**




***— Міхаіл Уладзіміравіч, у нашым грамадстве ўспрымаецца, як аксіёма, што беларуская навука мае шмат дасягненняў, што яна якраз тое, чым можам ганарыцца. Разам з тым, людзі мала ведаюць пра сучасны стан спраў. Нацыянальная акадэмія навук — месца, дзе сканцэнтраваны інтэлектуальныя сілы нашай краіны, гонар нацыі. Таму папярэдне прашу прабачэння за пэўную дэталізацыю пытанняў, іх, магчыма, празлішнюю канкрэтызацыю. А як бы вы самі абазначылі месца нашай айчыннай навукі ў свеце?***

— Навука, навукова-тэхнічная дзейнасць у пачатку XXI стагоддзя практычна ператварылася ў сферу творчай дзейнасці, якая найбольш эфектыўна адклікаецца на ўкладанні капіталу. Менавіта гэта і вызначае яе вядучую ролю ў сацыяльным і эканамічным прагрэсе грамадства. У Беларусі яшчэ на пачатку XX стагоддзя не было вышэйшых навучальных устаноў, тым болей — навукова-даследчых. А ў канцы стагоддзя ўжо меўся значны інтэлектуальны і навукова-тэхнічны патэнцыял. У якасці ілюстрацыі прывяду толькі некаторыя дадзеныя. У працэнтных адносінах колькасць людзей, занятых ва ўсіх сферах навуковай дзейнасці, да агульнай колькасці працуючых у Беларусі складала ў 0,48 працэнта. Гэты паказальнік адпавядаў сярэднееўрапейскаму ўзроўню: Германія — 0,52, Францыя — 0,44, Англія — 0,36. Разам з тым значна саступаў Японіі (0,67) і ЗША (0,66). Па ўзроўні адукацыі Беларусь займала 4 месца ў СССР (627 спецыялістаў з вышэйшай адукацыяй на 10 тысяч насельніцтва), а па колькасці вынаходніцтваў у разліку на 1000 даследчыкаў займала першае. Па стану на пачатак 2002 года колькасць тых, хто заняты навуковымі даследаваннямі і распрацоўкамі ў Беларусі, складала 32119 чалавек, з іх 70,1 працэнта мелі вышэйшую адукацыю. Навуковую ступень кандыдата навук маюць 3693 чалавекі, доктара навук — 831. Хаця яшчэ не ўдалося пераадолець тэндэнцыю змяншэння колькасці працуючых у навуцы, што адбылося ў 1990-х гадах, тэмпы скарачэння відавочныя.

Беларускія вучоныя дасягнулі значных поспехаў па розных накірунках фундаментальных навуковых даследаванняў. Высокую адзнаку на Радзіме і міжнароднае прызнанне атрымалі навуковыя школы ў галіне матэматыкі, тэарэтычнай фізікі, спектраскапіі і люмінісцэнцыі, лазернай фізікі, медыцыны, мовазнаўства ды ў іншых сферах. Шмат якія даследаванні зарэгістраваны ў якасці навуковых адкрыццяў.

***— Цікава, а ці былі калі-небудзь беларускія навукоўцы кандыдатамі на Нобелеўскую прэмію? Калі не, дык у якой сферы такое магчыма?***

— Ужо стогадовая практыка паказвае, што Нобелеўскія прэміі прысуджаюць за навуковыя дасягненні, якія неаднаразова пацверджаны і прыняты навуковай грамадскасцю. Як правіла, гэта — дасягненні ў галіне фундаментальных навук. Значыць, навук, асноўнаю задачаю якіх з'яўляецца атрыманне новых ведаў. Так, напрыклад, прэмія ў галіне фізікі, лаўрэатам якой у 2001 годзе стаў наш зямляк акадэмік Жорэс Іванавіч Алфёраў, прысуджана за работы ў галіне фізікі паўправаднікоў, якія праведзены ў 60-х гадах мінулага стагоддзя. З яшчэ большаю часовою адтэрміноўкаю была прысуджана прэмія П.Капіцу за адкрыццё з'явы звышцякучасці (1978 г.), паколькі адпаведныя яго работы былі выкананы яшчэ ў 30-х гадах XX стагоддзя.

Па шчырасці кажучы, інфармацыя пра тых, каго вылучаюць кандыдатамі на Нобелеўскую прэмію, з'яўляецца канфідэнцыяльнай. Таму даць вычарпальны адказ няпроста. Адно скажу, што вучоныя НАН Беларусі былі ў ліку кандыдатаў на Нобелеўскую прэмію ў галіне фізікі. Вынікі, атрыманыя нашымі вучонымі па лазерна-аптычнай праблематыцы, таксама дазваляюць спадзявацца на магчымасць іх вылучэння кандыдатамі.

***— Навука не церпіць падзелу на фундаментальную і прыкладную. Сёння ніхто не ведае, як могуць запатрабавацца жыццём тэарэтычныя дасягненні. Тым не меней, ці можаце назваць колькі прыкладаў канкрэтнай дапамогі беларускай навукі эканоміцы?***

— Згодзен з вамі: навукі другога гатунку не бывае. Што датычыць дапамогі навукі эканоміцы, вядома, такія прыклады ёсць. І нямала. Шмат якія навуковыя напрамкі сёння ўжо складаюць аснову тэхнічнага патэнцыялу цэлых галін народнай гаспадаркі. У якасці прыкладу можна прывесці даследаванні па лазернай фізіцы. У Беларусі сфарміраваліся сусветна вядомыя навуковыя школы, якія выконваюць фундаментальныя і прыкладныя даследаванні, вынікі якіх адзначаны Ленінскай прэміяй, Дзяржаўнымі прэміямі СССР і Беларусі. Яны паслужылі асноваю для распрацоўкі і стварэння лазерных прыбораў і тэхналогій, якія шырока прымяняюцца і ў навуцы,і ў медыцыне, і ў прамысловасці. Выпускаюцца лазерна-аптычныя прыборы, спектральнае абсталяванне. Яны знаходзяць збыт не толькі ў Беларусі, але і ў самых развітых краінах свету.

Буйным дасягненнем беларускай навукі з'явілася распрацоўка метадаў сінтэзу звышцвёрдых матэрыялаў і ахоўных пакрыццяў. Без гэтых матэрыялаў немагчыма ўявіць сучаснае машына-і прыборабудаванне, хімічную індустрыю, медыцыну.

У Інстытуце фізіка-арганічнай хіміі НАН атрымаў развіццё такі актуальны навуковы напрамак, як мембранныя тэхналогіі. У гэтым жа інстытуце распрацаваны тэхналогіі атрымання высакаякасных амінакіслот, якія служаць асноваю працэсаў атрымання лекавых прэпаратаў на Скідзельскім заводзе медыцынскіх прэпаратаў, які цяпер узводзіцца.

Урэшце, нядаўна сумесныя распрацоўкі вучоных Аб'яднанага інстытута праблем інфарматыкі НАН Беларусі і расійскіх калег зрабілі рэальным вытворчасць, пачынаючы з 2003 года, прыкладных комплексаў на базе суперкамп'ютэрных канфігурацый "СКІФ" з пікаваю прадукцыйнасцю да 300—400 мільярдаў аперацый у секунду. Распрацоўваюцца прынцыпы рэалізацыі прадукцыйнасці ў некалькі трыльёнаў аперацый у секунду. Наўрад ці трэба пераконваць у відавочным практычным, ды і палітычным значэнні гэтых вынікаў.

***— Я чуў, што група вучоных Нацыянальнай акадэміі знайшла рэцэпт выхаду з крызісу адсталых беларускіх калгасаў, нават здзейснілі гэта на практыцы.***

— Гэта так. Але знайшлі не проста рэцэпт. Вучоныя Нацыянальнай акадэміі навук сумесна са спецыялістамі Мінсельгасхарчу распрацавалі Праграму ўдасканалення АПК на 2001—2005 гады, якая адобрана ўрадам і зацверджана Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Праграма мае шэраг мадэляў і механізамаў пераадолення крызісных тэндэнцый, комплекснай рэструктурызацыі аграпрамысловага комплексу на рыначных прынцыпах і рэфармавання інертных прадпрыемстваў у гібкія і эфектыўныя структуры. Тут адбываецца і змена спецыялізацыі прадпрыемстваў, і фарміраванне сыравінных зон для загрузкі перапрацоўваючых прадпрыемстваў, і змена ўласнікаў. Усе палажэнні Праграмы адпрацоўваюцца на прыкладзе Жлобінскага раёна Гомельскай вобласці. Работа падыходзіць да завяршэння і хутка можна будзе азнаёміцца з яе вынікамі. Навука нічога на веру не прымае, тэорыя павінна пацвердзіцца практыкай. Тым болей нельга забываць пра чалавечы фактар. У рамане "Война и мир" Леў Талстой казаў, што галоўнае — не азот і не кісларод, што знаходзяцца ў глебе і паветры, не нейкі асаблівы плуг, а тое, дзякуючы чаму яны дзейнічаюць, — "мужык-працаўнік". У акадэміі разумеюць гэту ўзаемасувязь. Не памятаю, хто сказаў, але я запомніў выраз, што царэўна палёў — эканоміка. Спадзявацца на нейкія "цуды" ў сельскай гаспадарцы нявартa. Наш час вымушае няшумнай, штодзённай працы.

***— Ці можна гаварыць пра рыначныя адносіны ў дачыненні да Акадэміі навук?***

— Яшчэ ў часы Савецкага Саюза ў сістэме Акадэміі навук БССР існавалі магутныя канструктарскія арганізацыі, даследчыя вытворчасці і заводы, якія выраблялі прадукцыю, што мела збыт на рынках многіх краін.

Нацыянальным сходам краіны абвешчана інавацыйная мадэль развіцця Беларусі, якая мае на ўвазе і развіццё рыначных адносін у навукова-тэхнічнай сферы. Зразумела, Акадэмія навук не можа заставацца ўбаку. У яе складзе функцыянуюць канцэрны, заводы, дзесяткі малых і сумесных прадпрыемстваў, асацыяцыя "Акадэмтэхнапарк". Разам з тым, неабходна знайсці правільныя суадносіны паміж аб'ёмамі фундаментальных, прыкладных даследаванняў і распрацовак. Вядомыя прыклады, калі празмернае захапленне канкрэтнымі работамі прыводзіла да змяншэння задзелаў фундаментальных даследаванняў.

***— Мне здаецца, нельга ахапіць увесь спектр навук. Напэўна патрэбна канцэнтрацыя на тых напрамках, дзе пазіцыя беларускай навукі асабліва моцная, а таксама на тых, рашэнні якіх патрабуюцца грамадствам.***

— Так, выпрацоўка прыярытэтаў навуковых даследаванняў з'яўляецца важнейшай задачай акадэміі. На гэтым шляху даводзіцца пераадольваць мноства стэрэатыпаў. Напрыклад, у гэтым годзе (магчыма, упершыню ў гісторыі развіцця навукі ў незалежнай Беларусі) Акадэміяй навук быў распрацаваны пералік такіх прыярытэтных напрамкаў. Усяго іх дзесяць. Пакуль што гэты пералік зацверджаны толькі Бюро НАН. Але ён яшчэ ў маі 2002 года разасланы ўсім суб'ектам навуковай дзейнасці Беларусі з прапановай карыстацца ім пры фарміраванні навуковых планаў на 2003 год. Пра актуальнасць напрамкаў чытачы "ЛіМа" могуць пераканацца, калі скажу вам, што першым пунктам у ім значыцца энергазабеспячэнне, нетрадыцыйныя крыніцы энергіі і іх эфектыўнае выкарыстанне.

***— Адукацыя і навука — гэта тое, чым Беларусь можа ганарыцца. Здольныя школьнікі і студэнты — будучыя акадэмікі. Зараз адбываюцца значныя змяненні ў сістэме адукацыі, з'яўляюцца новыя праграмы, падручнікі, уведзена 10-бальная ацэнка ведаў школьнікаў. Ці не парушыць шэраг новаўвядзенняў існуючую сістэму?***

— Так, сістэма адукацыі зараз рэфармуецца, таму, без сумнення, яна будзе ў той ці іншай ступені парушана. У той жа час хачу адзначыць, што рэформа даўно планавалася і рыхтавалася. Для гэтага быў вывучаны вопыт шэрагу краін, напрыклад Германіі, праводзіліся эксперыменты не толькі ў асобных школах, але нават у цэлых рэгіёнах краіны. Вядома, шмат хто з бацькоў незадаволены 10-бальнай сістэмай, уведзенай у школах; шмат хто з настаўнікаў адчуваюць сябе даволі няўпэўнена, таму што не могуць з лёгкасцю перайсці ад жорсткай 5-бальнай сістэмы да больш гнуткай 10-бальнай. Толькі практыка можа пацвердзіць эфектыўнасць праводзімых рэформ. Хачу выказацца і яшчэ па адной праблеме. У друку неаднаразова адзначалася, што падручнікі для пачатковых класаў перапоўнены тэарэтычным матэрыялам са складанай для вучняў тэрміналогіяй і вялікія па аб'ёме. Напрыклад, падручнікі па мове і чытанні для 1 класа дасягаюць 300 старонак. Ці патрэбны такі аб'ём для вучня, які яшчэ толькі авалодвае тэхнікай чытання? Таму відавочна, што новаўвядзенні проста неабходныя.

***— Падтрымка навукі дзяржаваю — праблема надзвычай сур'ёзная. Напэўна, дапамога недастатковая. Раскажыце, калі ласка, пра гэта. І яшчэ. Ці карыстаецца НАН фінансаваннем Захаду ў рэалізацыі пэўных праектаў?***

— Дзяржава аказвае значную фінансавую падтрымку. У Законе пра бюджэт на чарговы год устанаўліваецца ніжняя мяжа выдаткаў у працэнтах ад расходнай часткі бюджэту. На 2002 год гэты паказчык быў зацверджаны ў памеры трох працэнтаў. За кошт бюджэтных сродкаў фінансуецца фундаментальная навука, дзяржаўныя навукова-тэхнічныя, прэзідэнцкія і іншыя праграмы, набываецца унікальнае абсталяванне.

На жаль, з-за недастатковасці выдзяляемых бюджэтных асігнаванняў шмат якія навуковыя арганізацыі аказаліся ў цяжкіх умовах. Напрыклад, гадавы аб'ём бюджэтнага фінансавання на навуку ў 2002 годзе павялічаны ў параўнанні з 2001-м у 1,24 разы. У той час як заробак, паводле рашэнняў урада, на цяперашні момант вырас аж у 1,64 разы. З-за гэтай дыспрапорцыі не ўсе навуковыя арганізацыі змаглі ў поўнай меры забяспечыць аплату працы сваіх работнікаў. Шмат каму прыйшлося знаходзіцца ў адпачынках без забеспячэння, уводзіўся няпоўны працоўны тыдзень, праводзілася скарачэнне колькасці работнікаў. Ва ўмовах абмежаванасці асігнаванняў на навуку рост долі выдаткаў на аплату працы прыводзіць да скарачэння долі другіх выдаткаў, без якіх навука не можа абысціся (абсталяванне, матэрыялы і рэактывы для даследаванняў, цепла-і энергарэсурсы і г.д.). Затрымкі з фінансаваннем работ прыводзяць да зрыву ўстаноўленых тэрмінаў выканання праграм і праектаў, што, натуральна, не дазваляе своечасова ўкараняць распрацоўкі ў вытворчасць. У рэшце рэшт бюджэт не папаўняецца дадатковымі прыбыткамі, якія так неабходны для развіцця краіны. На жаль, няма ўпэўненасці, што ў 2003 годзе навука атрымае запланаваныя бюджэтныя сродкі ў поўным аб'ёме.

Што датычыць другой часткі вашага пытання, адзначу, што міжнароднаму супрацоўніцтву мы заўсёды надавалі асаблівую ўвагу. Разам з доступам да новых тэхналогій, метадаў і інфармацыйных крыніц яно прыносіць арганізацыям акадэміі значны матэрыяльны эфект. Даследаванні, якія праводзяцца ў НАН Беларусі, карыстаюцца падтрымкай такіх арганізацый як ЮНЕСКА, Міжнароднае агенцтва па атамнай энергіі (МАГАТЭ), Міжнародны навукова-тэхнічны цэнтр (МНТЦ), Еўрапейскія праграмы (INTAS, INKO—Copernikus). Так, па лініі МНТЦ з 34 праектаў, выкананых у 2002 годзе ў нашай краіне (іх агульнае фінансаванне складае 16,4 мільёна долараў ЗША), 19 выконвалася арганізацыямі Нацыянальнай акадэміі. З гэтым цэнтрам у ліпені 2002 года была дасягнута дамоўленасць аб стварэнні сумеснай беларуска-германскай лабараторыі, беларуская частка якой будзе арганізавана на базе Інстытута фізікі ім.Б.І. Сцяпанава. Па праграме INTAS 17 інстытутаў НАН выконвалі ў 2002 годзе 35 праектаў, з МАГАТЭ — 6, ЮНЕСКА — 7, 5 — па навуковых праграмах НАТА.

***— Будучыня навукі залежыць не толькі ад дзяржаўных асігнаванняў. На мой погляд, павінна існаваць магчымасць і неабходнасць прамысловым прадпрыемствам, прыватным кампаніям размяшчаць у НАН заказы на фундаментальныя і прыкладныя даследаванні, для чаго варта стварыць дзяржаўную праграму.***

— Прадпрыемствы краіны заўсёды мелі і маюць магчымасць размяшчаць у нас свае заказы. Прывяду толькі адзін прыклад. Удзел навукоўцаў і спецыялістаў НАН Беларусі ў асваенні новых тэхналагічных працэсаў на Беларускім металургічным заводзе прынёс краіне гадавы эканамічны эфект у памеры двух мільёнаў долараў ЗША. Разам з тым існуючы аб'ём гасдагаворных работ арганізацый НАН мы лічым недастатковым і імкнёмся яго павялічыць. Рэзкі дэфіцыт абаротных сродкаў прадпрыемстваў абмяжоўвае магчымасць фінансаваць прагцэглыя навуковыя даследаванні. Часцей за ўсё нашы прадпрыемствы гатовы размясціць заказы на давядзенне адпаведных тэхналагічных працэсаў да ўмоў канкрэтнай вытворчасці. Што тычыцца стварэння спецыяльнай праграмы ўкаранення навуковых распрацовак, думаю, што гэта павінна вырашацца ў межах фарміравання цэласнай эканамічнай палітыкі краіны. Раней вы задавалі пытанне пра рыначныя адносіны. Адзначу, што праграма, якая прапаноўваецца, не вельмі добра суадносіцца з імі. У прыватнасці, пытанне, якое шырока дыскутуецца ў цяперашні час, па ўступленні Беларусі ў Сусветную гандлёвую арганізацыю, кепска спалучаецца з фарміраваннем такіх праграм.

***— Якімі былі вашы самыя першыя крокі пасля прызначэння Прэзідэнтам Нацыянальнай акадэміі навук? Ці адбылося рэфармаванне НАН?***

— Указ аб маім прызначэнні Прэзідэнтам краіны быў падпісаны 19 кастрычніка 2001 года. Першыя крокі былі накіраваны на больш блізкае знаёмства з дзеючым у той час складам Прэзідыума НАН, знаёмства з вядучымі вучонымі акадэміі. Правёў шэраг сустрэч, напрыклад, з загадчыкамі лабараторый інстытутаў акадэміі. Адным словам, знаёміўся з людзьмі, са станам спраў, сістэмай прыняцця рашэнняў і іх выканання. Што тычыцца рэфармавання, то на самай справе гутарка ідзе аб рэфармаванні (лепей сказаць — далейшай актывізацыі і ўдасканаленні дзейнасці) не толькі акадэміі. Гэта можна ўбачыць ужо з назваў Дэкрэтаў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь: "Аб павышэнні ролі навукі і рэфармаванні Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі" ад 17 кастрычніка 2001 г. і "Аб удасканаленні дзяржаўнага кіравання ў сферы навукі" ад 5 сакавіка 2002 г. Так, напрыклад, у адпаведнасці з другім з вышэйназваных Дэкрэтаў, у склад акадэміі ўключаны: Акадэмія аграрных навук, дзяржаўныя навукова-вытворчыя канцэрны парашковай металургіі, "Белмашпрыбор", шэраг іншых устаноў. Такое аб'яднанне мела некалькі мэт. З аднаго боку — канцэнтрацыя навуковага патэнцыялу, а з другога — выкананне рашэнняў другога сходу народных прадстаўнікоў Беларусі па рэалізацыі сацыяльна-эканамічных прыярытэтаў краіны, даручэнняў Прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі аб тым, што навука павінна стаць вызначальнай у рэалізацыі гэтых прыярытэтаў. Зразумела, што для такой адносна невялікай краіны неабходна было правесці аптымізацыю навуковага патэнцыялу, раней накіраванага на рашэнне праблем вялікай краіны, каб прыстасаваць яго да беларускай эканомікі. Адзначу, што толькі гаспадарчых дагавароў з прадпрыемствамі рэспублікі заключана на суму ў паўтара раза большую, чым у мінулым годзе. Лічу, што ў кірунку рэфармавання сферы навукі праведзена вялікая работа. Але гэтая сфера чалавечай дзейнасці вельмі кансерватыўная, і год для ацэнкі вынікаў — тэрмін недастатковы.

***— У аснове навукі ляжыць як базавая частка — фундаментальная навука. Яна стварае аснову сучасных тэхналогій, інтэлектуальныя рэсурсы, уплывае на асвету. Якія з такіх даследаванняў, у тым ліку гуманітарных і грамадскіх навук, вы б адзначылі?***

— Падрабязныя звесткі пра дасягненні ў гэтых кірунках можна знайсці ў кнігах "Нацыянальная акадэмія навук Беларусі. 1929—1999","Навука ў Беларусі ў XX стагоддзі" і іншых. Было іх дастаткова і ў 2002 годзе. Я разумею цікавасць чытачоў газеты да таго, што адбываецца ў беларускай навуцы. Таму даводзіцца прыводзіць канкрэтныя факты, але для большасці яны могуць аказацца не зусім зразумелымі. Напрыклад, у Інстытуце фізікі імя Б.Сцяпанавых сумесна з вучонымі з нямецкага горада Аахена і фірмы ЭЙКСТРОН (Зямля Паўночнай Рэйн-Вестфаліі) упершыню ў свеце створаны лазеры (фіялетавая і сіняя вобласці спектра) на гатэраструктурах з нітрыду галію, вырашчаных на падкладках з крэмня. Гэта значны прарыў у галіне стварэння прыстасаванняў, якія выпраменьваюць святло. Ці не праўда — і для вас гэта незразумела? Таму адзначу некаторыя. Адметнай рысай існавання навуковых устаноў гуманітарнага профілю з'яўляецца тое, што толькі на базе такіх калектываў магчыма стварэнне вялікіх па аб'ёме і навуковай значнасці фундаментальных прац. Да іх можна аднесці "Гісторыю беларускай літаратуры XX стагоддзя" ў 4 тамах, "Археалогію Беларусі" таксама ў 4 тамах, шматтомныя выданні "Агульнаславянскі лінгвістычны атлас","Беларусы", разнастайныя слоўнікі, першае навуковае выданне поўнага збору твораў Максіма Танка ў 15 тамах, працы па эканоміцы, філасофіі, сацыялогіі... Акадэмічныя навуковыя працы з'яўляюцца асновай для стварэння новых падручнікаў і вучэбных дапаможнікаў. Толькі за перыяд 2000—2002 гг. вучоныя-гуманітарыі прынялі ўдзел у напісанні 36 падручнікаў і вучэбных дапаможнікаў.

У Аб'яднаным інстытуце праблем інфарматыкі створана новая алафоннафанемная мадэль, якая забяспечвае разборлівасць, якасць і натуральнасць сінтэзаванай рускай мовы, што па сваіх паказчыках перавышае сусветны ўзровень. Мадэль рэалізуе сінтэз рускай мовы па тэксце неабмежаванага слоўніка, а дасягнутыя высокія разборлівасць і натуральнасць гучання ствараюць аснову для паспяховага выкарыстання сінтэзатара мовы ў прыкладных інфармацыйных сістэмах для вырашэння шырокага кола практычных задач: тэлефонныя інфармацыйна-даведкавыя службы, службы апавяшчэння і кантролю, вывад інфармацыі для інвалідаў па зроку і іншых.

***— Складваецца ўражанне, што спакваля згортваюцца праекты па вывучэнні наступстваў аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Ці мо гэта не так? Якую ўвагу надаюць у НАН экалагічным праблемам?***

— Розныя ўстановы Акадэміі навук працягваюць вывучаць наступствы аварыі на ЧАЭС у адпаведнасці з дзяржаўнымі праграмамі, якімі ахопліваецца ўвесь спектр чарнобыльскіх праблем: захаванне здароўя насельніцтва, радыеэкалагічныя і біялагічныя наступствы і гэтак далей. Аднак у апошнія гады заўважаем тэндэнцыю да скарачэння аб'ёмаў фінансавання навуковых праграм і асобных праектаў.

Калі браць другую частку вашага пытання, можна таксама прыводзіць шмат прыкладаў па экалагізацыі гаспадаркі і грамадскага развіцця краіны. Існуе некалькі дзяржаўных праграм. Пры Прэзідыуме НАН эфектыўна функцыянуе экалагічная камісія (старшыня — акадэмік І.Ліштван), якая дае заключэнне пра экалагічнасць важных праектаў на тэрыторыі рэспублікі, а таксама Навуковы Савет па праблемах біясферы (старшыня — акадэмік В.Парфёнаў), якая каардынуе навуковыя даследаванні ў галіне глабальных заканамернасцяў біясферных працэсаў. Хачу звярнуць вашу ўвагу яшчэ на адзін аспект нашай дзейнасці па экалагічных праблемах — удзел у заканатворчай дзейнасці.

***— Колькі акадэмія мае навукоўцаў, а сярод іх колькі акадэмікаў, членаў-карэспандэнтаў, дактароў і кандыдатаў навук?***

— Колькасць тых, хто працуе ў НАН, у лістападзе 2002 года складала крыху больш чым 17 тысяч чалавек. Сёння ў нас — 73 акадэмікі, 102 члены-карэспандэнты, 3 ганаровых і 16 замежных членаў НАН Беларусі. У яе складзе таксама 16 акадэмікаў, 23 члены-карэспандэнты, 20 замежных членаў з былой Акадэміі аграрных навук РБ. У НАН працуе 611 дактароў і 2268 кандыдатаў навук, прычым удзельная вага спецыялістаў вышэйшай кваліфікацыі (дактароў і кандыдатаў навук) у агульнай колькасці складае 51,9 працэнта.

Аналіз кадравай сітуацыі будзе няпоўным, калі не сказаць пра навуковую эміграцыю. Штогод у сярэднім выязджаюць за мяжу і там застаюцца 15—20 навуковых супрацоўнікаў акадэміі. Так, у 2000 годзе эмігрыравалі 22 навуковыя работнікі і аспіранты, у іх ліку адзін доктар навук, 14 кандыдатаў навук. У мінулым годзе колькасць зменшылася да 10 чалавек. Ёсць прыклады і зваротнага працэсу — вяртання вучоных на радзіму. Нядаўна пасля доўгага знаходжання за мяжою (праца па кантракце) вярнуліся тры супрацоўнікі Інстытута біяарганічнай хіміі.

***— Тымі, хто з'язджае, з аднаго боку кіруе матэрыяльная зацікаўленасць, з другога, яны адчуваюць сваю незапатрабаванасць дома. Вы нядаўна выказаліся даволі жорстка з гэтай нагоды. Мяркую, заходнія краіны павінны кампенсаваць Беларусі набыццё нашых вучоных. Выкажаце, калі ласка, больш канкрэтна ваша бачанне праблемы і шляхі яе вырашэння.***

— Як вядома, працэс міграцыі навуковых кадраў пачаўся яшчэ ў 1970-х гадах. У выніку чаго ў канцы 1980-х толькі ў Ізраілі працавала 30 тысяч інжынераў і 20 тысяч урачоў, якія прыехалі з былога Савецкага Саюза. ЗША за кошт эмігрантаў з СССР задаволілі палову сваіх патрэб у матэматыках. Прыезджыя спецыялісты займаюць 15 працэнтаў месц на сакрэтных работах у сістэме ваенна-прамысловага комплексу Злучаных Штатаў. Арганізаваўшы прыток урачоў з-за мяжы, яны пазбавіліся неабходнасці ўкладваць грошы ў будаўніцтва 15 медыцынскіх навучальных цэнтраў для задавальнення патрэб краіны ў медыках. Але ж (па дадзеных ЮНЕСКА) падрыхтоўка такога роду спецыялістаў абыходзіцца ў 50 тысяч долараў, і на працягу кожных наступных 10 гадоў працы спецыяліст прыносіць сваім наймальнікам каля 250 тысячаў долараў прыбытку. Па дадзеных Лонданскай школы эканомікі, дзякуючы эмігрантам, ЗША эканомяць толькі на выдатках па падрыхтоўцы навуковатэхнічных кадраў 4 мільярды долараў у год. Па іншых ацэнках гэта сума складае не меней чым 5 мільярдаў.

Як бачыце, мае прапановы па кампенсацыі Беларусі выдаткаў, панесеных ёю на падрыхтоўку навуковых кадраў для іншых краін, маюць не толькі маральныя аспекты, але і ярка выражаны матэрыяльны момант. Пакуль жа ў якасці аператыўных мер па мінімізацыі навуковай эміграцыі можна прапанаваць наступнае.

1. Вызначыць навуковыя напрамкі і арганізацыі, якія ўяўляюць асаблівую каштоўнасць для краіны. Здзейсніць іх падтрымку шляхам пераразмеркавання капіталаўкладанняў, аказання фінансавай, матэрыяльнай дапамогі, расшырэння прыёму і падрыхтоўкі студэнтаў і аспірантаў па той ці іншай спецыяльнасці і іншыя меры.

2. Стымуляваць паступленне заказаў з-за мяжы на выкананне НДДКР і забяспечваць арганізацыю іх размяшчэння ў навуковых калектывах рэспублікі.

3. Спрыяць двухбаковым кантактам вучоных-эмігрантаў і айчынных навуковых арганізацый. Напрыклад, забяспечыць абмен інфармацыяй, удзел у сумесных праектах, выпуск часопісаў на беларускай і рускай мовах для публікацыі вучоных-эмігрантаў...

4. Стварыць рэспубліканскі банк дадзеных пра навуковых і навукова-педагагічных працаўнікоў, якія эмігравалі з краіны ці часова працуюць за мяжою.

5. Распрацаваць праект Закона Рэспублікі Беларусь "Аб знешняй інтэлектуальнай міграцыі", які б прадугледжваў: спрашчэнне парадку вяртання спецыялістаў да іх працы ў айчынных навуковых арганізацыях; увядзенне на прынцыпах узаемнасці з асобнымі краінамі права на двайное грамадзянства; замацаванне за вучонымі, якія выехалі, кватэр і іншых правоў у сацыяльнай сферы (працоўны стаж, пенсіі, страхаванне) і гэтак далей.

***— Міхаіл Уладзіміравіч, я збіраўся яшчэ пацікавіцца распрацоўкамі ў медыцыне, геалогіі, іншых сферах. Але бачу, што наша гутарка можа перайсці ў нейкую справаздачу Нацыянальнай акадэміі навук. Таму апошняе пытанне: якая са сфер навукі бліжэй асабіста вам?***

— Згодзен з вамі: я мог бы яшчэ шмат расказаць пра нашы дасягненні і планы. Хапае і праблемаў, якія ў адной публікацыі немагчыма адлюстраваць. Таму запрашаю "ЛіМ" да сталага супрацоўніцтва з акадэміяй. Мы не зачыняем дзвery, і заўсёды згодны падзяліцца цікавай інфармацыяй. Што датычыць маёй асабістай схільнасці да нейкай навуковай сферы, дык гэта — эканоміка. А калі дакладней — эканамічная бяспека і фінансава-прамысловыя групы.



## МЫ — БЕЛАРУСЫ!

Як горда, як пашанотна павінны гучаць два гэтыя словы ў сэрцы кожнага з нас! **Мы — нашчадкі славутага старажытнага славянскага роду, дзеці зямлі, што, нягледзячы на ўсе навалы, войны і катастрофы, якое ўжо стагоддзе кормiць-поіць нас, і мы абавязаны памятаць пра гэта.** Абавязаны — і перад продкамі, што не далі вынішчыць ні зямлі, ні мовы сваёй, і перад нашчадкамі, што ўзжадаюць і чыстае крынічнае вады, і чыстага, спеўнага слова беларускага, бо і ім, як нам, не жыць без гэтага...

Як пацвярджае шматвяковы вопыт, **ніякія і нічые ўказы і загады не створаць нічога ні ў эканоміцы, ні ў культуры, калі грамадскасць — усе мы! — будзем абыякавымі і бяздзейснымі.** Усё — і ва ўласным дабрабыце, і ў дабрабыце нашай краіны — залежыць ад нас. Ад нашай адданасці сям'і, справе, Айчыне. Ад нашай упэўненасці ў сваёй сіле, у сваёй праваце. Ад нашай перакананасці ў сваім праве гучна, справе заявіць усяму свету: м ы — б е л а р у с ы!

Няхай жа акцыя па стварэнні кнігі "Мы — беларусы!" стане агульнанацыянальнай, агульнанароднай!

**Узгадайце род свой, азірніцеся на жыццё сваё, на ўсё, што выклікае ў душы пачуццё гонару, — і пішыце.**

Агульнымі нашымі намаганнямі кніга "Мы — беларусы!" пазначыць наша месца ў свеце і ў часе, былым і цяперашнім, стаўшы кропкай адліку для новага стагоддзя, для новага тысячагоддзя.

Пішыце на адрас: 220034, Мінск, вул. Захарава, 19, рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і мастацтва"; EMAIL: gazeta_lim @ tut. by.

## МОЖНА ПАДПІСАЦЦА І СЁННЯ!

Шаноўныя чытачы! На першае паўгоддзе 2003 года на "ЛіМ" можна падпісацца і сёння. Кошт індывідуальнай падпіскі на адзін месяц — 2500 рублёў, на квартал — 7500 рублёў.

**Індывідуальны індэкс — 63856.**

Кошт ведамаснай падпіскі на адзін месяц — 4000 рублёў, на квартал — 12000 рублёў.

**Ведамасны індэкс — 63857.**

# ...І ЗАЎЖДЫ Ў СЭРЦЫ — БЕЛАРУСЬ

**Сярод шматлікіх грамадскіх арганізацый, што працуюць у сталіцы Расійскай Федэрацыі, ёсць і Аб'яднанне беларусаў Масквы "Бацькаўшчына". А што намаганні яго па аб'яднанні беларусаў, якія апынуліся ў далечыні ад Бацькаўшчыны, па адраджэнні, вывучэнні, развіцці і прапагандзе беларускай культуры, наладжванні сувязяў з этнічнай радзімай даюць вялікі плён, у першую чаргу заслуга старшыні аб'яднання Аляксандра Глода. Прынамсі, апошнім часам за кошт фінансавання масквічоў выйшла некалькі кніг, адкрыта мемарыяльная дошка Алесю Адамовічу, праводзяцца розныя культурныя мерапрыемствы.**

**Дык хто ж гэты чалавек, які ўзяў на сябе цяжар работы па згуртаванні нашых суайчыннікаў! Пра А. Глода можна даведацца з нарыса "Там, дзе квітнее глог", што прадстаўлены ў кнізе Рыгора Андрэяўца "Беларусы ў Расіі", якая пабачыла свет у Маскве.**

**Рыгор Андрэявец — вядомы журналіст, які аддаў любімай прафесіі звыш трыццаці гадоў. Найбольшага поспеху дасягнуў, як заснавальнік і нязменны галоўны рэдактар літаратурна-гістарычнага і грамадска-культурнага часопіса "Палессе", што выходзіць у Гомелі. Паэтычныя творы ў "Палессі", як правіла, змяшчаюцца на мове арыгінала: адпаведна на беларускай, рускай ці ўкраінскай.**

**Пра каго б ні расказваў Рыгор Мікалаевіч (а героямі кнігі з'яўляюцца прамыслоўцы, банкіры, прадпрымальнікі, военачальнікі, прадстаўнікі творчых прафесій — усяго каля трыццаці чалавек), ён гэта робіць так, што кожны персанаж паўстае ў поўны рост.**

**Папярэднічае ж гаворцы пра знакамітых беларусаў у Расіі аглядны артыкул "Асенні клін жураvoў", у якім прыводзяцца цікавыя звесткі, якія тычацца эміграцыі беларусаў за межы Бацькаўшчыны ў розныя гады. Цяпер у Расійскай Федэрацыі жыве 1 мільён 206 тысяч беларусаў, у тым ліку ў Маскве — звыш 70 тысяч. А. Глод і належыць да гэтай слаўнай кагорты тых, хто ніколі не забывае, адкуль ён родам, дзе яго карані.**

**Не забывае пра гэта і вядомы пісьменнік, вучоны, грамадскі дзеяч Міхаіл Расолаў ("Святло беларускіх бярозаў"). Аўтар кнігі прыводзіць тэкст сваёй гутаркі з Міхаілам Міхайлавічам. Дарэчы, матэрыялы зборніка пададзены такім чынам, што яны разнастайныя ў жанравых адносінах. Гэта і традыцыйны нарыс, і публіцыстыка, і інтэрв'ю. Выкарыстоўваецца і форма ўспамінаў.**

**Міхаіл жа Расолаў парупіўся стварыць на роднай Рагачоўшчыне дзве карцінныя галерэі. У вёсцы Ціхінічы, дзе нарадзіўся, пабудаваў царкву, а сродкі, атрыманыя ад рэалізацыі свайго Збору твораў, які цяпер ажыццяўляецца, мае намер накіраваць на будаўніцтва Ціхініцкай участковай бальніцы.**

**Клопатам аб роднай Беларусі жыве і Мікалай Лобач ("Выпрабаванне вернасцю"). Гэта ён стаў адным з ініцыятараў святкавання 1000-годдзя Друцка і будаўніцтва ў тамашніх мясцінах царквы Святой Багародзіцы, як напамінак аб храме, які быў узведзены тут у глыбокай старажытнасці.**

**І іншыя героі кнігі — людзі знакамітыя: старшыня праўлення Прамбудбанка Расіі Якаў Дубянецкі ("Карані роду"), прэзідэнт Асацыяцыі культурных і эканамічных сувязяў Расіі і Беларусі Францішак Каўрыга ("Святло Радзімы"), Аляксей Кавалевіч, які ўзначальвае гасцінічны комплекс ("Жыццё, што ўдалося"), дырэктар ваеннай друкарні Аляксандр Пякарскі ("Беларускі характар") і іншыя.**

**Сапраўды, ва ўсіх гэтых людзей беларускі характар. А праяўляецца ён у тым, каб не проста жыць, а жыць з поўнай аддачай. А што менавіта так і жывуць нашы землякі за межамі Бацькаўшчыны, і пераконвае кніга Р. Андрэяўца "Беларусы ў Расіі".**

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**



# СЫНАВА БАЦЬКАЎШЧЫНА

Апошняя мая сустрэча з Вячаславам Адамчыкам адбылася ў рэдакцыі "ЛіМа", у тым пакоі, які цяпер займае галоўны рэдактар часопіса "Маладосць" Раіса Баравікова. А яшчэ гады тры назад там сядзеў Барыс Пятровіч, да якога і збіраліся на "падвячоркі" ўсе тыя, хто не толькі пісаў, але і жыў літаратурай. Аднойчы зайшоў туды і Адамчык. Ці то прынёс нешта сваё для штотыднёвіка, ці то проста так зазірнуў па дарозе. Слова за слова — і мы з ім заспрачаліся. Не ведаю чаму, але менавіта з Адамчыкам я "браўся ў рожкі" заўсёды. Па-добраму, вядома. Можа таму, што ён і сам быў схільны да палемікі. А завяліся мы тым разам пра былую партыйную наменклатуру, да якой і ён меў калісьці нядоўгае, але помнае дачыненне... Аднак жа Вячаслаў Уладзіміравіч, як бы спяшаючыся, перахапіў ініцыятыву і неўпрыкмет перавёў гутарку на вайну — на партызаншчыну, і з падрабязнай гідлівасцю, як па-пісанаму, распавёў пра жывёльны здзек падпітых партызан над маладзенькай настаўніцай...

Ужо тады хадзілі чуткі, што Вячаслаў Уладзіміравіч прыхварэў...

асобнага — жыцця не хапала, каб завалодаць ёю і нарэшце займецца яе як сваю...

Адсюль, ад бяссілля перад згуртаваным злом, — і страх, і немач, і цынізм, і блюзнерства людзей вайны... "За Родину!", "За Сталина!" Не, такія ідэалагічныя заклікі не для тых, хто застаўся ў тыле. У іх — іншыя: за зямлю, за жыццё...

*("Маладая, падобная да дзяўчаняці-падлетка настаўніца" і яе па сутнасці безыменныя гвалтаўнікі і забойцы — "пяцёра смярдзючых ад тытуню і самагоннага перагару дужых мужчын", а пасярэднік паміж імі — калега "навучыцелькі" па школе Ілюк, што апынаецца ў ролі Юды...;*

*дзве сям"і Бронікаў, што мяжуюць полем і сенажацямі, гінуць з-за каня, якога выкрадае малады Бронік-партызан у бацькі Броніка-паліцая, а разам з імі знішчаецца і вёска з усімі яе бязвіннымі жыхарамі;*

*"малахольны Лёнік Шашок", былы партызанскі карнік, які "жыў толькі адным жаданнем і прагай — застрэліць", забівае і цяпер, пасля вайны, запісаўшыся ў "истребитель-*

радазіраваць" савецкую гуманнасць адпаведна з "сусветнай дэкларацыяй правоў чалавека"... Па выбаленых тэкстах кніжкі адчуваецца, што далося яму гэта ой як няпроста. І ці не на такім этапе духоўнага змагання з самім сабой у імя чалавека і заспела яго, чуйная да ўсякай людской слабасільнасці, хвароба фізічная?..

*"...у штармавое, успененае мора літаратуры пад светлымі ветразямі выплывала ўжо новае пакаленне. І пакуль што яно зрабіла ці здзейсніла найбольш — даплыло да неадкрытых берагоў святое праўды. Але ж колькі сярод іх засталося невядомых і нязнаных, выключаных з універсітэтаў, інстытутаў і тэхнікумаў. (...) ...у памяці ўваскрасае ўжо не адна шчымлівая, як задаўненая рана, блізкая ці падобная гісторыя, калі ў мяне на вачах нявечылася чыясьці маладосць, калечыўся і перайначваўся чалавечы лёс. Але пра гэта з Божае ласкі напішуцца іншыя старонкі маіх нявыдуманых апавяданняў."*

І ўсё ж маё чытанне перапынілася і "недаўменна застыгла" напрыканцы апаведа, які і даў назоў гэтай кніжцы, "Нязрушаны камень", дзе

І ці не тым, нялепшым для сябе, часам і пісаў ён пакінутую "недапісанай" навелу "Прылёт кажана" з блізкім да пераказанага ім тады ў "ЛіМе" сюжэтам?.. Магчыма, на нас, маладзейшых, ён выпрабоўваў гарт свайго будучага, а мо ўжо й гатовага ў галаве твора...

Шарай гадзінай мы разам з ім выйшлі з рэдакцыі. Спускаючыся ў падземку на Круглай, я ненастойліва папрасіў у яго інтэрв"ю да літаратурнай "постаці", якую мы планавалі падрыхтаваць у часопісе "Крыніца"... Ён, без асаблівай зацікаўленасці, пагадзіўся. (Можа, вычуваючы сваю цяжкую хваробу, прыпомніў, як не паспявалі мы зрабіць "постаці" з яшчэ жывымі Яўгеніяй Пфляўмбаўм, Максімам Танкам, Піменам Панчанкам і Васілём Віткам).

Развіталіся як да заўтра... І вось яно наступіла. Ягоны сын

Валодзя, вядомы сёння выдавец і пісьменнік (дарэчы, якраз не бацькава — зноў-такі спазніліся, а "постаць" Адама Глобуса і пабачыла свет у апошняй, яшчэ *нашай*, "Крыніцы"), падараваў мне гожы, абгорнуты ў супервокладку, пасмяротны томік апошніх твораў Вячаслава Адамчыка "Нязрушаны камень".

Навелістыка "беларускай грамадзянскай вайны" пасярод вайны сусветнай, якую да гэтай пары наша літаратура па сутнасці не паказвала (замоўчвала альбо абмінала) уражвае сваёй фізічнай і духоўнай непрыкрытай прапарцыянальнасцю. Партызаны, паліцаі і астатні паспаліты народ (старыя, жанчыны, дзеці) змагаюцца, як хто можа, за выжыванне ў гэтым, распаленым чужынцамі, пекле... І дурню вядома, што ў падобнай дзікай і чалавеканенавіснай бойцы перамога будзе на баку жывых, а не забітых... Людзі і нелюдзі тут — як дні і ночы. Днём — людзі, ноччу — нелюдзі. Вячаслаў Адамчык яшчэ раз, але ўжо ў стане драматычнай сітуацыі, паказаў нам "чужую бацькаўшчыну". Яна ўсё яшчэ не ведала і не выбрала: чыёю ён быць? Кожны прымяраў да яе сваё ўласнае жыццё, аднак, усякага — па-




*ный батальон", ён усё ж падпільноўвае ў засадзе былога дэзерціра Віталя Якшука з поўнымі вёдрамі вады;*

*Сцёпа Галаскок, праваднік савецкіх спецгруп у нямецкі тыл, знішчае ўсіх, на каго меў хоць якую дробную крыўду, у тым ліку і сваю састарэлую настаўніцу;*

*маладзенькую Броню з немаўлём, якое немцы прызналі за "kleiner juda!", ад расправы з немцамі выратоўваюць не ксёндз і не іншыя запалоханыя людзі, а "дурнаваты Васіль" ( якія калізіі: адзін — "малахольны" — сваіх расстрэльвае, а другі — "дурнаваты" — іх выратоўвае!);*

*"апушчанага" Янака Мацюка смерць забірае толькі з другога разу і то таму, што ён сам, выпадкова трапіўшы на апазіцыйны мітынг, вырашыў адпомсціць міліцыянтам, "навотліў жахнуўшы жалезнай гайкаю" спецназаўца ў блакітнай камізэльцы пад лічбаю "36"...)*

Як бачым, у гэтай калатнечы гінулі толькі свае (мажліва, кожны пяты)... Высноваў і па сёння — аніякіх.

Непадробная мова, своеасаблівая стылістыка, тонкі лірызм, яркі метафарычны рад і адметная вобразнасць — увесь гэты, набыты немалым літаратурным вопытам, арсенал выдатнага майстра нацыянальнай літаратуры дае падставы для даўгавечнасці ягоных твораў. У "Крэсках з аўтабіяграфіі", што падаюцца на зачыне кніжкі, яшчэ ў 1967 годзе Вячаслаў Адамчык пісаў: *"Мой невялікі народ варты вялікай кнігі. Я гавару не толькі пра сябе. Я веру нашай літаратуры, на яе спадзяюся. Трохі перайначу слыннае прароцтва: многія славянскія літаратуры сказалі сваё, надышла пара нашай. Шчаслівы буду, калі на ніве беларускае літаратуры ўзыдзе і маё зярнятка".*

Як да творцы, лёс да яго быў літасцівым: узышло і ўскаласіла...

Безумоўна, пісьменніку давялося перажыць "ломку" ўласнага ўнутранага свету, каб падчас "перестройки" рэфармаваць сваю свядомасць, і "пе-

хворы і састарэлы Сымон Чачотка і праз сорак гадоў не можа прабачыць свайму аднавяскоўцу Апанасу Жамойдзіку колішняга граху, што здарыўся з-за маладога шалу... Адзінае, што захавалася тут у ягонай вёсцы, куды Сымон Чачотка прыехаў у адведкі — гэта камень на мяжы бацькавага поля. *"Камень, як што жывое, даўно чаканае і жаданае, велічна заружавеў перад Сымонам. Той самы пляскаты, адсечаны з аднаго боку, нібы сякераю, востры, падобны да нарога ў плузе, родны камень. Сымон прыкленчыў і з цяжкім уздыхам хацеў абняць гэтую вечна маўклівую глыбу, але рукі не сцягвалі — камень быў шырэйшы. І Сымон прыпаў шчакою і грудзьмі да яго ранішняга, яшчэ вільготнага холаду. (...) "Ці ведаеш ты, што я прайшоў паўсвета, каб нарэшце вярнуцца сюды і развітацца з табою?"*

Што ж сімвалізуе гэтая "каменная нязрушанасць"? Нас і нашу нацыянальную самабытнасць? Не звыклую ментальную талерантнасць і памяркоўнасць, а — цвёрдасць і непарушнасць?..

---

Вячаслаў Адамчык, "Нязрушаны камень", Мінск, "Сучасны літаратар", 2002г.

Мажліва. І ўсё ж нешта не зусім беларускае, анамальнае для нашага хрысціянскага (схільнага да уніяцтва) характару падалося мне ў гэтым эпізодзе навелы. Гэта — статычны рэалізм (прататыпам непрабачыўшага з"яўляецца дзядзька пісьменніка) ці пэўная маральная пазіцыя самога Вячаслава Адамчыка?

Не ведаю, чаму, але з гэтага самага месца і сам я пастражэў да тэкстаў В.Адамчыка і перастаў прабачаць яму нават дробныя агрэхі, не кажучы ўжо пра другаснасць такіх аповедаў, як "Бронекамізэлька № 36" і "Трывушчая" ("не з ягонай оперы"). Альбо, да прыкладу, калі слынны пісьменнік як бы мімаходзь і няўзнак робіць "папрокі" сваім былым калегам — на вялікі жаль, ужо таксама нябожчыкам — Максіму Танку і Алесю Адамовічу за іх баязлівасць пераступіць ідэалагічную мяжу... У такім выпадку, мабыць, і самому трэба дарэшты "агольвацца" і прызнаваць сваю былую камунасавецкую прыналежнасць... Бо, як пісаў Янка Сіпакоў: "Усе мы з хат"... І кум, і сват...

І ўсё ж будзем справядлівымі, Вячаслаў Адамчык своечасова напісаў свае знаныя і любімыя ў народзе творы, найперш, "Чужую бацькаўшчыну" і пасля — агулам усю сваю эпахальную тэтралогію: раманы "Год нулявы", "І прыйдзе той, хто народзіцца", "Голас крыві брата твайго"... За тое і ўслаўлены.

Мяне ж у гэтым гожым томіку, бадай, не менш, чым бацькавыя, уразілі і ўсхвалявалі літаратурныя тэксты яго сына, Адама Глобуса. Такіх мастацкіх помнікаў сваім бацькам у нас, здаецца, не "ставіў" яшчэ ні адзін пісьменнік. Пабачыўшы напярэдадні Дзядоў фота занядбанай магілы аднаго з былых равеснікаў Вячаслава Адамчыка, падумалася пра ўсё ўсякае...

"Тата + Мама" — гэта, на маё меркаванне, пакуль найлепшы літаратурны тэкст Адама Глобуса. Можна напісаць дзесятак "Дамавікамеронаў", а тое, што баліць, — толькі аднойчы...

*"Сынок, — кажа мама, — спачатку трэба, каб дзеці паважалі бацькоў, а бацькі любілі сваіх дзяцей. Пазней надыходзіць час, калі ўсё змяняецца; і трэба, каб старыя бацькі паважалі сваіх дзяцей і любілі ўнукаў, а дзеці любілі сваіх старэнькіх бацькоў. Я вельмі ганаруся сваімі дзецьмі, і цябе паважаю..." А я люблю цябе, мама."*

Чытаючы гэта дадалося наўздагон яшчэ і сваё: калі будзем памятаць гэта, як "Ойча наш", можа, тады і будзе ва ўсіх нас — беларусаў — СВАЯ БАЦЬКАЎШЧЫНА...

А на гэтых радках я і ўвогуле не стрымаў слёз, і прызнацца ў тым не саромеюся, хоць, здаецца, мужны па натуры. Пры чытанні, раптам, нешта ўнутры мяне сцялася, затрымцела, заныла, — можа, гэта душа і ёсць? — у вачах "уваскрэсла" ўсё сваё балюча-помнае, і нястала моцы хаваць закладзенае прыродай...

*"Я так доўга збіраўся напісаць лірычны твор пра тое, што знікае. Адкладваў, адкладваў... Лічыў сябе не падрыхтаваным да тэмы. Так, адно нікаду пра дым, які віецца над згаслай свечкаю, пра жоўты пясочак, што цячэ са стромкага берага ў рачную плынь, пра зменлівыя карункі аблокаў... А тут тагава памiранне... Нават у кроплях дажджу, што скочваюцца з лістоў ліпы за акном, я бачу свае слёзы, свой плач па тату."*

Без боскага таленту, не перажыўшы падобнае, так не напішаш. Той-сёй кажа мне сёння, што *тут* Глобус не такі, як ёсць. Не, дарагія мае, гэта ён *там* не такі...

Бо вось жа і бацька яго ў сваім заключным тэксце гэтай кніжкі "Генеалогія альбо Радавод Адамчыкаў" рэзюмуе так:

*"Згодна гіпакратаўскаму трактату "Аб сядміцах", у чалавека ёсць сем сезонаў, якія называюць узростамі: да сяміжды сямі — пажылы, аж да пяцідзесяці шасці гадоў, да сяміжды васьмі і адтуль — стары. Значыць, сённяшні мой узрост паміж шостым і сёмым сезонам. І мне ўжо забаронена ўжываць салодкае, есці толькі салёнае і памяншаць насалоду.*

*На гэтым скончу, прыгадаўшы толькі Арыстоцеля: "той, хто шукае мяне, знойдзе мяне ў дзецях..."*

Што да гэтага можна дадаць? Час пакажа. Радавод працягваецца... Беларусь жыве.

**Леанід ГАЛУБОВІЧ**

# КАБ НЕ ПАГАСЛА СВЕЧКА НА ПОКУЦІ...

Хто ўпершыню быў на зямлі, дзе 120 гадоў назад нарадзіўся Якуб Колас — а гэта верхняе Наднямонне, Стаўбцоўшчына, — той, цікаўны чалавек, напэўна ж, не прамінуў наведаць хоць бы адзін з чатырох тутэйшых філіялаў музея народнага песняра Беларусі. Самы бліжэйшы ад Мікалаеўшчыны, дзе стаіць помнік паэту, філіял у Смольні, на самым беразе Нёмана. Побач з новым двухпавярховым будынкам — старэнькая хата, у якой усё жыццё пражыў родны брат Якуба Коласа Іосіф Міхайлавіч або "дзядзька Юзік". Хата, якая помніць першую сустрэчу Якуба Коласа і Янкі Купалы. Сёння ў ёй — музей побыту, рэчаў гаспадарчага і хатняга ўжытку, якімі карысталіся бацькі і сваякі песняра, а ў шырокім сэнсе, падобныя рэчы мелі ўсе беларусы.

Аднойчы прыйдзе сюды творчы чалавек, а затым і не раз, акіне шырока поглядам усе гэтыя рэчы, пранікнецца іх сутнасцю, глыбока задумаецца і пачне пісаць кнігу. Гэты чалавек — мой зямляк, паэт, родам з Мікалаеўшчыны, Мікола Маляўка.

"Сядзіба, або Хата з матчынай душою" — кніга ў поўным сэнсе слова незвычайная, унікальная, і не толькі ў творчасці самога аўтара, але і ва ўсёй нашай літаратуры для дзяцей.

"Для кожнага з нас, вяскоўцаў, сядзіба — тая спадчына, зробленая рукамі і духоўная, якую атрымалі мы ад продкаў і якую павінны годна перадаць сваім дзецям і ўнукам.

Што страцілі мы з гэтай спадчыны? Што прыдбалі за свой век? Уздыхаць па старых рэчах, вяртацца да старога ўкладу жыцця не варта, але ведаць, як жылі нашы дзяды-прадзеды, — трэба", — так пачынае аўтар кнігу, — піша, у сваёй кароценькай прадмове.

Дык што і чаму трэба перадаваць у спадчыну дзецям і ўнукам? Вось галоўнае пытанне, *дзеля чаго пісалася кніга.* Адказ — ва ўсім багатым, насычаным зместам і малюнкамі кніжным матэрыяле. Сама кніга складвалася, як кажуць, па крупінках.

На працягу многіх гадоў яе матэрыялы друкаваліся ў часопісе "Вясёлка", дзе працуе Мікола Маляўка. Друкаваліся ў форме абразкоў з жыцця старой вёскі. Гэтыя кароценькія аповеды перасыпаліся народнымі прыкметамі, прыказкамі і прымаўкамі, жартамі, загадкамі. Каб праверыць дзяцей на кемлівасць, даваліся заданні адказаць на пытанні, звязаныя з сядзібаю, з жыццём і працаю яе гаспадароў.

Усё гэта ёсць і ў кнізе, якую аўтар разам з мастаком Яўгенам Ларчанкам выбудавалі вельмі арыгінальна. Паралельная вёрстка матэрыялу, тэкст і багацце малюнкаў выдатна дапаўняюць адзін аднаго, даюць магчымасць адчуць тое асяроддзе, у якім жылі нашы продкі. Перад чытачом, нібы своеасаблівая экспазіцыя,праходзіць уся панарама няхітрага нажыткy беларуса, яго побыту. Аўтарскія вершы з народнай асновай, як тая свечка на покуці, высвечваюць асноўную думку кожнага раздзела. Вось як хораша кладуцца паэтычныя радкі там, дзе гаворыцца пра збанкі, гарлачы, глякі, гладышы...

*Мы днём лятаді, як стрыжы.*
*Займала дух. І сохла ў роце.*
*А маці мыла гладышы,*
*Абсохнуць вешала на плоце.*
*.........................................*
*Цяпер і гэта скарб душы,*
*І з ім расстацца немагчыма:*
*Упаў той плот, а гладышы*
*Усё вісяць перад вачыма...*

Уваход у кнігу, як і ўваход у самую сядзібу, пачынаецца з БРАМЫ, ВАРОТ, ВЕСНІЦ. Праз іх ходзяць гаспадары, уязджаюць госці. "Расчыняйце браму — едуць госці, едуць з вёсак дальніх, з маладосці. Расчыняйце браму: сёння свята — льюцца з вокнаў песні, скача хата..." А вось і сама ХАТА, СЕНЦЫ... А каля іх — ПРЫЗБА, ЛАЎКА, дзе любілі пасядзець гаспадары, завітаўшыя госці, суседзі.

А што ў хаце адразу навідавоку, што сустракае? Вядома ж, ПЕЧ. "Яна галодная — хата халодная, яна пад'ела — у хаце пацяплела". Далей аўтар піша: "Гэта загадка не толькі пра печ увогуле, але і пра печ майго дзяцінства. Яна грэла і карміла мяне з братам, лячыла ад прастуды, расказвала казкі маміным голасам і ціха закалыхвала на чарэні ў цёплым паўзмроку". Лірычны пачатак, непасрэдная прысутнасць аўтара амаль у кожным матэрыяле кнігі. Бо ён жа вясковец, з малых гадоў пазнаваў бацькоўскую сядзібу. Гэтая аўтарская адкрытасць, шчырасць яшчэ больш прыцягвае юнага чытача, прыдае яму даверу. А што яшчэ там цікавае ў хаце? СТОЛ, ЛАВА, УСЛОН... ЛОЖАК, ПАЛОК, ПАЛАЦІ...КАЛЫСКА... Над ёю ЦАЦКІ... Ага, ці так, як цяпер? Не, вядома ж. Не тая КАЛЫСКА, не тыя ЦАЦКІ... А вось і самае пачэснае месца — ПОКУЦЬ, "Бог жыве на небе, Бог жыве ў царкве. А ў вясковай хаце дзе Ён, Бог, жыве?" — гэта загадка, якую тут жа лёгка адгадаць, глянуўшы на малюнак ПОКУЦІ, дзе ў самым верхнім кутку абраз або ікона.

А якімі ж рэчамі карысталіся гаспадары ў хаце, што гатавалі, варылі, выпякалі? Хлеб, казалі ў народзе, — усяму галава. Яму пакланяліся, клалі на стале, свежавыпечаны, на абрус перад покуцем. А каб здабыць муку для выпечкі хлеба, што патрэбна было? Патрэбны былі ЖОРНЫ. Два камяні адзін на адным, млён... Круціў такі млён і сам аўтар кнігі. "Экзотыка!" — падумае не адзін сённяшні юны чытач. Тым больш, калі прачытае далей: ДЗЯЖА-ХЛЕБНІЦА, ДЗЕЖКА-БЛІННІЦА, ПРАСНАК-СКАВАРОДНІК... КАДАЎБ, КАДУШКА-ТАЎСТУШКА, КУБЕЛЕЦ... БЯЗМЕН... СТУПА, ТАЎКАЧ... ДАЁНКА, БОЙКА... МАКАЦЁР, ЗБАН, ГАРШЧОК... А якія стравы былі? ВЕРАШЧАКА, БАБКА, КЛЁЦКІ, КАЎБАСА, пальцам пханая, ВАНТРАБЯНКА, САЛАДУХА, ЗАЦІРКА-КАЛАТУШКА, КВАС ХЛЕБНЫ І БУРАЧНЫ... "Праспрабавалі ж некаторыя!" — кіўнуць сённяшнія дзеці на аўтара, не здагадваючыся, як даваліся тадышнім сялянам гэтыя прысмакі.

А як жа людзі апраналіся, абуваліся? Зноў цікава. Універмагаў жа, як цяпер, не было. Але былі ВАЎНАЧОСКІ, ЦЕРНІЦЫ, ТРАПЛО, ГРЭБЕНЬ, ПРАСНІЦА, КАЛАЎРОТ-САМАПРАДКА, КРОСНЫ. Прайшоўшы праз усе гэтыя "верстакі", узнікалі "КАЖУХ, СВІТКА, ВАЛЁНКІ, БУРКІ, ЧУНІ, ЛАПЦІ... Якраз тут і коласаўскія радкі:

*Ярка на камінку*
*Смольны корч палае,*
*Бацька на калодцы*
*Лапаць выплятае.*

Як выяўляецца, гэта было прыкладна сто гадоў назад. Не так ужо і даўно... Святочныя ўбранні, пакачаўшы ПРАНІКАМ, складваліся ў КУФАР.

А мылі і мыліся вось у чым, аказваецца.... Для гэтага былі ЖЛУКТА, БАЛЕЯ, НОЧВЫ, НАЧОЎКІ... Паглядзіш на малюнкі: звычайная драўляная бочка ды карыта... Няхітра! Толькі, як намышчаліся ў іх самі людзі? Паспрабаваць бы самому...

Здаецца, з хатай скончана, усё перачыталі, усе малюнкі перагледзелі... А не, прапусцілі ВІЛКУ, ЧАПЯЛУ, КАЧАРГУ, ВЕНІК, ПАМЯЛО, КВАЧ, КОШ, КОРАБ, ВЯРЭНЬКУ. А гэта, калі вы бываеце ў бабулі, дзядулі ў вёсцы, то і сёння можаце ўбачыць дзе-небудзь у кутках хаты, кухні, прыбудоўцы. Чэсна служаць гаспадарам яны і ў наш час, у каго ёсць звычайная печ, хто нешта садзіць, сее... А во яшчэ ВЯЧОРКІ-ПОПРАДКІ... Чытаем: вячоркі або попрадкі — даўні звычай вясковых дзяўчат збірацца з работаю ў чыёй-небудзь хаце. Звычайна прыходзілі з прасніцай і кудзеляй. Хм-м... Вось дык вячэрні адпачынак — гэта вам не сённяшняя дыскатэка... І малюнак такі ж у кнізе: адзін скача ўпрысядкі, відаць, вясковы весялун завітаў на вячоркі-попрадкі, а дзяўчаты ўсе цягнуць нітку з кудзелі, смеючыся...

Выходзім урэшце за межы хаты. І бачым у садзе на дрэве ШПАКОЎНЮ, а на зламанай вярхушцы дуба — БУСЛЯНКУ. Нашым крылатым сябрам дапамагае чалавек: гэта ён збудаваў ім жытло: шпакам — драўляны домік, буслам зацягнуў на дуб барану. А вось і хатнія прыбудовы... ХЛЕЎ... У ім стаіць жывёла. А ў чым кармяць яе? ЦЭБАР, РАЖКА... Так бы мовіць, сталовыя пасудзіны для жывёлы. ПАВЕЦЬ. А ў ёй — розныя, як сказалі б сёння, транспартныя прычындалы: КАЛЁСЫ, БРЫЧКА, КАРЭТА, ХАМУТ, ЛЕЙЦЫ, ПАДСЯДЗЁЛКА, САНІ... Нешта і зараз з гэтага можна ўбачыць, асабліва, у каго ёсць конь. ПЛУГ, БА-




РАНА, СЯВЕНЬКА, КАСА, ГРАБЛІ, СЕРП, ЦЭП, ВІЛЫ, САХОР, ВЕЯЛКА, РЭШАТА, СІТА... І гэтыя рэчы можна знайсці цяпер у дбайнага гаспадара. Вось толькі ЦЭП — наўрад. На яго змену прыйшоў камбайн.

А мы ідзем далей... Вунь ПОГРАБ, а во ГУМНО. У іх захоўвалі бульбу, салому, сена, корм для жывёлы. БРОЦЬ, КАЛОДА, ВУЛЕЙ... І без іх не абыходзіўся гаспадар: мёд усе любяць.

А калі ўжо зусім выйсці за сядзібу, то вось яна, СТУДНЯ — з ЖУРАЎЛЁМ і без ЖУРАЎЛЯ. Звычайна каля плоту, на чараду вясковых хат. Ваду бралі сумесна некалькі сем'яў. Нарэшце гонар усёй вёскі, ваколіцы — КУЗНЯ, ЛАЗНЯ, ВАДЗЯНЫ МЛЫН, ВЯТРАК. Калі б юны чытач спазнаў іх наяву, усклікнуў бы: умелі жыць нашы продкі! Хто трымаў іх — быў багаты, заможны чалавек.

Калі ўсё пералічанае вышэй з'яўлялася сумессю прозы з паэзіяй для нашага продка (і гэта выдатна апісаў Якуб Колас у паэме "Новая зямля"), то рыбная лоўля была для яго захапленнем, сапраўднай выдумкай, высокай паэзіяй. Глядзіце, якія толькі назвы выкарыстоўваў рыбак у сваім лексіконе: ЧОВЕН, ЧАЙКА (лодкі), КАЗА, плеценая з дроту, БЫЧОК, плецены з ЛАЗЫ, БУЧ, ВЕНЦЕР, ТАПТУХА, НЕРАТ (снасці). І як тут не ўспомніць дзядзьку Антося (Лавіў наш дзядзька нератками, і венцярамі, і сачкамі... Бо дзядзька быў рыбак выдатны...")

У канцы нашага падарожжа па кнізе, я зноў хачу вярнуцца да таго пытання, якое было зададзена ў пачатку: "Дык што і чаму трэба перадаваць у спадчыну дзецям і ўнукам?" Кніга, думаю, дала адказ поўны. А ў пасляслоўі аўтар толькі выкрышталізаваў яго: "Кніжка гэта невыпадкова адкрываецца вершам народнага паэта Беларусі Максіма Танка. Ёсць такая біблейская легенда: чалавеку сказалі, каб ён, адыходзячы з дому, не азіраўся назад, інакш ператворыцца ў слуп солі. Чалавек азірнуўся... дый як жа не азірнешся, калі родная сядзіба — гэта цэлы свет.

Часцей азірайцеся, сябры, назад, у мінулае, каб не пагасла свечка на покуці — у хаце з матчынай душою, каб лягчэй было ісці наперад, у будучыню".

**Яўген ХВАЛЕЙ**

# АД ГАРУНА — ДА БРАНІСЛАВЫ

**У Баранавічах, што ні месяц, то паэтычнае свята — прэзентацыя новых вершаваных зборнікаў.**

**Не паспелі павіншаваць Алеся Корнева з новай кніжачкай "Грае раніца зару", як падаспела кніжка Браніславы Лапкоўскай "Вяртанне ў лета". Прэзентацыя апошняй адбылася ў цэнтральнай гарадской бібліятэцы імя В.Таўлая. Гучалі вершы, музыка, песні. Самабытную паэтку віталі сябры, знаёмыя і блізкія ёй людзі. Цікавы лёс Браніславы Лапкоўскай (у дзявоцтве — Прушынскай). Аказваецца, вядомы класік нашай нацыянальнай паэзіі Алесь Гарун (Аляксандр Прушынскі) — гэта яе дваюрадны дзед. Сама ж яна мае "невялічкую адукацыю і пчалярскую школу ў Гальшанах". Адпаведна і вершы — настоеныя на сялянскім говары і салодкім пыле лугавых кветак. Але, на мой погляд, не менш важна за тое вершаскладанне, што нашчадкі слынных людзей не здраджваюць святой справе сваіх продкаў... Жыццё працягваецца — Беларусь жыве.**

**Пра першы зборнічак вершаў Алеся Корнева "Услед за ластаўкай" я ўжо калісьці пісаў. Новая яго кніжка па сваёй змястоўнасці, форме і сутнасці мала чым розніцца ад папярэдняй, тым больш, што аўтар сам іх і афармляе. Трэба адзначыць, што пераважная большасць вершаваных кніжак баранавіцкіх паэтаў выходзіць у свет з-пад крыла мясцовага ГА АРР "Варута". Чынны ўдзел у гэтым выдавецкім праекце прымае, а заадно і актыўна спрыяе папулярызацыі мясцовых аўтараў ужо вядомы ў літаратурных колах, сталы баранавіцкі паэт Аляксей Белы. Дарэчы і яго не абышло творчае натхненне, што і засведчыла яшчэ на пачатку лета тая ж "Варута" пры падтрымцы "Брэсцкага абласнога цэнтра падтрымкі грамадскіх ініцыятыў "Вежа" гожым выданнем чарговага зборніка вершаў "Боскі вецер правінцыі"...**

**Адным словам, сёння Баранавічы — гэта не толькі найбуйнейшы чыгуначны вузел Беларусі, але і пуцяводная нітка нашага краснага пісьменства на заходнім накірунку. Хочацца верыць.**

**ЛеГал**
**(паводле допісаў М. Маліноўскага)**

# У ГОНАР РАДЗІВІЛАЎ

**Памятная дошка з гербам князёў Радзівілаў ды згадкай пра гэтую славутую дынастыю з'явілася на адным з будынкаў вуліцы Радзівілаўскай у Барані пад Оршай.**

**З гэтай нагоды прайшло свята вуліцы. Нягледзячы на мароз некалькі дзесяткаў тутэйшых грамадзян узяло ў ім удзел, а гледачоў сабралося і паболей. Да ўдзельнікаў імпрэзы з урачыстымі словамі звярнуліся галава адміністрацыі Барані Сяргей Мілаванаў, кіраўнік Таварыства беларускай мовы Аршаншчыны Юры Нагорны, прадстаўнікі грамадскасці. Прама на вуліцы адбыліся канцэрт фальклорнага гурта "Крынічанька", конкурсы, спартыўныя спаборніцтвы.**

**Варта адзначыць, што шматкватэрны дом на якім знайшла месца Дошка Радзівілаў яго жыхары будавалі самі, а наймалодшым спартовым пераможцам свята стаў жыхар менавіта гэтага дома чатырохкласнік Арцём Пятроў, малодшы ў шматдзетнай сям'і. Два дзесяцігоддзі таму бацька і маці Арцёма — украінец ды расіянка — пад уплывам творчасці "Песняроў" абралі Беларусь месцам жыхарства.**

**Дошка з'явілася, а свята адбылося дзякуючы намаганням баранскага клуба "Ступені", што аб'ядноўвае ажно трынаццаць грамадскіх і культурніцкіх арганізацый.**

**Андрэй МЕЛЬНІКАЎ**



**АЛЕСЬ ПІСЬМЯНКОЎ**



## НОЧ НАПЯРЭДАДНІ РАЖСТВА

*— Ах, які маладзік,*
*Ах, які маладзік,*
*Бы з аповесці Гогаля!*
*— А дзе ж смех маладзіц,*
*Што нам кроў маладзіць,*
*І ці ёсць яна ўвогуле?*
*Дзе вы, бровы ўразлёт,*
*Што я мрою шмат год?*
*Дзе сумёты пад плот?*
*Дзе крамяны народ?*
*— У аповесці Гогаля...*
*— Мо да Кума зайсці*
*Распытаць аб жыцці?*
*— На Каляды той год*
*Кум замёрз ля варот...*
*— Дзе ж Вакула-каваль,*
*Што яго не чуваць?*
*— У замежжа каваль*
*З'ехаў грошы каваць...*

## НОЧ, ПОЎНЯ

*Эх, маці, маці,*
*Як пуста ў хаце!*
*Куды ні глянеш—*
*Душу параніш.*
*Як адзінока*
*Пад поўні вокам,*
*Як невыносна!*
*Я знаю: позна...*
*Ты больш не скажаш:*
*"Кладзіся, Саша,*
*І спі як людзі..."*
*Ты больш не скажаш,*
*Больш не разбудзіш.*

## ЛЮБІМ-ТРАВА

*Любім-трава сілу вялікую мае!*

**Яраслаў Пархута**

*Любім-траву шукае зрок,*
*Я пра яе даўно начуты.*
*Сам Яраслаў Сільвестравіч*
*Пархута*
*Мне даў батанікі урок.*
*На ветры веку нажавым*
*Ягоны ўрок я не забуду,*
*Бо і цяпер жыву пачутым*
*Пра моц таемнае травы.*
*— Шукай,*
*Шукай яе, браток,*
*Калі захочаш—пабажуся:*
*Яна расце паўсюль на Беларусі,*
*А знойдзеш там, дзе твой*
*выток.*
*Выток!—*
*Сказаў прасветлена хадок, —*
*Ён прывядзе душу да вусця,*
*Любім-трава век не адпусціць,*
*Любім-траву шукай, браток!*

## СТАРАЯ ІСЦІНА

*На міг дыханне затаіць*
*І растварыць сябе ў прыродзе.*
*Адчуць,*
*што час стаіць,*
*А мы?*
*А мы—праходзім.*
*Старая ісціна, як свет,*
*Табою створаны, Гасподзе.*
*...Вось бацькаў след...*
*Вось матчын след...*
*Праходзім мы,*
*праходзім...*

## ЯДВІСЯ

*"Прысніся,*
*Прысніся,*
*Прысніся!"—*
*Прасіў і маліў*
*Я ў юнацтве Ядвісю.*
*"З'явіся,*
*З'явіся,*
*З'явіся!"—*
*Шукаў і гукаў*
*Я паненку Ядвісю.*
*Я чуў яе крокі,*
*Я чуў яе голас,*
*Як Бог малады,*
*Яе выдумаў Колас.*
*Выдумаў Колас,*
*Каб я напрадвесні*
*У снах яе лашчыў*
*І песціў у песні.*

## САМАІРОНІЯ

*Снег*
*на*
*кронах,*
*Снег*
*на*
*скронях—*
*Срэбрам свет зазіхацеў.*
*З кронаў*
*каркаюць*
*вароны,*
*Што і я разбагацеў.*

## СУСТРЭЧА

*— Вітаю!*
*— Вітаю!*
*— Спяшаеш?*
*— Спяшаю!..*
*Такая гаворка.*
*Такая сустрэча.*
*Дарога пад горку.*
*Бярэцца на вечар.*
*А можна ж інačай*
*Вітацца, зямляча:*
*— Вітаю!*
*— Вітаю!*
*— Лятаеш?*
*— Лятаю!*
*...Бяскрыла жартуем,*
*Што крылаў не чуем.*
*— Не чуем,*
*Не маем?*
*—Спяшаем,*
*Спяшаем...*

## ПЕРАДЗЕЛКІНСКАЯ РЭМІНІСЦЭНЦЫЯ

*Якое, мілыя, у нас*
*Тысячагоддзе на двары?*

**Барыс Пастэрнак**

*Зноў асфальт прабіваюць расткі*
*І да неба імкнуцца вясnova.*
*Не даецца пейзаж гарадскі*
*І таму пачынаю нанова:*
*Самадайкі малёваны твар,*
*Суценёра нахабнае вока...*
*Я аптэку пішу і ліхтар—*
*Паўтараю самотнага Блока.*
*Век які ў нас цяпер на двары*
*І які яго знак і адзнака?*
*О, як добра, што свечка гарыць*
*У бяссонным акне Пастэрнака!*

## ПРЫСНІЛІСЯ СЛОВЫ

*Пад тым дубам крыніца стаяла.*

**З народнай песні**

*Прысніліся словы*
*І голас матулі.*
*І чыстым, вясковым,*
*Маленствам дыхнулі:*

*Аерам і мятай,*
*Гародам у росах,*
*Квітнеючым садам,*
*Духмяным пакосам,*

*Палянай сунічнай,*
*Ракой і азерцам,*
*Той самай крыніцай*
*З тым самым вядзерцам.*

## ДОМ І ДЫМ

*Слязінку змахну крадком*
*У родным кутку святым:*
*Тут быў і ў мяне свой*
*Дом*
*І над домам плыў*
*Дым.*
*Які б ні бываў садом*
*У гэтым жыцці крутым,*
*Я знаў: у мяне ёсць*
*Дом*
*І над домам ёсць*
*Дым.*

## БАЯРЫН

**Анатолю Майсеенку**

*Тугі развеяць хмары,*
*Ў бярозах скінуць боль*
*Заве мяне ў Баяры*
*Баярын Анатоль.*

*Ківае пальцам строга*
*Між дрэваў-спарышоў:*
*— Нашто цвяліць старога?*
*Баярына знайшоў!*

*Вучоны мой таварыш,*
*Дый мы не прастакі:*
*— Ў Баярах скрозь баяры,*
*А ў Мінску—мінчукі.*

*На зайздрасць некаторым*
*Над срэбным ручаём*
*Пад зоры ўзвёў ты хорам*
*Ў суседстве з салаўём.*

*Дазволь мне тут памарыць,*
*Адтаць душой дазволь,*
*Спагадны мой таварыш,*
*Баярын Анатоль.*

## РАЗВІТАННЕ

*Пакланіўся роднай хаце.*
*Што яшчэ зрабіць я мог?*
*Няма бацькі,*
*Няма маці*
*І суддзя мне толькі Бог.*
*Толькі Бог ды тыя людзі,*
*Да якіх душой прырос...*
*Толькі студзень*
*Рану студзіць,*
*Слёзы высушыў мароз.*



ПРОЗА

# НАЧНЫЯ ЎСПАМІНЫ

Іван ШАМЯКІН

## Панцеляймонава кіно

Набыўшы машыну і трымаючы шафёра, я мала ездзіў у далёкія раёны, пра што шкадаваў пасля, ды і зараз шкадую: не ўсе нават райцэнтры наведаў. Але ўлетку 1953 года зрабіў добрае падарожжа. Дзіва што – адбыліся такія падзеі: смерць Сталіна, наш пленум ЦК партыі, на якім "чорныя" хацелі з'есці Патолічава, але не з'елі, бо ў адзін з гэтых дзён (пленум ішоў тры дні) у Маскве арыштавалі Берыя. Натуральна, што мне, маладому пісьменніку, лаўрэату Сталінскай прэміі, палітыку, які не закрываўся ў творчую шкарлупку, хацелася пабачыць, пачуць, як на ўсе гэтыя гістарычныя падзеі рэагуе народ, што гавораць простыя людзі, кіраўнікі ніжэйшага і сярэдняга звяна.

Паехаў на родную Гомельшчыну. Там займеў сваю "базу" – хату ў Цярусе, не трэба прасіцца нанач. З'ехаў у Добруш, наведаў Карму, сустрэўся са студэнтамі Гомельскага педінстытута, якія, нягледзячы на экзамены, перапоўнілі залу, ламіліся, каб паглядзець на дзіва – "жывога пісьменніка", паслухаць яго, нядаўняга студэнта-завочніка гэтага інстытута.

Потым пацягнула на Палессе – у глыбінку. Хацелася наведаць Артукі, дзе працавала Маша і дзе мы ўзялі шлюб – зарэгістраваліся ў сельсавеце. Але звярнулі з разбітай ушчэнт шашы і на грунтавой дарозе Рэчыца — Лоеў селі каля Засып у лужыну. Ледзьве вылезлі. Шафёр Мікалай Чэрнік умольна папрасіў не ехаць па такой дарозе. "Шкада машыны". Яму шкада маёй машыны? А мне не шкада?! Вярнуліся на шашу. "Уперад – на захад!" Пераможны дэвіз мінулай вайны.

Даехалі да вялікай вёскі Каравацічы. Адкуль пачаць вывучэнне жыцця? З цэнтра – з канторы калгаса. Але там было пуста – сенакос пачаўся. Школу нідзе і ніколі не мінаў. Заглянуў у школу, хоць і ведаў, што дзеці распушчаны на канікулы, ішлі апошнія экзамены ў старэйшых класах. Пашанцавала. Трапіў на пасяджэнне педсавета, на якім падводзілі вынікі года. Усе настаўнікі былі ў зборы – чалавек дваццаць. Прадставіўся – і твары засвяціліся здзіўленнем і радасцю.

— Такі падарунак нам! – сказала настаўніца беларускай літаратуры.

Збянтэжылі такой радасцю: спусціўся Хрыстос з неба ашчасліваць народ!

— Куды вы ад нас?

— Ды вось езджу. Вывучаю, як людзі жывуць...

Пазайздросцілі: во жыццё! Не тое, што настаўніцкае!

— Заставайцеся ў нас. Лепшай школы і лепшага калгаса ў нашым раёне вы не знойдзеце. У нас сёння свята. Вы яго зробіце векапомным. Ніколі не забудзем.

Скараціўшы парадак дня педсавета (з паўгадзіны я паслухаў настаўнікаў, іх праблемы, хоць скаргаў і крыўд ніхто не выказваў), усе перайшлі ў суседні класны пакой, дзе ўжо быў накрыты стол, даволі багаты па тым часе і ў пачатку лета.

І пачалося свята. З кароткімі тостамі. Першы – за мяне. Збянтэжылі. Вымусілі адбіцца:

— Давайце за партыю нашу вып'ем, — прапанаваў я, шчыры вернік партыі: верыў у Сталіна і ў Партыю, калі быў камсоргам дывізіёна, вучыўся ў партшколе, узначальваў партарганізацыю Пракопаўскага сельсавета, Саюза пісьменнікаў. Сталіна няма, Сталін чалавек, смяротны, але ж партыя бессмяротная. Так, расшыраючы тост, прасвячаў я настаўнікаў палескай вёскі Каравацічы.

Хто адмовіўся б выпіць за партыю?! Асушылі гранёныя шклянкі пахучай самагонкі, якая пахла смалавым дымам. Мужчыны і дзве-тры жанчыны; астатнія прадстаўніцы слабога полу выпілі чорную (чарнічную ці што?) настойку. Хвіліну закусвалі моўчкі, пакуль пітво не "разабрала" – стукнула ў галаву, у ногі. Зашумелі весела і бязладна, хто пра што: пра Сталіна, Берыя, пра вучняў, пра сенакос, скланяючы старшыню калгаса, што настаўнікам выдзеліў дальнюю балоцістую дзялянку.

— Здымай, мужчыны, штаны, падымай, бабы, спадніцы, каб вынесці тое сена з балота.

— А што ты зробіш? Без каровы не пражывеш.

Калі хлебанулі па трэцяй ці чацвёртай шклянцы і застолле ператварылася ў развярушаны вулей, дзве настаўніцы ледзьве не ўчапіліся адна адной у косы, высвятляючы свае даўнія адносіны. Добра, дырэктар быў мацак, умеў піць і пасля трох шклянак не згубіў галавы, развёў сварлівых баб.

— Пасаромейцеся, жанчынкі. А то госць так распіша нас! Уся Беларусь смяяцца будзе.

— Праўда, дзеўкі! Што мы агаляем свае пупы перад такім госцем!

Дайшло. Схамянуліся. Пра высокія матэрыі загаманілі і мужчыны і жанчыны, паказвалі: маўляў, мы зусім не такія, як гэтыя дзве дурніцы, мы – інтэлектуалы, выхавацелі народа. Здараецца, што і ў п'яных раптам надыходзіць такое працверазенне і яны "выдаюць на гара" вялікія ісціны. У такі момант з'явілася дзяўчына з канторы калгаса, сказала:

— У вас тут пісацель? Яго да тэлефона. З райкама.

Наступіла мёртвая цішыня. Райкам ведае, дзе пісьменнік, у якой кампаніі, чым кампанія занятая.

Ашаломлены, я, мабыць, збялеў. Адкуль, праз каго райкам даведаўся, што я ў іх раёне, у Каравацкай школе? Спалохала і тое, як настаўнікі глядзелі на мяне: як на самазванца, як на Хлестакова. Нават шафёр мой Мікалай, які сядзеў за бяседным сталом, спалохаўся, пасля, у дарозе, прызнаўся.

— Паехалі, Коля, — сказаў я яму.

Нехта нагадаў, што кантора — вось яна, рукой падаць, на другім баку вуліцы, чуць наўскось. Аднак усё роўна паехалі: каб на вуліцы не ўбачылі, што ногі мае заплятаюцца і я хістаюся.

Руханкаводка колькі разоў круціла ручку апарата, што вісеў на сцяне, прасіла раённую тэлефаністку злучыць з райкамам. Нарэшце адгукнуўся строгі голас:

— Лобан слухае.

— Добры дзень, я – Шамякін. Вы прасілі пазваніць...

— А-а, Іван Пятровіч! – голас стаў добрым, амаль радасным. – Рады пачуць вас. Я той Лобан, што быў у Хойніках сакратаром райкама камсамола. Помніце? У пяцьдзесят першым вы прыязджалі да нас у творчую камандзіроўку.

Помню! Як не помніць, калі гэты Лобан аглушыў мяне адной шклянкай бацькоўскага самагону.

— Як нашы Каравацічы?

— Добра. Наведаўся на сенакос. Паспрабаваў касіць. Развучыўся, — сачыняю я, дзякуй Богу, самагонны пах не перадаецца па дроце. – Як вы знайшлі мяне?

— Дрэнныя былі б мы кіраўнікі, каб не ведалі, што да нас завітаў такі чалавек. (Аднак і дагэтуль не магу ўцяміць, хто ўсё ж данёс райкаму пра маё з'яўленне ў іх раёне. Ведаючы партыйную дысцыпліну, я ў Гомелі паведаміў у абкаме, што еду на Палессе, каб не прымалі за рэвізора. Аднак жа да Каравацічаў я нідзе не спыняўся. Значыцца, сігнал паступіў адтуль? Ад каго? У школе тэлефона не было.)

— Дзякуй вам. Але да вас я заеду заўтра.

— Ды я не з-за гэтага шукаю вас. У ЦК вас выклікаюць. Прыязджайце. Дазвоніцеся: што ў іх там гарыць?

У такім стане з'явіцца ў райкаме? Не!

— Калі выклікаюць, я паеду без затрымкі, сёння ж.

— Шкада. Хацелася пабачыцца.

Выйшаўшы з канторы, я тут жа абвясціў шафёру, што выклікаюць у ЦК і трэба ехаць неадкладна.

— Толькі развітаюся з гаспадарамі.

Мікалай мой загаласіў:

— Іван Пятровіч! Не магу. Я выпіў. Ды і калі мы прыедзем? Пасярод ночы. Такая далеч!

Тады дарогі з Рэчыцы не было. Трэба вяртацца назад у Гомель і ехаць праз Доўск, Рагачоў. А дарога ад Бабруйска да Пухавіч – ой-ёй, багна на аб'ездах. Сюды ехалі – сядзелі. Мусіў пакарыцца волі шафёра.

Настаўнікам сказаў, што выклікаюць у ЦК. Больш не ўзяў і грама. Прымусу не было, хоць настаўнікі і нават мацак-дырэктар былі на добрым узводзе.

Начавалі ў новай хаце дырэктара, неашалёванай яшчэ. Прыемна пахла сасной. Мне не спалася. Нашто так тэрмінова выклікаюць? Таго страху, які перажыў два гады назад пасля нечаканага паўночнага выкліку Зімяніна, не было. Цікаўнасць грызла: з-за чаго выклікаюць? Новага ж пасля "У добры час" не надрукаваў, лішняга на сустрэчы ў педінстытуце, здаецца, не сказаў, хоць пра пленум ЦК КПБ расказваў. Можа, хацелі б прапанаваць пасаду? Пасады галоўнага рэдактара – грэшны! – хацелася.



Мікалай разбудзіў мяне – толькі пачало днець, не спалася і яму. Гаспадар хроп на ўсе застаўкі. Гаспадыня, настаўніца, апухлая пасля ўчарашняга "чарніла", прачнулася, прапанавала ўчарашнія катлеты, што засталіся ад школьнага застолля. Ды я выпіў два кубкі смачнай прастаквашы – і досыць. У дарогу! Выціскалі з "Пабеды" найвышэйшую хуткасць па клінкеру на шашы Гомель – Доўск. Мікалай стагнаў:

— Запорам матор.

Пасля абеду былі ў Мінску. Адразу ў ЦК. Размова з памочнікам сакратара кароткая:

— Вас выклікае таварыш Панамарэнка.

Яшчэ адна загадка! Панамарэнка ў Маскве. Міністр культуры. Усяго. Але міністр культуры СССР. Нямала. А ў нас, у беларусаў, аўтарытэт яго трымаўся высока. У маёй свядомасці таксама. Помню, якое ўражанне зрабіў ён на першым пасляваенным пленуме Саюза пісьменнікаў у снежні 1945, куды мяне, аўтара "Помсты", запрасілі. Сустрэча з вядомымі пісьменнікамі заваражыла, узяло творчае натхненне: вунь куды ўчарашні камсорг дывізіёна скочыў! Дух займала. А тут яшчэ Панамарэнка. Генерал! Начальнік партызанскага штаба! Для нас, беларусаў, бадай жа, другая асоба пасля Сталіна. Ён цэлы дзень слухаў прамовы пісьменнікаў-франтавікоў. Узарваўся адзін раз, калі Міхась Клімковіч назваў оперны тэатр перавернутым унітазам. Чаму так узлаваўся Панамарэнка, для мяне засталося загадкай. Клімковіч сядзеў збялелы. Як вытрымала сэрца немаладога ўжо чалавека, якога па загадзе Панамарэнкі вывезлі з немецкага тылу ў Маскву. Ратавалі. Панцеляймон Кандратавіч нагадаў яму гэта з не вельмі затоенай пагрозай праверыць, чым ён займаўся ў акупацыі.

На другі дзень першы сакратар выступіў перад пісьменнікамі з двухгадзіннай прамовай. І заваражыў ён не толькі мяне, галыша, але і патрыярха Якуба Коласа, самотнага Міхася Лынькова, бадзёрага Петруся Броўку, на якіх я ледзьве не маліўся, як на багоў.

Па-першае, Панамарэнка гаварыў не па пісаным, на рускай мове, але граматна і вобразна. Па-другое, смела – пра становішча ў гарадах, у вёсках, так смела ніхто з нас, летапісцаў часу, не адважваўся і пазней, да "адлігі", напісаць: "Што можна Юпітэру, нельга быку". І пра ваенную літаратуру – з веданнем яе, са "Сцяга брыгады" колькі радкоў прачытаў на памяць. Усё ведае! Сапраўды – як Сталін.

І пазней, калі я паступіў у партшколу, слухаў яго разы два – у партшколе, на пісьменніцкім з'ездзе, і ніколечкі не расчараваўся: Цыцэрон! Ад калег сваіх не чуў пра яго ніводнага негатыўнага слова. Броўка і Павел Кавалёў, былыя памочнікі Панамарэнкі, літаральна маліліся на яго, высока цэнячы яго ўвагу да літаратуры. Нейкі час Панцеляймон займаў цэлыя дзве пасады – першага сакратара ЦК і старшыні Саўміна. Уся ўлада ў адных руках. Пасля на сакратара прыслалі дубінагаловага Гусарава, які быў вельмі далёкі не толькі ад нашай літаратуры, але ўвогуле ад жыцця. На шчасце, Гусараў быў нядоўга, у 1950 годзе яго змясцілі, прыехаў Мікалай Патолічаў, кіраўнік высокага рангу, гаспадар – яго палюбілі. Але нядрэнна займаючыся аднаўленнем зруйнаванай гаспадаркі, літаратурай ён мала цікавіўся.

Панамарэнка ў гэты час, па волі Сталіна і Бога, апынуўся ў Маскве. Але аўтарытэт яго ў Беларусі застаўся і захоўваўся. Не паехаць да такога міністра культуры СССР было немагчыма. Узняты Панцеляймонам да сакратара ЦК Цімох Гарбуноў прымусіў бы мяне. Але памочнік яго не ведаў, з якой нагоды мяне выклікаюць.

Была субота. Ехаць на выхадны няма сэнсу. Дзе жыць да панядзелка? Пра гасцініцу Спірыдовіч нічога не ведаў. Каму была справа, дзе ты спынішся? Выклікаюць – з'явіся.

Машу ўстрывожыў такі нечаканы выклік. Страху не мела, як ад выкліку Зімяніна. Але ж паездка ажно ў Маскву, дзе нікога знаёмага няма! Дзе прытуліцца?

Выехаў я ў нядзелю днём, поезд тады ішоў доўга, ледзьве не суткі. Але ў Маскву прыходзіў гадзін у 10 раніцы.

На таксі ( у Маскве я і пазней іншага транспарту не прызнаваў) паехаў па дадзеным мне адрасе, здаецца, на вуліцы Куйбышава, заехалі з тылу, пасля, ідучы пехатою, я выявіў, што гэта побач з Чырвонай плошчай. Стары дваранскі асабняк. Ручка дзвярэй медная – твор мастацтва.

Міліцыянер глянуў у спіс, што ляжаў на століку, прапусціў, не разгарнуўшы мой партбілет. У вялікай прыёмнай (зала!) сядзела адна сакратарка, больш нікога, пэўна ў міністра дзень быў непрыёмны. Жанчына націснула на кнопку, сказала адно слова:

— Шамякін.

У адказ пачуўся знаёмы басавіты голас:

— Пусть заходит.

На той час такая сувязь здалася мне цудам тэхнікі, падумаў, што трэба выкарыстаць у будучым творы – навінка! (але так і не выкарыстаў нават у "Злой зорцы" праз трыццаць пяць гадоў).

Да прыёмнай не хваляваўся, перад кабінетам пачуў, як загрукала сэрца. Чаму? Трымайся, Іван!

І вось ён перада мной – забыты за кароткі час кумір, якім я захапляўся ў першыя пасляваенныя гады, толькі не ў "сталінскім" фрэнчы – у цывільным ладна пашытым касцюме, пры гальштуку. У такім адзенні міністр выглядаў памаладзелым.

Ён сядзеў за вялікім сталом. Падняўся, калі я наблізіўся, праз стол працягнуў руку.

— Сядайце, — заглянуў у паперу, — Іван Пятровіч.

Калі селі, ён угледзеўся так пільна, што я збянтэжыўся.

**(Заканчэнне на стар. 12)**

# БЕЛАРУСЬ — БЕЛЬГІЯ

***У выдавецтве "Беларускі кнігазбор" пабачыў свет 23 выпуск зборніка "Беларусіка-Albaruthenica", які прысвечаны беларуска-бельгійскім палітычным, гістарычным ды культурным сувязям.***

Яго аснову склалі матэрыялы міжнароднага беларуска-бельгійскага "круглага стала", які адбыўся ў траўні мінулага года. Распачынаюць яго сво-




еасаблівыя ўводзіны — экскурс у гісторыю сучасных палітычных, дыпламатычных ды эканамічных стасункаў. На старонках "Беларусікі" пра гэта распавядае навуковы супрацоўнік Інстытута сацыяльна-палітычных даследаванняў Аляксандр Мархель. Гэтую тэму, але ў ракурсе грамадска-культурных адносін, разглядае Тамара Антановіч — старшыня таварыства "Беларусь-Бельгія".

Вельмі цікавымі падаюцца паведамленні, што зафіксаваныя пад рубрыкай "Старонкі гістарычна-культурнай супольнасці", у якой беларускія культурологі ды гісторыкі разглядаюць шматлікія прыклады культурнага ўзаемадзеяння нашых народаў. Тут вельмі грунтоўным з'яўляецца матэрыял дактаранта Сарбонскага універсітэта Ігара Лялькова, які прысвечаны беларуска-бельгійскім стасункам у часы Вялікага Княства Літоўскага. Матэрыялы Галіны Малыхінай, Галіны Каржанеўскай, Святланы Вараб'евай, Анатоля Лягчыліна тычацца сучаснага стану культурна-грамадскіх адносін паміж творцамі і простымі грамадзянамі нашых краін.

У рубрыцы "Літаратурныя сувязі, пераклады, паралелі" беларуская даследчыца Ірына Багданава дзеліцца сваімі развагамі наконт асаблівасцяў перакладу твораў класікаў бельгійскай літаратуры Марыса Карэма, Франсуа Жакмена, а таксама абагульняюць бельгійскія літаратурныя ўплывы ў беларускай паэзіі пачатку XX стагоддзя.

Асобная і вельмі важная тэма выдання — гісторыя беларускай эміграцыі ў Бельгіі і, у прыватнасці, у Лювенскім універсітэце. Матэрыялы Вольгі Іпатавай, Ірыны Дубянецкай, Марыі Міцкевіч, а таксама ўспаміны доктара гісторыі Янкі Запрудніка, даюць вельмі грунтоўную карціну жыцця беларускай эміграцыі ў Бельгіі. У матэрыялах Вольгі Равенскай-Аляксеенкавай і Анатоля Мяльгуя распавядаецца пра кампазітара Міколу Равенскага, пра яго дзейнасць у якасці кіраўніка мужчынскага хору студэнтаў-беларусаў Лювенскага універсітэта ў Льежы.

У "Дадатку" гэтага выдання ёсць цікавыя бібліяграфічныя звесткі пра дзеячаў беларускай эміграцыі ў Бельгіі.

**А. МІТРАНОВІЧ**



***У жніўні ў Доме творчасці "Іслач" адпачываў вядомы пісьменнік і драматург з Масквы Якаў Касцюкоўскі. Сталася так, што нам з Навумам Гальпяровічам па просьбе нашага Літфонду выпала апякаць гэтага творцу. Апошні раз у Беларусі Я. Касцюкоўскі быў 10 гадоў таму. Зараз, наколькі ведаю, не хацеў, каб адпачынку перашкаджалі журналісты. Тое, што перашкаджалі б, дык несумненна: Якаў Касцюкоўскі разам з Морысам Слабадскім і Леанідам Гайдаем аўтар сцэнарыяў неўміручых гайдаеўскіх кінакамедый, а менавіта, "Аперацыі "Ы", "Каўказскай палонніцы" і "Брыльянтавай рукі" — у цітрах гэтых фільмаў, згодна з алфавітам, яго прозвішча сярод сцэнарыстаў — першае.***

***Тут у "Іслачы", між іншым, Якаў Аронавіч сціпла адзначыў свой дзень нараджэння (нарадзіўся 21 жніўня 1921 года на Украіне). Адсюль ён штодзень хадзіў з дачкой Інай, якую мы лічым яшчэ і яго літсакратаром на рыбалку пад Ракаў. Там пасябраваў з мясцовымі рыбакамі (іх здзіўленню не было межаў, калі пасля яго ад'езду я сказаў ім хто гэта) — "Во, працяк..." Адсюль вазілі мы яго па Міншчыне, паказвалі Валожын, Ракаў, Івянец, і нязмушана гаварылі пра жыццё, пра кіно, пра літаратуру... Мы запісалі больш 6 гадзін гутаркі з майстрам. Як ён ад'язджаў, дамовіліся: калі і выкарыстаем запісы, то ў нашым перакладзе і без усялякага рэдагавання: гутарка ж... Нядаўна праслухалі плёнкі і згадзіліся з тым, што тое-сёе з іх можа быць цікавым для чытачоў "ЛіМа". Зрэшты, у апошнія гады, калі ў многім парушаны братнія літаратурныя сувязі, да нас з іншых рэспублік пісьменнікі прыязджаюць не так і часта...***

**Уладзімір САЛАМАХА**



# «У БЕЛАРУСІ Я АДЧУВАЮ СЯБЕ СВАІМ...»

***— Якаў Аронавіч, мы ўжо столькі часу пабылі з вамі, дык дазвольце перайсці са звычайных пытанняў — што, дзе, калі, як?.. да "правакацыйных". Тым больш, што вы любіце гумар, размаўляеце з намі з гумарам, ды з добрай самаіроніяй.***

— Давайце...

***— Але, б'юся аб заклад, што пераважная большасць гледачоў "Аперацыі "Ы", "Каўказскай палонніцы" і "Брыльянтавай рукі" нават не падазраюць, што там акрамя Гайдая, былі яшчэ і вы са Слабадскім. Паўсюль толькі чуеш — ад тэлебачання, перад дэманстрацыяй карціны, да іншых "продвинутых" "кінаспецоў": "Гайдаевские картины..." Не крыўдна?***

— Ніколькі. Кіно — калектыўная праца, і, вядома, рэжысёр — галоўная фігура. Важна, што фільмы, а мы разам гаворым аб іх, пагляздзелі і глядзяць мільёны кінагледачоў.

І калі ты ідзеш працаваць у кіно, дык павінен быць падрыхтаваным да таго, што "лаўры" могуць быць іншымі. Вось гэтага, здаецца, часам не разумеюць многія маладыя літаратары, якія вырашаюць займацца кінадраматургіяй... А потым, калі, скажам, стужка становіцца папулярнай, пачынаюць высвятляць, дзе чыё і што... Для калектыўнай творчасці гэта кепска — з такімі амбіцыямі лепш за ўсё тварыць аднаму. Мы ж над сцэнарыямі працавалі ўтрох. І зараз, асабліва калі ўжо з жыцця пайшлі дарагія мне людзі, мае сябры Морыс Слабадскі і Леанід Гайдай, наогул так пытанне ставіць нельга.

***— А калі вы чуеце, чытаеце, маўляў, у гэтым гайдаеўскім фільме акцёр N прыдумаў гэта, а ў тым — К тое...***

— Няхай кажуць. Я ведаю, як бы ні пісалі журналісты, быццам актрыса N, якая б таленавітая ні была, прыдумала лепшую сцэну фільма, дык гэта не так. Але, я помню яе на здымачнай пляцоўцы зусім разгубленай, яна не змагла прыдумаць ні цікавай рэплікі, ні добрай сцэны. Але, тым не менш, на сваіх выступленнях, па тэлебачанні кажа: "Я"... Між іншым, выдатны акцёр і выдумшчык, таксама мой сябра, якога таксама ўжо няма, Юрый Нікулін у такіх выпадках іранізаваў: маўляў, хай кажа, а табе шкада? І я скажу, так цікавей. І ён меў рацыю: за яго смехам, гумарам, іроніяй заўсёды бачылася сапраўдная чалавечая мудрасць.

А зараз ужо не важна, хто з нас трох прыдумаў фразы, якія сталі крылатымі, тыпу: "Огласите весь список!", "Надо, Федя, надо!", "От ревизии нас может спасти только кража", "Руссо туристо, облико морале" і іншыя. Мне здаецца, што многім людзям, асабліва тым, у каго ёсць пачуццё гумару, самаіронія без іх было б сумнавата. Затое я дакладна вам, хлопцы, кажу, што, напрыклад, фразу Ноне Мардзюковай "Я не удивлюсь, если ваш муж тайно посещает любовницу" нам падараваў адзін даволі дасціпны супрацоўнік з органаў, які нас курыраваў. У фільме ж было знята, запісана так: "Я не удивлюсь, если завтра выяснится, что ваш муж тайно посещает синагогу".


Усім знаёмыя персанажы

Які быў скандал!.. На ўсіх узроўнях. Нас прымушалі рабіць перазапіс сцэны за свой кошт, нас у чым толькі не папракалі! І раптам той малады чалавек усім чыноўнікам і вялікім майстрам кіно сказаў, маўляў, аб чым спрэчка? Замест "сінагогу" па жэстыкуляцыі лёгка кладзецца — "любоўніцу"...

Канечне, прыемна, што фільмы так доўга жывуць, што іх і зараз паказваюць розныя тэлеканалы, што яны зразумелыя кожнаму, хто іх глядзеў, што яны зразумелыя нават "бабульцы з Йашкар-Алы".

***— Чаму менавіта гэтай бабульцы?***

— Я вам адкажу так, як адказаў некалі журналістцы Марыне Падзоравай з "Московских новостей". Дык вось, на яе пытанне, ці ўдакладненне, маўляў, вы сказалі — утрох, маецца на ўвазе пішам, я адказаў (цытуе па кнізе "Кинокомедии", Москва, ПИК. Согласие, 1998): "Утрох, таму, што Гайдай прымаў у нашай працы самы жывы ўдзел. Я ўжо не памятаю, хто прыдумаў гэту дасціпную формулу, але і за пішучай машынкай, і на здымачнай пляцоўцы адштурхоўваліся мы ад яе: каб было зразумела — бабульцы з Йашкар-Алы. Чаму менавіта бабульцы і чаму менавіта ў Йашкар-Але — не ведаю. Але мы рэгулярна цікавіліся адзін у аднаго: а гэта будзе зразумела бабульцы? Захоўваўся яшчэ адзін важны прынцып — у сцэнарыі нічога не павінна было пісацца "золатам па мармуры", колькі б ён ні шліфаваўся. Гэта давала прастору для імправізацыі на здымках, што страшэнна раздражняла начальства. На наша прымітыўнае пярэчанне: "Але так лепш!" — быў філасофскі адказ: "Лепшае — вораг добрага".

Так што, імправізацыі на здымачнай пляцоўцы былі, і не толькі нашы. Якая зараз розніца? Ёсць жа цэпасныя творы. Між іншым, зараз таксама ёсць людзі з былых кіначыноўнікаў, якія дзе

толькі можна сцвярджаючь, што ўсяляк садзейнічалі выхаду нашых фільмаў. Гэта ў корані не так. Калі хочаце, эпізод быў асабіста са мной... Вялікі кіначыноўнік не прыняў адну з нашых гэтых трох работ, выказаў нам шмат палітычных абвінавачванняў. Справа была перад выхаднымі, і можна толькі ўявіць наш стан два гэтыя дні, калі мы ў панядзелак прыйшлі ў Дзяржкіно, чакаючы расправы. І раптам са свайго кабінета насустрач вылятае той вялікі, вельмі вялікі (прозвішча са згоды Я. Касцюкоўскага апускаем. — **У. С.**), абхоплівае мяне, першага з аўтараў, хто яму трапіўся, "адпускае" "сціплы", як у палітбюро было прынята, мужчынскі засос: "А што я вам казаў! Які выдатны фільм!.."

Ад нечаканасці і сполаху ў мяне адняло мову, я нават не змог прасіпець, што ён два дні таму казаў адваротнае. І, можа быць, добра, што не паспеў. А ўсё ў тым, што САМ Леанід Ільіч, вялікі аматар кіно, паглядзеў на дачы карціну і яна яму дужа спадабалася. Як яна да яго трапіла? Проста папрасіў каб прывезлі паглядзець нешта новае. Яго памочнік пазваніў у Дзяржкіно — а там далі нашу карціну: начальства не было.

Увогуле ж, павінен сказаць, што тады фільмы глядзелі члены Палітбюро і кандыдаты ў члены Палітбюро. Кажу шчыра, не таму, што я зараз у Беларусі: ваш Пятро Міронавіч Машэраў неадночы на тых праглядах нас падтрымліваў... Цікава, канечне, было наглядаць, як розныя кіна- і літнавачальнікі паводзілі сябе і з намі, радавымі творцамі, і з высокім дзяржаўным начальствам.

Можна пісаць раманы, здымаць кіно. Вось, напрыклад, як гэта было з Мікітам Сяргеевічам на адным прыёме, на якім і я прысутнічаў. Я тады пісаў для Тарапунькі і Штэпселя, між іншым пісаў ім гадоў 15. Дык Юра Цімашэнка, Тарапунька, (Штэпсель — Яфім Бярэзін. — **У. С.**), які на дух не пераносіў лізаблюдства, доўга назіраў за дзеячамі, што круціліся каля правадыра. І тады, між іншым, як і зараз у кіраўнікоў дзяржавы, адны прасілі ў Хрушчова званні, другія — кватэры, трэція — дачы, чацвёртыя — магчымасць выдаць збор твораў... Дык вось, не вытрымаў Юра, і калі чарговы літчыноўнік нахіліўся да сп'янелага Мікіты Сяргеевіча, нешта выпрошваючы, закрычаў:

— Вылезь з вуха!..

"Вылез". Мікіту Сяргеевічу гэта вельмі спадабалася, ён заўсміхаўся, і калі далей нехта, дачакаўшыся сваёй чаргі, нахіляўся да "правадыра", той злёгку ківаў галавой Тарапуньку, падаваў знак. І Юра крычаў:

— Вылезь з вуха!..

Увогуле, калі я працаваў з Тарапунькам і Штэпселем, дык Юра аддаваў аўтару належнае. Іх вельмі любілі людзі, усюды былі аншлагі, апладзіравалі. Дык ён спыняў: "Што вы нам апладзіруеце? Апладзіруйце Касцюкоўскаму, гэта ён..." У маладыя гады ўспрымалася, вядома, з прыемнасцю.

***— Якаў Аронавіч, крышачку аб тым, як асабіста вы пачалі працаваць са Слабадскім. І вось чаму: мы вельмі паважаем Морыса Рамановіча, як пісьменніка-сатырыка, гумарыста. Некалі зачытваліся яго "Новыми похождениями бравого солдата Швейка". І яшчэ, і ў Навума і ў мяне асабіста надзвычай паважлівыя адносіны да пісьменнікаў-франтавікоў — і нашы бацькі ваявалі. Слабадскі, як і вы, і як Гайдай — ваяваў. І сёння, калі, скажам прама, гэта ўжо не ўсімі як належыць цэніцца, мы падкрэсліваем: пісьменнік быў у вайну там, дзе ўвесь народ. І гэтым усё сказана.***

— Вайна — асаблівая тэма. Скажу пакуль адно: яна высвеціла ў кожным і лепшыя, і горшыя якасці... Мы ж, вядома, не толькі я і Леанід, маладымі пайшлі на вайну — Морыс, праўда, быў старэйшы за нас, ён з 1913 года, я з 1921, а Леанід з 1923. Пайшлі на фронт мае сябры па знакамітым Маскоўскім Інстытуце літаратуры, філасофіі і мастацтва, у якім, між іншым, вучылася нямала беларусаў.

***— Там былі і некаторыя нашы пісьменнікі — Алесь Жаўрук і іншыя...***

— Але тады мы амаль усе былі пісьменнікі... З гарадоў і вёсак. З усіх куткоў краіны.

***— Дарэчы, там тады вучыўся са Старадарожчыны Мікалай Мацко, мой старэйшы сябра, я з ім разам у свой час працаваў у Дзяржкіно. Дык калі мы глядзелі вашы фільмы, падпалкоўнік у адстаўцы Мікалай Емяльянавіч Мацко прасіў мяне, як чалавека, што нібы бліжэй да мастацтва, даведацца, ці не вучыліся вы разам з ім. Казаў: "Адчуваю, гэта наш Яшка Касцюкоўскі, гумарыст" А я не даведаўся: не ведаў як. Няма ўжо Мікалая Емяльянавіча, таксама вашага інстытуцкага франтавіка.***

— Уладзімір Пятровіч, можа быць памятаю менавіта яго, Мацко. Памятаю Кольку аднекуль з-пад Старых Дарог. Мы, галодныя гараджане, да беларусаўвяскоўцаў хадзілі есці. Хлопцы ніколі не скупіліся, прывозілі з дому. Сябравалі, як гэта бывае ў студэнцтве. Вайна ж нас параскідвала, і не ўсіх, хто ацалеў, пасля сабрала мірнае жыццё. Морыса да вайны ведаў... Увогуле ў мяне было два сааўтары. Першы — Вадлен Бахноў. Мы з ім абодва з Харкава, хоць я нарадзіўся ў Кіеўскай вобласці. І свой першы сумесны твор мы напісалі яшчэ ў піянерскім лагеры. Потым жыццёвыя дарогі разышліся. Потым зноў разам — гэта з ім мы пісалі для Тарапунькі і Штэпселя. Разам працавалі над фільмам "Штрафны ўдар".

***— Нядаўна паўтаралі па тэлебачанні: фільм нашага дзяцінства. Мабыць, прайшло гадоў каля сарака...***

— Не менш. Потым Бахноў пайшоў у пародыю, а я — у драматургію. Потым ён пачаў пісаць прозу. А потым заўчасна памёр сааўтар Морыса Уладзімір Дыхавічны. І Морыс, які любіў працаваць у сааўтарстве, застаўся адзін. І я ўжо працаваў адзін. Вось тады наш агульны сябра цудоўны пісьменнік Яўгеній Вераб'ёў сказаў мне: "Морысу Слабадскому цяжка адному, не хацелі б вы папрацаваць разам". І працавалі мы разам да апошняга дня.

***— Якаў Аронавіч, вы шмат гаварылі аб пісьменніцкім сяброўстве, аб цане сапраўднай дружбы, аб бескарысным узаемадапамозе, шчырасці. Мы гэта не запісвалі: само сабой зразумела — пісьменнік, народ асаблівы, на пошасць, паклёпы, ды на простую непрыстойнасць не здольны. Вось такая, калі хочаце, наіўнасць дарослых людзей: жадаемае — за сапраўднае. Ведаю, сярод беларускіх пісьменнікаў у вас было і ёсць нямала сяброў.***

— Абсалютна так. Сяброў у мяне сярод беларускіх пісьменнікаў шмат. І ўвогуле, Беларусь — для мяне асаблівая зямля, асаблівыя людзі. Нас з Іначкай (дачкой) запрасіла ў госці адна з супрацоўніц "Іслачы". Гасціннасць беларуская — незвычайная і шчырая... Мы з вамі аб'ехалі шмат мясцін. Пабывалі каля Івянца на месцы мемарыялу, дзе пахаваны мае суайчыннікі. Будзем казаць прама: мабыць, нідзе так і столькі ў гады вайны мясцовыя жыхары не выратавалі людзей іншых нацыянальнасцей, як у Беларусі. Канечне, не выдзяляючы, не падзяляючы народы на добрыя і кепскія — кепскія людзі ёсць усюды — скажу шчыра: беларусы мне вельмі і вельмі блізкія, бо так лёс склаўся. І па жыцці, і па творчасці. Па жыцці — сказаў. Па творчасці называў Пятра Міронавіча Машэрава. А яшчэ назаву Андрэя Макаёнка. Ён падтрымаў маю першую п'есу, будучы ў свой час членам Савета па драматургіі СП СССР. А гэта — крылы: вядомы драматург, з якім я тады нават знаёмы не быў...

Мы сябравалі і з Алесем Адамовічам. Я, можна сказаць, быў сведкам яго апошніх хвілін жыцця... Гэта было пасяджэнне Вярхоўнага Суда, калі слухалася справа аб маёмасці міжнароднага літфонду. Мы сядзелі — Алесь Адамовіч, Булат Акуджава, Анатоль Прыстаўкін. Слухалі спрэчкі бакоў. І калі далі слова Адамовічу, з майго пункту гледжання ён гаварыў надзвычай эмацыянальна не толькі па фактах судовых слуханняў, але і аб месцы літаратараў у новых умовах. Пасля ён сеў ля мяне і сказаў фразу, ва ўсялякім разе, апошнюю, якую я ад яго пачуў: "Дай Бог, что бы они меня услышали..." ...Ён страціў прытомнасць, да гэтага вельмі сур'ёзна паставіліся Акуджава, Прыстаўкін... Я пабег шукаць урача. Урача не было... Старшыня суда плакала...

За час, што я не быў у Беларусі, Мінск змяніўся непазнавальна. Гэта адзін з прыгажэйшых, а што чысцейшы горад, якія ведаю, дакладна. Людзі вашы — светлыя тварамі. А гэта заўсёды прыемна госцю. Хаця, скажу шчыра, госцем я сябе ў Беларусі не адчуваю: сваім...

**Падрыхтаваў**
**Уладзімір САЛАМАХА**

---

**УРАЖАННЕ**

***Дык чаму чарговай прэм'ерай сталася менавіта рок-опера "Юнона" і "Авось" і пра што яе мінская версія?***

***Чаму... Дырэктар тэатра, ён жа і аўтар праекта і мастацкі кіраўнік пастаноўкі, сааўтар ідэі сцэнічнага афармлення і адзіны, без дублёраў, выканаўца ролі таго графа Разанава, які спраўдзіў рызыкоўны заакіянскі візіт на шхунах "Юнона" і "Авось", — ён, А. Ісаеў, даўно мае адказ. На сустрэчы з журналістамі ды крытыкамі ён патлумачыў, што "сёння Еўропа і наша бліжэйшая суседка Расія досыць добра асвойталі жанр мюзікла, і нам не хацелася адставаць". Так, спектаклем "Юнона" і "Авось" кіраўніцтва тэатра намагалася запоўніць прагал у жанры, бо мюзіклы, якія з'явіліся ў рэпертуары раней, нібыта не мелі належнага рэзанансу.***

Легендарныя "Нотр-Дам дэ Пары" або "Чыкага" не для нашай кішэні: што й казаць, калі Філіп Кіркораў "трапіў у кабалу", мусіўшы выдаткаваць мільён долараў толькі за права пастаноўкі "Чыкага", без уліку фінансаў на ўвасабленне праекта... Словам, выбралі "самае таннае", хаця нават без раскрыцця камер-мюзікл), пастаўленая расіянінам Я.Хандаком, інтрыгуе-вабіць самую розную публіку. Час нагадаў, што 30 гадоў таму і тэксты А.Вазнясенскага, і музыка А.Рыбнікава, ды яшчэ ў ленкомаўскай версіі, зрабілі ў руціннай атмасферы савецкага грамадства сапраўдны рэвалюцыйны выбух, а сёння гэта — класіка, на якую шаноўны Хронас паспеў ужо сыпануць жменьку пацыны. Час паказаў, што прэм'ера без мастака-пастаноўшчыка — мо і не авантура ў духу падарожжа графа Разанава,



# ЯШЧЭ РАЗ ПРА...

цыйнага сакрэту спектакля "Юнона" і "Авось" няцяжка здагадацца, што задавальненне аўтарскіх правоў кампазітара ды лібрэтыста каштавала, пэўна, не адной дыхтоўнай пастаноўкі на музыку класікаў або родных беларускіх аўтараў, сярод якіх ёсць і стваральнікі мюзіклаў.

Адзін знаёмец-максімаліст выказаў мне сваё сярдзітае меркаванне. Маўляў, А.Ісаеў — добры, вельмі працавіты артыст, адораны моцным голасам, але, не сакрэт, чалавек ён прыезджы. Маўляў, гэта факт, на які можна было б даўно ўжо не звяртаць увагі і захапляцца яго спеўным мастацтвам, калі б не адчуванне "лыжкі дзёгцю". Пад гэтай "лыжкай" мой суразмоўца меў на ўвазе нейкі недавер з боку энергічнага дырэктара тэатра да ўласна беларускіх музычна-тэатральных традыцый, да творчага патэнцыялу нашых майстроў мастацтва і тых маладых артыстычных сіл, што ідуць на змену старэйшаму пакаленню. Можа, усё ж лепей шукаць арыгінальныя таленты, даваць беларускім калегам, гадаваць сваіх аўтараў ды інтэрпрэтатараў, чым трымаць за прыклад родны для А.Ісаева Растоўскі тэатр (у якім пачынаўся роскві яго сцэнічнай кар'еры, у тым ліку ў ролі Разанава), чым зважаць на пастаноўкі маскоўскага "Ленкома" — з акцёрамі драматычнымі, праца якіх высоўваецца з іншай традыцыі, адрознай ад школы нашага артыста-музыканта, вакаліста ці танцоўшчыка, выхаванага на класічнай харэаграфіі.

Мае той максімаліст рацыю ці "абы што перадае" — час пакажа. Пакуль жа час паказаў, што рок-опера (або, паводле асобных меркаванняў, але і не падарунак для спанатранага тэатрала.

Пра што спектакль? "Алілуя каханню!" — пяе ў фінале хор. "Ёсць высокія чалавечыя ўчынкі, якія прыгажосцю сваёй і значнасцю застаюцца ў свядомасці пакаленняў нароўні з вялікімі шэдэўрамі мастацтва..." — сцвярджае тэатральная праграмка. Што ўрэшце скажа глядач? Магчыма, ён вырашыць, што самааддана закаханая ў спектаклі толькі Канчыта (І. Шыцікава), якая ахвяравала свайму каханню – чаканню! — 35 гадоў жыцця. Граф жа здасца хутчэй халодным спакусcaptionнікам, у якога "крызіс сярэдняга ўзросту" супаў са стратай жонкі, апантанасцю новай дзяржаўнай місіяй ды пошукам незямнога ідэалу і якога да заручынаў з Канчытай прымушае... Федэрыка, яе жаніх (Э. Мартынюк).

А, можа, гледача захопіць сама гукавая атмасфера (музычны кіраўнік М. Радзінскі (Расія), дырыжор і кіраўнік рок-групы Л.Карпенка) — неблагі баланс "жывога" гурта (з фартэпіяннымі імправізацыямі А.Пыталева) ды "камп'ютэрнага" аркестра, мужчынскі вакальны ансамбль, сольныя эпізоды і найперш — яркае ўвасабленне складанай, інтанацыйна багатай партыі героя, выканаць якую, апроч А.Ісаева, нікому не давядзецца? Або ўлагодзіць чулую душу выдатная праца артыстаў хору пад кіраўніцтвам С.Пятровай: асвоены магутныя пласты малітоўных спеваў, спалучаныя з рок-стылістыкай! Або парадуе вынаходлівая, але даходлівая харэаграфія Н.Фурман...

Глядач спяшаецца ў тэатр. Спектакль жыве. Уражанні мяняюцца.

**С.БЕРАСЦЕНЬ**
**Фота К.ДРОБАВА**



# ЮБІЛЕЙ ЗА ЮБІЛЕЕМ

Вясной мінулага года ў вёсцы Івольск Буда-Кашалёўскага раёна ўрачыста адзначылі 100-гадовы юбілей свайго земляка — народнага артыста СССР і БССР Паўла Малчанава.

А зусім нядаўна вяскоўцы святкавалі яшчэ адзін юбілей: столькі ж гадоў, як і знакамітаму акцёру, споўнілася на гэты раз мясцовай бібліятэцы. Адчынена яна была разам з народным вучылішчам і напачатку налічвала ўсяго 18 тамоў кніг на суму 64 рублі 22 капейкі.

З 1977 года, перасяліўшыся ў новы будынак сельскага Дома культуры, Івольская бібліятэка стала філіялам Буда-Кашалёўскай ЦБС. Асаблівую ўвагу ў рабоце з чытачамі тут удзяляюць краязнаўству. Кожны наведвальнік можа пазнаёміцца з летапісам роднай вёскі, прачытаць матэрыялы, сістэматызаваныя ў папках "Святы і абрады", "Народныя песні", "Легенды і паданні".

Апроч усяго, пры бібліятэцы працуюць аматарскія аб'яднанні па інтарэсах, наладжваюцца разнастайныя мерапрыемствы, праводзяцца сустрэчы з цікавымі людзьмі. І, безумоўна, асноўным пры гэтым з'яўляецца прапаганда кнігі, асабліва беларускай.

**Сяргей КРЫВІЧОЎ**

# «ДЛЯ ЦЯБЕ ТОЛЬКІ ПЕСНЯ МАЯ...»

Гэткімі словамі спавядаўся перад роднай Беларуссю пісьменнік Міхась Машара, 100-гадовы юбілей якога адзначаўся напрыканцы мінулага года. З гэтай нагоды ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва адбылася вечарына. Выступоўцы, дырэктар архіва-музея Ганна Запартыка, загадчык аддзела навуковага выкарыстання Таццяна Кекелева, гісторык, супрацоўнік Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь Віталь Скалабан і іншыя распавялі пра нялёгкія жыццёвыя пуцявіны, якія давялося пераадолець пісьменніку. Гэта і ўдзел у нацыянальна-вызваленчым руху ў Заходняй Беларусі, праца ў газеце "Наша воля", 4 гады ў турме на Лукішках у Вільні.

Вечарына яшчэ раз пацвердзіла, што ў нас ніхто не забыты і нішто не забыта.

**А. АНТОНАВА**

# ГОМЕЛЬ АДЗНАЧЫЎ СВЯТА

Жыхары Гомеля адсвяткавалі 59-ю гадавіну вызвалення горада ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. З нагоды гэтых падзей адбыліся сустрэчы ветэранаў з землякамі, канцэрты.

А ў мастацкім аддзеле абласнога краязнаўчага музея наладзілі выставу твораў вядомых мясцовых мастакоў Р. Ландарскага, С. Дзьяканава, У. Кароткага, В. Ягорава, В. Фея і іншых майстроў, якія адлюстравалі героіку дзён Вялікай Айчыннай вайны і вызвалення роднага горада.

**Аляксей ШНЫПАРКОЎ**



# НАЧНЫЯ ЎСПАМІНЫ

**(Заканчэнне. Пачатак на стар. 9)**

— Як жывецца?

— Добра, Панцеляймон Кандратавіч. Раман во выдаў – "У добры час" – і паклаў кнігу яму на стол, не з пустымі рукамі ехаў. – Новы пачаў – пра сельскіх настаўнікаў.

Ён пачытаў аўтограф, пагартаў кнігу.

— Раман ваш і зацікавіў нас. Хочам зрабіць фільм. Напішаце сцэнарый?

Ад кіно я быў яшчэ тады за сто вёрст, меў туманнае ўяўленне, як яно робіцца, з чаго пачынаецца. Але маладой самаўпэўненасці было ажно занадта:

— Напішу.

— Вось і добра. Не будзем адкладваць. Сёння ж паедзеце ў Дом творчасці кінематаграфістаў, там пачаўся семінар сцэнарыстаў. Добрыя майстры падвучаць вас.

Сарочка прыліпла да спіны – спацеў ад нечаканасці. Пачуцці раздвоіліся. Ехаць не хацелася: дома жонка, дзеці... Што падумае Маша? Паехаў на дзеньдва, а прабуду тры тыдні. Але як адмовіцца? Сам Панамарэнка прапануе! Гонар! Нельга замыкацца ў нейкіх Каравацічах. Новы свет! Свяцілы маскоўскія! І ўсяго Саюза. Ведаў, што два нашых драматургі – Губарэвіч і Маўзон – прасіліся на гэты семінар.

Выцер пот з ілба. Паспрабаваў далікатна адмовіцца.

— Нечакана для мяне, — паспрабаваў пажартаваць: — Я і трусоў зменных не захапіў.

Жарт не дайшоў. Міністр сказаў без усмешкі:

— Ну, трусы мы вам купім.

Для мяне словы яго прагучалі здзекам, і я нечакана для сябе згадзіўся:

— Добра, паеду.

— Во і добра, — і сказаў у той жа нябачны "тэлефон": — Скажыце ў аддзеле, каб выпісалі Шамякіну пуцёўку на семінар. І пяцьсот рублёў на... зубную шчотку, — Панцеляймон пасміхнуўся, але прагучала гэта зусім здзекліва – пяцьсот рублёў на шчотку. Добра, што не на трусы! Хапіла такту не паўтарыць мой дурны жарт, які не памог мне. А заблытаў у здзекліваія цянёты.

Усё? Хацеў падняцца. Не, не ўсё!

— Ну, як там жывуць Колас, Крапіва, Глебка?

— Канстанцін Міхайлавіч у бальніцы...

— Хто гэта?

— Колас.

— А, так. Я забыўся. Недаравальна. Я з ім меў самыя цесныя кантакты. Сяброўскія. Можна сказаць, адносіны. Мудрэйшы чалавек!

— Я ведаю...

— А ведаеце, як я іх у трыццаць восьмым ратаваў... Купалу, Коласа і групу маладзейшых?

— Не, не ведаю.

— О, гэта тэма для рамана.

І пачаў расказваць. Каля дзвюх гадзін расказваў. Я слухаў заваражана. Гісторыя з першых вуснаў! Дзе яшчэ пачуеш такое? Шкадую, што тады, на семінары тым, не запісаў яго падрабязны расказ, які разгортваў, маляваў карціну трагічных перадваенных гадоў. Але галоўнае помню і зараз.

Ашаламіла сказка "другога пасля Сталіна" (у Беларусі) чалавека на тое, як з першых жа дзён свайго назначэння ён, першая асоба, адчуў, што за ім сочаць ганчакі органаў бяспекі, чакаюць, калі паступіць сігнал спусціць іх з вяроўкі. Прыклады, дэталі забыліся. Эпітэтаў для органаў таго часу Панамарэнка не шкадаваў. Мяне гэта шакіравала і заварожвала: дык вунь што тварылася! На Сталіна не ківаў: недалёка яшчэ адышлі ад яго смерці. Не называў і Берыя, не ён у 1938 годзе ўзначальваў НКУС.

Але расказ яго я ўспомніў, калі пазней увосень таго ж года нам, сакратарам партарганізацый, прачыталі ў райкаме абвінавачы акт супраць Берыі. Вунь калі выпрацоўваліся палажэнні абвінавачвання! (Нядаўна я прачытаў кнігі Сярго Берыі, сына Лаўрэнція, і Юрыя Мухіна, якія пераканаўча даказваюць, што Берыя быў забіты да ліпеньскага пленума; судзілі мёртвага.)

Далей пра тое, што асабліва ўсхвалявала мяне, — пра маіх настаўнікаў. Ён, Панамарэнка, рашэннем бюро ЦК вызваліў з турмы скатаванага Кузьму Чорнага, іншых арыштаваных (не пісьменнікаў, таму прозвішчы іх выпалі з маёй памяці). Але неўзабаве яму на стол паклалі спіс "мацёрых нацдэмаў", якіх трэба неадкладна арыштаваць. У спісе тым – Купала, Колас, Крапіва, Броўка, Лынькоў, Глебка, Самуйлёнак...

"Гляну я і за галаву схапіўся. З кім застануся? З кім працаваць?!" – яго, Панамарэнкі, словы. Трэба ратаваць! Але як? Ратаваць можа толькі Сталін. Ды як да яго дабрацца, калі за ім, Панамарэнкам, дзень і ноч сочаць чэкісты? І пазваніць нельга – слухаюць.

"Разумеў, што рызыкую галавой. Але вырашыў ехаць у Маскву, дамагчыся прыёму ў Сталіна і сказаць: арышт такой групы ліквідуе нацыянальную літаратуру, навуку. З кім працаваць?"

Думаў, думаў Панцеляймон і прыдумаў, пазваніў наркаму, што на другі дзень едзе ў Слуцк. А выехаў уначы з адным памочнікам. У Барысаў. Узялі білет у агульны вагон цягніка, які ішоў на Маскву. Так ашукалі агентаў Бермана. (Дэтэктыўны сюжэт! Я яго слухаў заварожана.)

У Маскве спыніліся на прыватнай кватэры. Тры дні дачакаў прыёму Сталіна. Добра, што меў добрыя адносіны з Паскробышавым. Дамогся: прыняў Панцеляймона Сталін. І першы сакратар ЦК кампартыі Беларусі сказаў праўдзіву: "Не будзе з кім працаваць, таварыш Сталін".

Сталін пахадзіў па кабінеце, папыхкаў люлькай і выклікаў загадчыка аддзела Жданава. Яму сказаў: "Товарищ Пономаренко справедливо говорит: давно мы не награждали наших писателей. Подготовьте списочек. Из всех республик. Человек на сто".

"Так замест ордэраў зявіліся ордэны. Я ратаваў Купалу, Коласа, іншых. Ды, скажу шчыра, і сабе памог: слежку за мной спынілі", — расказваў мне Панамарэнка. І хіба мог я ўсумніцца ў праўдзівасці расповеду такога чалавека? Папярэджання, каб не разглашаў яго расказ, не было. І я, як толькі вярнуўся ў Мінск, перадаў пачутае Броўку, нават расказаў на нейкім пасяджэнні. Мне пaверылі. Не мне – Панцеляймону Кандратавічу, аўтарытэт якога трымаўся высока і пасля яго ад'езду. Нават такі крытык сталінішчыны, як Андрэй Макаёнак, паверыў. На сустрэчах з чытачамі расказвалі: во які ён, наш Панамарэнка! Пры наведванні Якуба Коласа за партузносамі я расказаў і яму. Канстанцін Міхайлавіч здзівіў — без захаплення сказаў:

— Я, братачка, чуў гэта з яго вуснаў.

Здзівіла, што чуў і нікому не расказаў, нават лепшаму сябру свайму Пятру Глебку, якога любіў больш, чым каго.

Ішлі гады. Панамарэнка ўзнімаў цаліну ў Казахстане, рабіў паслом, здаецца, у Індыі. Але ў Беларусі аўтарытэт яго не меншаў, нават у тых апаратчыкаў, якія, можа, і не слухалі яго, палымянага трыбуна, бо маладыя яшчэ былі, калі Панцеляймон кіраваў рэспублікай. Мінула, можа, гадоў дваццаць пяць, калі пахіснулася маё перакананне. Сядзелі ў Андрэя на дачы, пілі добры каньяк (разбагацелі! асабліва Макаёнак, камедыі якога ставіліся ў сотнях тэатраў Саюза). Здаецца, размова ішла аб "Пагарэльцах" – трагікамедыі, якую не пусцілі на сцэну; мы з Андрэем хадзілі да Машэрава, і той, уважлівы і чулы, параіў гадоў пяць-шэсць пачакаць (спадзяваўся, што з канцом царавання старога Ільіча будзе паварот?) Там, за сталом, я прыгадаў подзвіг Панамарэнкі, пра які ўжо пачалі забываць. І мяне ашаламіў тэатразнаўца Георгі Колас, які любіў п'есы Макаёнка, многа пісаў пра спектаклі па яго п'есах у тэатрах рэспублікі. Упэрышыню я пачуў:

— Хлусня ўсё гэта! У партархіве, у спецфондзе, захоўваецца другі экземпляр пісьма Панамарэнкі Сталіну, у якім ён пісаў аб неабходнасці арышту нацдэмаў – Купалы, Коласа і ўсіх, каго ён "ратаваў", як вы кажаце.

Я ажно падскочыў, як падпечаны. Такая легенда рушыцца!

— Ты чытаў гэтае пісьмо?

— Мне не далі. Але архівісты пераказалі яго змест.

— Дрэнны ты, Жора, даследчык!

Не паверыў я Коласу. Але вожыка ён у маю мазгаўню загнаў. І ён калоўся, "вожык" гэты, хацелася праверыць самому, каб ведаць цану такім даследчыкам. Андрэй падтрымаў мой намер. Мне, члену ЦК, не праблема заглянуць у архіў.

І я дамовіўся з дырэктарам Партархіва Расціславам Платонавым, што ён дапусціць мяне ў спецфонд. Але Платонаў быў асцярожны партыйны артадокс. Без ЦК не вырашаў ніводнага сур'ёзнага пытання. Потым колькі ён папсаваў мне крыві, калі Галаўліт затрымліваў публікацыю другой і трэцяй часткі рамана "Петраград – Брэст"; усіх спалохаў вобраз Льва Троцкага. Пазваніўшы, каб спытаць, калі мне зайсці, я пачуў ад Платонава:

— Пагаварыце з Кузьміным.

Я зразумеў, што сакратар ЦК па прапагандзе, з якім Платонаў параіўся, супраць майго знаёмства з сакрэтнымі дакументамі – ствару праблему! І я адступіў. Не паверыў Георгію, але легенду Панамарэнкі больш нікому не расказваў – ні калегам, ні чытачам.

Час ішоў. Заакіянскія "сябры", якія валодалі мільярдамі і ўзялі курс на сусветнае панаванне, знайшлі спосаб, каб развaліць вялікую і магутную ў ваенным плане дзяржаву. Зруйнавалі партыю, якая цэментавала Саюз.

Ва ўмовах новай "дэмакратыі", "свабоды" той жа артадаксальны Платонаў, які працягваў працаваць у Дзяржаўным архіве, не дырэктарам – радавым супрацоўнікам, выступіў з артыкулам у газеце па лісце Панамарэнкі Сталіну з просьбай дазволу на арышт групы Купалы-Коласа. Цытаваў пісьмо.

Глыбока расчараваны, мацюкнуў я і Панамарэнку, і Платонава, і ўсіх палітыканаў. Я здаўся. Хэндэ хох! Праз сорак гадоў дапяў. Да лямпачкі было Панцеляймону тое кіно, тым больш мой раман; ён шукаў магчымасці, як адмыцца. Знайшоў: выклікаць маладога беларускага пісьменніка, аўтарытэтнага (лаўрэат!), расказаць яму, які добры ён быў, безумоўна ж, пісьменнік раскажа яго легенду калегам, старым і маладым, нехта запіша яе... Але не лепшы ён быў сцэнарыст, забыўся пра адну істотную дэталь – пра архіў, які папоўніў сваімі пісьмамі...

Прабыў я ў тым падмаскоўным доме творчасці дзён дзесяць-дванаццаць. Больш не вытрымаў. У многіх дамах, санаторыях пасля адпачываў, тварыў. Але нідзе не бачыў такога зборышча, як у тым доме. Божа мой! Колькі пыхі, фанабэрыі, знявагі да нас, нацыяналаў, убачыў я там у асобах пасівелых зуброў. Выступілі два ці тры сцэнарысты. Пустата. Цікава выступалі вядучыя пастаноўшчыкі. Але расказвалі яны пра сваю працу – рэжысёрскую, часам кранaлі дапрацоўку сцэнарыяў у ходзе здымак. Хто з іх умеў напісаць сцэнарый? Гэтае іх "уменне" я ўбачыў пазней, калі пачалі экранізаваць мае раманы, аповесці. Успамінаю класіка, двойчы лаўрэата Самсона Самсонава. Мы з ім рабілі сцэнарый па маёй аповесці "Гандлярка і паэт". Ён прачытаў аповесць у "Молодой гвардии", сам прыехаў у Мінск (рэдкі выпадак!) і сядзеў тыдні тры – пакуль не сачынілі варыянт сцэнарыя, які ён павёз на "Мосфільм". Дык вось паважаны Самсон Іосіфавіч ашаламіў мяне глухатой да слова. Не мог лагічна звязаць дзве-тры рэплікі героям, якія ў мяне былі напісаны, але не дыялогам – словамі аўтара. Я правіў пасля рэжысёра, ён згаджаўся:

— Вам лягчэй, вы ўжыліся ў атмасферу, у характары.

А як жа інакш! Безумоўна, трэба стаць падпольшчыкам, каб напісаць падполле!

Пыху кінакласікаў адкрыта высмейваў адзін чалавек – наш Аркадзь Маўзон, асабліва калі на станцыі, дзе быў буфет, добра браў на губу. Хоць і быў ён свой, масквічы яго не любілі. Але, відаць, не за сарказм, больш за тое, што ён паспяшаўся падцерці нос тагачасным кан'юнктуршчыкам і першы (ва ўсім Саюзе!) напісаў п'есу пра "врачей-отравителей".

Пасля колькі рагаталі ў нашым Саюзе пісьменнікаў з такой аператыўнасці. Маўзон смяяўся разам з усімі і ставіў сабе ў заслугу, што літаральна праз тыдзень пасля смерці Сталіна забраў п'есу з тэатра і з рэдакцыі "Полымя". Знішчыў? Вось бы надрукаваць яе зараз! Які дакумент таго часу! Аркадзь смяяўся. Але што было ў яго душы? Піць пачаў удвая больш. І напэўна ж гэтым злоўжываннем скарацій сабе жыццё. Вечная яму памяць.

Мы з Андрэем любілі гэтага вясёлага, вострага на язык чалавека.

Такая мая першая "кінатворчасць"!

# НЕДАСПЯВАНАЯ ПЕСНЯ

**Памяці Вячаслава Міхасёнка**

*Не веру, не веру, каб у сцюжы замерзла,*
*што цудна вясной расцвіло,*
*не веру, не веру, каб колісь замерла,*
*што песняю толькі жыло...*
*Л.Геніюш*

## З Беларуссю ў сэрцы

Браты Ільяшэвічы. Старэйшы Мікола і малодшы Хведар. Дзве маленькія галінкі з вялікага дрэва, імя якому Беларусь. Кожнаму з іх было суджана праспяваць сваю адметную, па-свойму непаўторную песню жыцця. Толькі, на жаль, песня тая была кароткая і не да канца дапетая. Але ў гэтым была не іхняя віна. Неміласэрны лёс без пары звёў гэтыя ахвярныя і выдатныя постаці ў магілу. Затым былі вымушаныя дзесяцігоддзі забароны іх твораў і ўладнае табу на ўпамінанне іхніх прозвішчаў у беларускім савецкім друку. І толькі цяпер іхняя спадчына вяртаецца ў лона роднай культуры. Вяртаецца заслужана. Бо зроблена братамі Ільяшэвічамі шмат і грунтоўна. І на розных дзялянках. Старэйшы Мікола быў выдатны гісторык, антраполаг, псіхолаг, педагог, грамадскі дзеяч. Не адставаў ад брата і малодшы. Выдатны паэт (аўтар трох зборнікаў вершаў), празаік, гісторык, педагог, крытык, выдавец. Працавалі апантана, ведаючы, што поле вялікае, а сейбітаў мала.

Пра аднаго з іх, а менавіта пра Хведара, напісаны цікавыя грунтоўныя артыкулы, якія належаць пяру самага абазнанага даследчыка той незвычайнай міжваеннай заходнебеларускай пары Арсеню Лісу. Пра другога, за выняткам невялічкай нататкі, змешчанай у "Энцыклапедыі гісторыі Беларусі" за подпісам Генадзя Каханоўскага, не сказана нічога. А шкада. Такія людзі, як Мікола Ільяшэвіч, даўно вартыя асобнай грунтоўнай манаграфіі. Але мы, як гэта часцей за ўсё, не спяшаемся. Не спяшаемся выдаваць патрэбныя кнігі, не спяшаемся аднаўляць свае помнікі гісторыі і культуры, вяртаць родную мову ў штодзённы ўжытак, шанаваць сваіх герояў, геніяў і прарокаў. Не спяшаемся пісаць і пра Міколу Ільяшэвіча.

А нарадзіўся Мікола Ільяшэвіч у Пружанах у 1903 годзе. Неўзабаве сям'я пераехала ў Вільню. Бацька працаваў чыноўнікам на пошце, а маці была хатняй гаспадыняй. Бацькі былі праваслаўныя па веравызнанні і не цураліся сваіх звычаяў, традыцыяў, любові да родных каранёў. Дома заўсёды размаўлялі на пружанскім дыялекце беларускай мовы і стараліся любоў да яе перадаць дзецям. Акрамя старэйшага Міколы і наймалодшага Хведара была ў іх яшчэ дачка Ніна. Вучыўся Мікола спачатку ў пачатковай школе, а затым у Віленскім духоўным вучылішчы. У 1915 годзе ў сувязі з падыходам да Вільні фронту сям'я эвакуавалася ў Расію. Жылі ў Разанскай губерні, у горадзе Скопіне, дзе Мікола працягваў хадзіць у школу. Жылося сям'і цяжкавата. Па сутнасці, увесь хатні дастатак трымаўся на заробках бацькі, які і далей працаваў на пошце і з'яўляўся адзіным карміцельцам немалой сям'і. Амаль чатыры гады пражыла сям'я Ільяшэвічаў удалечыні ад Радзімы. І толькі ў 1919 годзе з цяжкасцю ўдалося вярнуцца на Беларусь, у родную і дарагую Вільню. У тым жа годзе Мікола стаў вучнем Першай беларускай гімназіі, а праз нейкі час туды паступіла і сястра Ніна. Малодшы Хведар хадзіў у польскую пачатковую школу. Жылі Ільяшэвічы на Паплаўскай вуліцы, і сямейны дастатак іх быў даволі сціплы. Як пісаў пра той перыяд В.Жук-Грышкевіч у сваіх успамінах: "Ды і з прадуктамі тады не было так лёгка ў Вільні. Цукру, сала і мяса дастаць было цяжка. Адно добра, што было досыць хлеба, хоць і падобнага на гліну, малака, якое прывозілі прыгарадныя сяляне, ды селядцоў."

Вучыўся Мікола добра. Быў адным з лепшых вучняў гімназіі. Высокі, прыгожы, з чорнай непаслухмянай чупрынай, заўсёды добра апрануты, ён карыстаўся вялікім аўтарытэтам сярод гімназістаў. Асабліва шчырыя сяброўскія стасункі былі ў яго з братамі Дылісамі, Вінцэнтам Жук-Грышкевічам і Уладзімірам Каржом. Не цураўся і грамадскай працы. Калі ў лютым 1921 года пачаў выходзіць часопіс "Маладое жыццё", то яго прозвішча значылася сярод заснавальнікаў, а пазней і сярод рэдактараў гэтага перыядычнага выдання. Праўда, лёс гэтага выдання быў кароткі. У студзені 1923 года часопіс спыніў сваё існаванне. Выйшла толькі сем яго нумароў. Але якіх! На яго старонках друкаваліся Уладзімір Жылка і Ігнат Дварчанін, Уладзімір Дубоўка і Язэп Драздовіч. Друкаваўся і Мікола Ільяшэвіч.

У 1923 годзе Ільяшэвіч заканчвае Віленскую беларускую гімназію і адпраўляецца на вучобу ў Прагу. Чаму аж у Прагу? Ды таму, што польскія універсітэты для выпускнікоў беларускіх гімназіяў у той час былі недаступныя. Тлумачылася гэта па-рознаму, але самая галоўная прычына палягала ў тым, што палякі не жадалі павелічэння нацыянальна-свядомай беларускай інтэлігенцыі. Каб паступіць у польскі універсітэт таго часу, пажадана было быць каталікам ці перайсці ў каталіцызм, здаць экзамен за гімназію перад польскай атэстацыйнай камісіяй, быць лаяльным да польскай дзяржавы. Да таго ж, акрамя вышэй названых прычынаў існавала яшчэ адна і мусіць самая галоўная. Беларускія гімназіі не былі ўраўняныя ў правах з польскімі. Яны з'яўляліся прыватнымі, не атрымоўвалі дзяржаўнай датацыі і таму іх атэстат не меў поўнай юрыдычнай сілы. У той жа час чэшскі палітык, гісторык, філосаф, прэзідэнт Чэхаславакіі Тамаш Масарык з выключным разуменнем і спагадай паставіўся да тагачасных нацыянальных меншасцяў Польшчы, у тым ліку, і да беларускай. Па яго распараджэнні ў сярэднія спецыяльныя і вышэйшыя навучальныя ўстановы краіны прымаліся юнакі і дзяўчаты з Заходняй Беларусі і беларуская моладзь з Латвіі. Ім выдзяляліся інтэрнаты і стыпендыі. У сваёй трагічна-велічнай "Споведзі" Ларыса Геніюш так апісвае магчымасць таленавітай заходнебеларускай моладзі патрапіць на вучобу ў Прагу: "У Вільні была Беларуская школьная рада, дзе працавалі Тарашкевіч і Грыневіч, якія перспектыўным студэнтам далі посьведку ад Школьнай Рады, якая была як пропуск у Чэхаславаччыну. Дзеячы благаслаўлялі моладзь на навуку й бралі ад кожнага забавязванне, што, атрымаўшы асвету, кожны выдасць кніжку на роднай мове па спецыяльнасці й дасць за свой кошт вышэйшую асвету аднаму свайму суайчынніку".

Каб патрапіць у Чэхаславакію, трэба было перайсці польска-літоўскую мяжу. Часцей за ўсё, не пераходзілі нелегальна, з пэўнай рызыкай для жыцця. "Мяшочак на вяровачцы праз плечы, у рагох дзве бульбіны, каб вяроўка не коўзала, доўгія боты, кашуля хатняя – у такім выглядзе трапіў мой муж у Эўропу. Так прыйшлі туды і іншыя з нашай зямлі, каб магчы вучыцца", — так апісвае паездку свайго мужа на вучобу ў Прагу Ларыса Геніюш у сваёй славутай "Споведзі". Патрапіўшы ў Ковенскую Літву, беларуская моладзь даставала пашпарты (ад прадстаўнікоў урада БНР), а то і без іх, і выпраўлялася далей. Прыехаўшы ў Прагу, стараліся знайсці Чэшска-ўкраінскі камітэт, які аказваў сякую-такую дапамогу будучым беларускім і ўкраінскім студэнтам. Але найбольшую падтрымку мела моладзь ад прадстаўніка Рады БНР на Чэхаславакіі прафесара Міколы Вярбыніна. Гэта ён займаўся справай іхняга ўладкавання, грашовай дапамогі, тлумачэннем чэшскіх законаў і г.д.

## Дзе цячэ срэбраводная Влтава

З газеты "Кур'ер Віленьскі" за 15 красавіка 1927 года можна даведацца пра колькасць беларускіх студэнтаў у пражскім Карлавым універсітэце. Так, у 1920/21 навучальным годзе іх было толькі два чалавекі. Затое ў 1921/22 – 10 чалавек, у 1922/23 – 50, у 1923/24 – 90, у 1924/25 – 110, а ў 1925/26 – 100 чалавек. Акрамя Прагі, беларускія студэнты вучыліся ў Брне, Братыславе, Падэбрадах, Пшыбраме ды іншых чэхаславацкіх гарадах.

Як я пісаў раней, Мікола Ільяшэвіч прыехаў у Прагу у 1923 годзе. З ім прыехала вялікая група беларускай моладзі, якая складалася з віленчукоў, навагрудчан і дзвінчукоў. Сярод іх былі Мікола Гарошка, браты Орсы, тры браты Сакі, Мікола Чарнэцкі, Аўген Дыліс, Лявон Рыдлеўскі, Мікола Абрамчык, Уладзімір Жылка, Вячаслаў Лаўскі, Міхась Каберац ды іншыя. З мая па чэрвень 1923 года Мікола Ільяшэвіч вучыўся на падрыхтоўчых курсах у Езафове, а ў ліпені, паспяхова здаўшы ўступныя экзамены, становіцца студэнтам геаграфічнага факультэта Пражскага універсітэта. Жыць уладкаваўся ў Студэнцкім доме, што знаходзіўся ў раёне Альбяртова на Слупе. Былая студэнтка Людміла



Краскоўская ў сваіх успамінах пісала: "Ежа ў Студэнцкім доме ў сталоўцы была танная, але не вызначалася добрай якасцю. Жыццё студэнтаў у Празе не было лёгкім, з грашыма трэба было эканоміць. Дзяўчаты ў большасці ўмелі гаспадарыць і абыходзіліся адной стыпендыяй, але ў хлопцаў выходзіла горш". Розныя прычыны, а ў першую чаргу, матэрыяльныя цяжкасці, неспрыяльны клімат прывялі да таго, што недзе ў 1924 ці пачатку 1925 года Мікола Ільяшэвіч захварэў на туберкулёз лёгкіх. Былі моманты, калі здавалася, што жыць засталося лічаныя дні. Тады вымушаны быў кідаць вучобу і выязджаць у туберкулёзныя санаторыі Чэхаславакіі. Крыху ачуняўшы, браўся за вучобу яшчэ больш апантана. І адкуль толькі сілы браліся? Стараўся выкарыстаць кожную вольную хвілінку, кожную магчымасць, каб наведаць багатыя чэшскія архівы, бібліятэкі, музеі.

Калі ў Празе пачалі выходзіць беларускія часопісы "Беларускі студэнт", а затым і "Перавясла", то яго прозвішча можна было сустрэць сярод аўтараў гэтых перыядычных выданняў. А ў снежні 1924 года яго імя значыцца сярод сяброў арганізацыйнага камітэта па ўшанаванні 40-ых угодкаў са дня смерці беларускага пісьменніка В.Дуніна-Марцінкевіча. На гэтай імпрэзе Мікола Ільяшэвіч выступіў з цікавым дакладам пра жыццёвы і творчы шлях беларускага песняра. У наступным 1925 годзе ў Празе намаганнямі расійскай эміграцыі была адчынена выстава "Русская книга". Дзякуючы беларускаму студэнцтву і ўраджэнцу Мінска прафесару Яўгену Ляцкаму там быў арганізаваны і беларускі стэнд, які складаўся з кніг і перыядычных выданняў БССР і Заходняй Беларусі. Міколу Ільяшэвічу, як чалавеку абазнанаму, да таго ж апантанаму кніжніку, была даручана роля праваднікa і тлумачальніка той беларускай кніжнай выспачкі сярод наведвальнікаў. На шчасце, захаваўся здымак з той памятнай выставы, дзе можна ўвідавоку пабачыць тагачасныя беларускія кнігі і часопісы, добра расстаўленыя, сціпленькія знешне, але густоўна аформленыя, партрэты Я.Купалы і І.Луцкевіча, размешчаныя паабапал і нацыянальныя сцягі, якія ўпрыгожваюць верхавіну таго стэнда. А збоку, прытуліўшыся да яго стаіць Мікола Ільяшэвіч, як вартавы, як абаронца Беларусі ды ейных нацыянальных скарбаў і інтарэсаў...

Калі ў тым жа 1925 годзе беларускія студэнты Чэхаславакіі наладзілі кантакты са сваімі калегамі-беларусамі з вышэйшых навучальных устаноў Вільні, Берліна, Парыжа і Рыма і заснавалі Аб'яднанне беларускіх студэнцкіх арганізацыяў (АБСА), то і ад гэтай справы ён не застаўся ў баку. Неаднойчы выбіраўся ў склад яго кіраўніцтва, быў сябрам прэзідыума гэтай арганізацыі, сакратаром і прэсавым рэферэнтам. Быў адным з заснавальнікаў і першым старшынёй Беларускага (Крывіцкага) культурнага таварыства імя Ф. Скарыны. Акрамя таго, выкарыстоўваў кожную нагоду, кожную магчымасць, каб пазнаёміць чэхаў з культурай свайго народа "з беларускім пытаннем, беларускім жыццём". Змяшчаў артыкулы па гісторыі Беларусі ў розных перыядычных і энцыклапедычных выданнях Чэхаславакіі. Недзе ў 1927 годзе закончыў вялікі гістарычна-інфармацыйны нарыс на чэшскай мове "Беларусь і беларусы", які асобнай кніжкай выйшаў у 1930 годзе ў Празе. Кніжачка была невялікая па фармаце з этнаграфічнай і палітычнай картай Беларусі з 13 малюнкамі і налічвала 126 старонак. Гэта была адна з першых кніг на чэшскай мове пра Беларусь, з якой чэхі маглі ўпершыню даведацца пра яе далёкую і блізкую гісторыю, культуру, прыроду, жыццё беларусаў у Польшчы, Літве, Латвіі, пазнаёміцца з перакладзенымі на іх родную мову творамі класікаў беларускай літаратуры, фальклорам. І самае важнае, гэта кніга пашырала веды пра Беларусь сярод народаў перадваеннай Еўропы. Апрача названай кнігі, Мікола Ільяшэвіч напісаў шмат іншых працаў для чэхаславацкай прэсы. Прыкладам, у 1928 годзе ў прэстыжным зборніку чэхаславацкага геаграфічнага таварыства "Sbornik ccl. Spolecnosti zemepisne" у кнізе 1-4 быў надрукаваны вялікі артыкул пад назвай "Культурна-геаграфічны характар Беларусі". Нейкі час працаваў у рэдакцыях Вялікай чэшскай энцыклапедыі Отта і ўкраінскай энцыклапедыі. І ўсюды імкнуўся нешта змясціць пра Беларусь, пра яе гістарычны і палітычны лёс. Як пісаў Адольф Клімовіч, "гэта праца была яго жыццёвай стыхіяй, ён гэтым жыў". І гэта пры тым, што здароўя бракавала, самаадчуванне станавілася ўсё горшае, узнікала часцейшая патрэба звяртацца па дапамогу да дактароў. Тады спяшаліся на дапамогу сябры. Яны дапамагалі матэрыяльна, падтрымлівалі душэўна і маральна. Асабліва цесныя сяброўскія адносіны былі ў Ільяшэвіча ў той час з Адольфам Клімовічам і Уладзімірам Жылкам. Відаць, невыпадкова апошні ў лісце да Антона Луцкевіча называе ў ліку шчырых беларусаў, надзейных і перспектыўных студэнтаў прозвішча Міколы Ільяшэвіча.

А жыццё ўносіла свае карэктывы. У чэрвені 1927 года Мікола Ільяшэвіч быў вымушаны падаць заяву з просьбай зняць з яго абавязкі "сакратара і прэсавага рэферэнта АБСА з прычыны слабога здароўя". Ды і час не стаяў на месцы. Неяк незаўважана плыла сабе імклівая рэчка жыцця. Бы тыя знічкі на небе мяняліся дні, месяцы, гады. Непрыкметна праляцела шчаслівая пара студэнцтва. Універсітэт скончыў у кастрычніку ў 1928 годзе са ступенню доктара філасофіі. Тэма яго доктарскай дысертацыі была "Беларусь як антрапагеаграфічная адзінка". Гэта было мусіць першае навуковае даследаванне на такую тэму ў беларускай навуцы. На вялікі жаль, цалкам дысертацыя не была надрукавана, ды і не выходзіла асобнай кніжкай. Невялікія яе фрагменты змяшчаліся ў розных перыядычных беларускіх выданнях. Так, у часопісе "Студэнцкая думка" (№ 1(8)) за студзень-люты 1928 года быў надрукаваны раздзел пад назвай "Паходжанне, старадаўнія весткі і антрапалагічныя адзнакі беларусаў" са зноскай: "Гэты нарыс з'яўляецца кароткай выбаркай з прыгатаванай аўтарам працы "Беларусь, як антрапагеаграфічная адзінка". Хоць далейшы лёс гэтай работы, на жаль, невядомы. А праца была вартасная. Нават па тых раздзелах, якія дайшлі да нас, можна гаварыць пра яе высокі пра-

**(Заканчэнне на стар. 14)**

## НА ХВАЛЯХ БЕЛАРУСКАГА РАДЫЁ — ЛІТАРАТУРА

**У новым годзе працягваюцца лепшыя праекты Беларускага радыё, прысвечаныя літаратуры. Дарэчы, разам з арыгінальнымі перадачамі на канале "Культура", які падаўжае сваё вяшчанне на гадзіну ў буднія дні і на тры — у выхадныя, рэгулярна гучаць праграмы "З фондаў радыё", дзе перадаюцца лепшыя стужкі мінулых гадоў. У радыйных фондах захаваліся галасы Я. Купалы, Я. Коласа, М. Танка, П. Панчанкі, П. Броўкі, іншых класікаў айчыннай літаратуры, артыстаў, кампазітараў, мастакоў. Многія з іх пераводзяцца на сучасныя дыскі, якія дазваляюць часцей і больш якасна скарыстоўваць іх у эфіры.**

**Менавіта на тэму "Напісанае застаецца" і пойдзе размова ў аўтарскай праграме Навума Гальпяровіча "Брама". Мяркуецца, што ў праграме прыме ўдзел дырэктар Дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва Ганна Запартыка. "Брама" прагучыць у аўторак, 14 студзеня, у 22.30.**

**У гэты ж час у сераду аўтарская праграма Святланы Шалімы, у чацвер з радыёслухачамі сустрэнецца Галіна Шаблінская ў праграме "Палітра", а ў пятніцу Ірына Шаўлякова запрашае на чарговае "Сентыментальнае паляванне" — размова пра тэндэнцыі ў сучаснай беларускай літаратуры.**

**Дарэчы, у чацвер, у 21.30 пра літаратуру пойдзе размова і ў праграме "Без бар'ераў". Тэма абазначана "Літаратура і мастацтва — духоўны стрыжань грамадства".**

**У суботу, 18 студзеня, у 10.45 — "Літаратурны праспект", а ў 17 гадзін "Жывы гук".**

**Дарэчы, такі жанр, калі паўгадзіны паэт і пісьменнік мае магчымасць быць у жывым эфіры, не проста чытаць свае творы, а і гутарыць з радыёслухачамі, прыжыўся на першым Нацыянальным канале. Гасцямі студыі ўжо былі Таіса Бондар, Раіса Баравікова, Віктар Шніп, Людміла Рублеўская, Сяргей Панізнік, Алесь Пісьмянкоў, Мікола Мятліцкі, Анатоль Аўруцін і іншыя.**

**Штодзень у поўнач акрамя выхадных — "Кароткія гісторыі" — творы беларускай і замежнай класікі.**

**Пра беларускую літаратуру ідзе размова і ў нядзелю ў праграме "Беларускі альбом", які гучыць з 14 да 16 гадзін, а ў 21 гадзіну 30 хвілін у "Канцэртнай зале" заўсёды "Імгненне паэзіі". Так што ўключайце вашы прыёмнікі і вы пераканаецеся ў тым, ці маюць рацыю тыя, хто сцвярджае, што ў беларускім эфіры няма высокамастацкага беларускага слова, не гучаць галасы і творы лепшых беларускіх творцаў.**



**Таварыства беларускай мовы смуткуе з прычыны заўчаснай смерці сябра Рады, старшыні Салігорскай гарадской арганізацыі ТБМ Марыі Мацюкевіч і выказвае свае шчырыя спачуванні ейнай сям'і, сваякам і сябрам.**

# НЕДАСПЯВАНАЯ ПЕСНЯ

**(Заканчэнне. Пачатак на стар.13)**

фесійны ўзровень і вялікае значэнне для беларускай навукі. І гэта пры тым, што аўтару давялося ісці па суцэльным цаліку, не маючы папярэднікаў і адпаведна распрацаванай беларускай навуковай тэрміналогіі.

## У віры жыцця

У канцы 1928 ці пачатку 1929 года Мікола Ільяшэвіч вярнуўся на Беларусь. Жыў у сваёй "каханай Вільні", дзе працаваў выкладчыкам у беларускай гімназіі і праваслаўнай Духоўнай семінарыі. Гэтыя навучальныя ўстановы знаходзіліся па суседстве, у адным будынку, толькі на розных паверхах, і размяшчаліся ў славутых Базыльянскіх мурах. На радзіму Мікола Ільяшэвіч вярнуўся зусім хворы, але ад грамадскай і навуковай дзейнасці не адышоў. Калі ў верасні 1930 года быў адноўлены выхад старэйшага сельскагаспадарчага часопіса "Саха", то Ільяшэвіч становіцца яго рэдактарам. У першым нумары выдання ў слове "Ад рэдакцыі" чытаем: "У вельмі цяжкіх абставінах знаходзіцца наша беларуская прэса, але прыступаючы да выдання "Сахі", мы верым у тое, што ўсё сведамае беларускае грамадзянства падтрымае яе..." І "Саху" падтрымалі. На працягу амаль двух гадоў Ільяшэвіч рупліва апекаваўся ім, ператвараючы гэта выданне ў адзіны беларускі орган, прысвечаны сельскагаспадарчым пытанням Заходняй Беларусі. У тым жа першым вераснёўскім нумары быў змешчаны палемічна-аргументаваны артыкул Міколы Ільяшэвіча "Эканамічны мамэнт Беларусі", дзе аўтар, уступаючы ў палеміку з ворагамі беларускай незалежнасці, даводзіць, што Беларусь мае такое ж права на сваю дзяржаву, як і ўсе іншыя суседнія народы. Што беларуская культурная адсталасць, гаспадарчы прымітывізм вынікае з таго, што не маючы сваёй палітычнай дзяржаўнай незалежнасці, беларусы пастаўленыя ва ўмовы надзвычай цяжкія, "у варункі выключна старонкі эксплуатаванай". І далей робячы эканамічна і палітычна абгрунтаваныя высновы прыходзіць да думкі, што Беларусь раздробленая і ўцягнутая па частках у гаспадарчы абсяг Польшчы, СССР, Латвіі, з'яўляецца як бы бясплатным прыдаткам альбо інакш кажучы калоніяй гэтых краін.

Ды і ўвогуле, пісаў і друкаваўся Мікола Ільяшэвіч у заходне-беларускіх перыядычных выданнях у канцы 20-ых гадоў даволі шмат. Прыкладам у беларускім дзіцячым часопісе "Заранка", які выходзіў у Вільні, ён часта выступаў з артыкуламі на навукова-папулярныя і культурна-асветныя тэмы. Вельмі цікавы і для свайго часу наватарскі атрымаўся ў яго нарыс, прысвечаны Вінцэнту Дуніну-Марцінкевічу, які быў змешчаны ў грамадска-культурным і літаратурна-мастацкім ілюстраваным часопісе "Родныя гоні" ў № 6 за 1927 г. У аснову гэтага матэрыялу лёг рэферат, чытаны Міколам Ільяшэвічам 30 снежня 1924 г. у Празе. Разглядаючы творчасць і нацыянальную свядомасць пісьменніка, Ільяшэвіч робіць акцэнт на слабараспрацаванасці тэмы ў тагачасным беларускім літаратуразнаўстве. Адзначаючы пры гэтым, як аб'ектыўныя, так і суб'ектыўныя прычыны, якія сталі таму віной. Тым не менш, Ільяшэвіч не становіцца ў позу суддзі ці настаўніка, а імкнецца прапанаваць свой погляд, сваю сістэму літаратурнай і нацыянальнай эвалюцыі Дуніна-Марцінкевіча. Паказаць яго складаны, але мусіць адзіна правільны шлях у беларускую літаратуру, які адзначаўся тым, што В.Дуніна-Марцінкевіча ў адрозненне ад сваіх папярэднікаў (Я.Чачот, Я.Баршчэўскі) "што займаліся беларускай літаратурнай працай толькі ў вольныя часіны, у перыяд захаплення пад вонкавым уражаннем", свядома абраў гаротны шлях беларускага дудара і бачыў у сваёй дзейнасці беларускую справу, "якую рабіць вымагаў час, хоць і не спрыялі абставіны". У гэтай працы М.Ільяшэвіч паказаў сябе таленавітым і ўдумлівым крытыкам, з не абы-якім літаратурным густам, да таго ж выдатным знаўцам тае рамантычнае пары XIX стагоддзя, калі паступова прачыналася Беларусь. Праўда, пазней той нарыс не ўсім спадабаўся. Прыкладам Змітро Жылуновіч (Цішка Гартны) у часопісе "Полымя", што выдаваўся ў БССР, назваў Міколу Ільяшэвіча за той нарыс "нацыянал-фашыстам". І не ў гусце тут справа. Проста ў БССР пачыналіся іншыя часы і іншыя героі...

А Ільяшэвіч працягваў друкавацца. Так у часопісе "Студэнцкая думка" ў № 3 за 1928 г. з'явіўся ягоны артыкул "Ян, Генрых Песталёцы", які быў прысвечаны швейцарскаму педагогу, аднаму з заснавальнікаў дыдактыкі пачатковага навучання ў Заходняй Еўропе. Што прываблівала ў гэтай асобе Міколу Ільяшэвіча? Найперш тое, што ён лічыў Песталёцы (сучаснае напісанне Песталоцці) прыкладам самаахвярнай працы для ўсеагульнага дабра, чалавекам, які ўсе свае здольнасці і матэрыяльныя магчымасці аддаў працы для выхавання будучага пакалення. Ягоны лёс Ільяшэвіч прыводзіў як узор перайманння для беларускіх педагогаў і патрыётаў, якія вялі нялроступу барацьбу за існаванне нацыянальнага школьніцтва. Даволі цікавы ягоны матэрыял "Аб патрэбе турыстыкі на Беларусі" быў змешчаны ў № 5 часопіса "Шлях моладзі" за 1929 г., дзе ён пісаў, "што заданнем гэтага артыкула ёсць закрануць пытанне турыстыкі (падарожніцтва) на Беларусі і выклікаць зацікаўленасць да арганізацыі беларускага турыстычнага клуба". Такім чынам, мяркуючы па гэтым артыкуле Міколу Ільяшэвіча па праве можна назваць тэарэтыкам беларускага турыстычнага руху ў Заходняй Беларусі, чалавекам, які ўжо тады цудоўна разумеў, што турызм гэта не толькі забава і адпачынак, не толькі магчымасць улівання грошай у тваю дзяржаву, але і магчымасць лепшага пазнання сваёй зямлі, сваёй краіны.

Акрамя хваробы і розных іншых перашкод, што чыніліся польскімі ўладамі, вымушаны быў Мікола Ільяшэвіч па вяртанні ў Вільню "здабываць сабе кваліфікацыю", гэта значыць, пацвярджаць вартасць свайго дыплома перад польскай атэстацыйнай камісіяй. І гэта пры тым, што Пражскі універсітэт лічыўся адным з лепшых у Еўропе.

У 1932 годзе ў Вільні ў Беларускай друкарні імя Ф. Скарыны выйшла чарговая кніга Міколы Ільяшэвіча. Называлася яна "Кароткі нарыс псыхалёгіі" і рэкамендавалася як падручнік для беларускіх сярэдніх школ. У прадмове аўтар пісаў: "Час і беларуская школа вымагаюць падручніка псіхалогіі. На жаль, аднак, на беларускім кніжным рынку дагэтуль ніякае літаратуры ў гэтай галіне няма. Вось жа, каб даць хоць галоўныя падставы псыхалёгіі, выдаецца гэты "Кароткі нарыс псыхалёгіі". Безумоўна, Ільяшэвіч бачыў яго недахопы, разумеў яго канспектыўнасць, недасканаласць як падручніка. Але кніга была патрэбна беларускаму школьніцтву, а яшчэ шырэй грамадству, і таму ён згадзіўся на яе выданне, здолеўшы прафінансаваць яе выхад. У канцы кніжкі быў змешчаны кароткі тэрміналагічны беларуска-расійска-польскі слоўнік і некалькі ілюстрацый.

З моманту свайго прыезду ў Вільню Ільяшэвіч належаў да Беларускага навуковага таварыства, дзе ўзначальваў краязнаўча-турыстычную секцыю, на рахунку якой было шмат карысных і патрэбных спраў. Прыкладам, вясной 1930 г. стараннямі сяброў секцыі і ў першую чаргу яе кіраўніка была наладжана выстава малюнкаў, карцін і фатаграфій беларускіх тыпаў народнага адзення, тканін, будоўлі і г. д. У выставе прымалі ўдзел мастакі Язэп Драздовіч і Пётра Сергіевіч, беларускі фатограф Уладзімір Грыневіч. Выставу, якая працягвалася два дні, наведала звыш 300 чалавек. Была задума зрабіць краязнаўчую экскурсію ў Латвію, але ўмяшаліся непрадбачаныя абставіны, што не дазволілі яе ажыццявіць. Акрамя таго, на пасяджэннях Беларускага навукова таварыства часта выступаў з дакладамі на тую ці іншую актуальную тэму. У прыватнасці, 1 чэрвеня 1930 г. на імпрэзе, прысвечанай 500-годдзю са дня смерці князя Вітаўта Ільяшэвіч прачытаў рэферат "Аб тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага ў часох Вітаўта", які выклікаў жывую дыскусію сярод прысутных. А калі ў 1933 годзе выйшаў "Гадавік Беларускага навуковага таварыства" то там можна было прачытаць яго надзвычай вартасную працу "Расейская палітыка на землях былога Беларуска-Літоўскага гаспадарства за панаванне Кацярыны II і Паўла I (1772-1801)". У тым жа годзе яна выйшла асобнай кніжыцай. У ёй аўтар паказаў перыяд страты беларуска-літоўскім гаспадарствам сваёй незалежнасці, што адбывалася ў выніку ўнутранай дэградацыі і шляхам непасрэднага ўмяшання некаторых суседніх краін. На жаль, гэтая праца была ў скарочаным варыянце, бо туды не ўвайшлі раздзелы пра суды, гарады, яўрэйскае пытанне, пра стаўленне да шляхты, пра асвету і школьніцтва. І, да нашага жалю, гэта была яго апошняя нам вядомая праца. Але не пісаць ён не мог. Гэта была яго стыхія, яго зброя ў барацьбе супраць рознай масці прыгнятальнікаў свайго народа. І таму ўзнікае заканамернае пытанне: дзе ўсё тое, напісанае Ільяшэвічам, але своечасова ненадрукаванае?

Не застаўся ў баку Мікола Ільяшэвіч, як і большасць тагачасных беларускіх грамадскіх і культурніцкіх дзеячаў ад палітычнай дзейнасці. Гэтага вымагалі час і абставіны. Ён уваходзіў у склад кіраўніцтва Цэнтральнага саюза беларускіх культурна-асветных і гаспадарскіх арганізацыяй і устаноў (Цэнтрасаюз), які прытрымліваўся ідэі аб'яднання ўсіх нацыянальных сілаў на аснове беларускай дзяржаўнасці і незалежнасці. Міколу Ільяшэвічу, як чалавеку і грамадзяніну вялікаму прыхільніку аб'яднання ўсіх нацыянальных груп і партый гэтая ідэя была блізкая і зразумелая. І не яго віна, што мары той не суджана было ажыццявіцца. Празмерна вялікія сілы зла з Захаду і Усходу былі задзейнічаны ў тым, каб тая ідэя не стала рэальнасцю.

Якраз тут у Вільні і прыйшло да яго першае і апошняе каханне. Недзе ў канцы 1933 года ён сустрэў прыгожую і разумную дзяўчыну Ніну Алексяюк родам з Тапалян каля Міхалова, што на Беласточчыне, якая вучылася тады ў рускай гімназіі. Але каханню таму не суджана было быць доўгім. Ільяшэвіч дагараў. Ніякія лекі не дапамагалі, ды і не маглі ўжо дапамагчы. А 2 верасня 1934 года ва ўзросце 31 года ў санаторыі "ТОЗ" каля трох гадзін начы перастала біцца сэрца палымянага беларускага патрыёта. На яго смерць адгукнулася амаль уся прагрэсіўная заходнебеларуская прэса. З'явілася інфармацыйнае паведамленне ў "Шляху моладзі", вялікі некралог, падпісаны Адольфам Клімовічам быў надрукаваны ў газеце "Беларуская крыніца" ў № 32. У ёй сябра і аднадумца яшчэ са студэнцкіх гадоў пісаў: "Лішне свежая яшчэ магіла доктара М.Ільяшэвіча, каб дакладна схарактарызаваць ягоную дзейнасць, ягоныя заслугі на беларускім полі. Адно ясным ёсць ужо, што нябожчык быў шчырым і гарачым беларускім патрыётам... Працаваў ён сам для Беларусі як толькі мог і ўмеў, але жадаў, каб для гэтай жа справы працавалі і ўсе, каго ён знаў яшчэ з школьнай лавы". Яго пахавалі ў колішнім прыгарадзе Вільні пад назваю Ліпаўка на старых Свята-Еўфрасіннеўскіх праваслаўных могілках.

Пачынаючы з 1984 года, я шукаў яго магілу. Але безвынікова. Не дапамаглі ні старыя беларусы-віленчукі, ні нават сведкі яго пахавання. Магілка згубілася. Час і бяспамяцтва зрабілі сваю справу. А знаходзілася яна, калі ісці з цэнтральнага ўваходу па алейцы ўніз адразу за паваротам з правага боку, амаль насупраць Свята-Еўфрасіннеўскай царквы, якая стаіць на ўзгорку і каля якой пахавана Алёна Лекант-Сакалова, былая настаўніца Віленскай беларускай гімназіі са сваім сынам.

Як склаўся лёс яго бліжэйшых сваякоў? Брат Хведар на пахаванне Міколы пазнаёміўся з ягонай каханай Нінай Алексяюк і праз нейкі час пабраўся з ёю шлюбам. Па сведчанні Беларускага гісторыка з Польшчы Алены Глагоўскай у іх было двое дзяцей. Дачка Марыя 1936 года нараджэння і сын Юрка 1938 года. Цяпер дачка жыве ў горадзе Шчэціне ў Польшчы і з'яўляецца вядомым польскім неўролагам. Магчыма, яна і захоўвае архівы Міколы і Хведара Ільяшэвіча, дзе і знаходзіцца ўсё тое, што было напісана імі за іхняе такое кароткае, але змястоўнае жыццё.

**Міхась КАЗЛОЎСКІ**

**P. S.** Дарэчы, Хведар Ільяшэвіч выехаў на эміграцыю і трагічна загінуў у 1948 годзе ў аўтамабільнай катастрофе. Пахаваны ў Заходняй Нямеччыне ў мястэчку Галендорф паблізу Брауншвейга. А сястра Ніна, па мужы Жэро, жыла ў Бела-Падляску ў Польшчы.

# З НОВЫМ ГОДАМ!

# КАЛЯНДАР СВЯТ І АБРАДАЎ БЕЛАРУСАЎ 2003

## СТУДЗЕНЬ
ЗЯМЛЮ І ЛЮДЗЕЙ СТУДЗІЦЬ

- 1 Ср НОВЫ ГОД
- 6 Пд ПОСНАЯ КУЦЦЯ
- 7 А РАСТВО; КАЛЯДА; ЗОРКА; КАЗА
- 8 Ср ВАДЖЭННЕ МЯДЗВЕДЗЯ; БАБІНЫ
- 9 Ч ЯШЧАР
- 13 Пд ШЧОДРЫК, КОНІКІ, ГАГАТУХА
- 14 А ВАСІЛЛЕ
- 18 Сб ВАДЗЯНАЯ КУЦЦЯ-КАЛЯДА
- 19 Н ВАДОХРЫШЧА
- 20 Пд ЛЯНІВЫ ДЗЕНЬ
- 21 А ПРОВАДЫ КАЛЯДЫ
- 25 Сб ТАЦЦЯНЫ
- 31 Пт ГУСЕЎНІК

ПІЛІПАЎКА · КРЫВЫЯ ВЕЧАРЫ, ЖАНІЦЬБА ЦЯРЭШКІ · МЯСАЕД - ВЯСЕЛЬНІЦА

## ЛЮТЫ
НАРОБІЦЬ ПЛЮТЫ

- 6 Ч АКСІННЯ-ПАЎЗІМІЦА
- 8 Сб СТРЭЧАНЬСКІЯ ДЗЯДЫ
- 9 Н ЗАЛАТАВУС
- 12 Ср ВАСІЛЛЯ ДА РЫГОРА
- 14 Пт СТРЭЧАНЬСКІ БАЦЬКА
- 15 Сб СТРЭЧАННЕ-ГРАМНІЦЫ
- 18 А АГАТА
- 19 Ср ВАЎКАЛАКІ
- 24 Пд УЛАССЕ
- 26 Ср ХВАЦІННЯ

АЗЕДАЎ · МЯСАЕД - ВЯСЕЛЬНІЦА

## САКАВІК
ЖАЎРУКОЎ ГУКАЕ...

- 1 Сб ПАЎРАЦЕННЕ; МЯСАЕДНЫЯ ДЗЯДЫ, БАБЫ
- 3 Пд МАСЛЕНКА
- 6 Ч КРЫВЫ; ЦЯГАЦЬ КАЛОДКУ
- 9 Н ГУКАННЕ ВЯСНЫ, ДАРАВАЛЬНАЯ, ЗАГАВІНЫ
- 10 Пд ШЫЛЬНЫ-ПАЛАСКАЗУБ
- 13 Ч ВАСІЛЬ І МАРЫНА
- 14 Пт ВЯСНА
- 15 Сб ЛЕТА
- 16 Н ВОСЕНЬ
- 17 Пд ЗІМА
- 20–21 РАЎНАДЗЕНСТВА
- 22 Сб САРАКІ
- 23 Н СПОВЕДЗЬ ДЗЕЖКІ
- 25 А РЫГОР – СПУСЦІЎ ВАДУ З ГОР
- 30 Н ЦЁПЛЫ АЛЯКСЕЙ

СЫРНЫ ТЫДЗЕНЬ · ЗБОРНЫ · МІЖДАБРАВЕСНЫ · ВЯЛІКІ ПОСТ

## КРАСАВІК
ЗЯМЛЮ КРАСУЕ

- 1 А ДАР'Я-ВЯСНОЎКА
- 2 Ср ЗАСЕЎКІ; СЕРАДАПОСЦЕ
- 4 Пт ВАСІЛЬ-СОНЕЧНІК
- 6 Н ДАБРАВЕСНІК; КАМАЕДЗІЦА
- 7 Пд ЗВЕСТАВАННЕ
- 8 А ДАБРАГУСТА
- 14 Пд ДАМАВІК
- 16 Ср МІКІТА
- 20 Н ВЕРБНІЦА
- 24 Ч ЧЫСТЫ
- 25 Пт ЧЫРВОНАЯ
- 26 Сб ВЯЛІКАНОЧНАЯ
- 27 Н ВЯЛІКДЗЕНЬ ВАЛАЧОБНЫ
- 28 Пд ВЯЛІКОДНЫ
- 29 А ВЯЛІКОДНЫ
- 30 Ср ЗОСІМ; АДРЫЯНАВА НОЧ

ХРАШЧАТЫ · ПАХВАЛЬНЫ · ВЕРБНЫ · ВЯЛІЧКА · ВЯЛІКІ ПОСТ

## ТРАВЕНЬ
ТРАВЫ РОСЦІЦЬ

- 1 Ч НАЎСКІ ВЯЛІКДЗЕНЬ
- 4 Н ВЯЛІКОДНАЯ - ПРАВАДНАЯ
- 5 Пд ЛЯЛЬНІК
- 6 А ЮР'Е; РАДАЎНІЦА
- 8 Ч БАБСКІЯ РОЗБРЫКІ
- 10 Сб ЯРЫЛАВІЦА
- 13 А ЯКУБ
- 15 Ч БАРЫС-КАЖАЛУП
- 16 Пт МАЎРА
- 18 Н РАСАДНІЦА
- 21 Ср МІКОЛЬНІК
- 22 Ч МІКОЛА
- 24 Сб КІРЫЛЫ І МЕФОДЫЯ
- 28 Ср ПЕРАПАЛАВЕННЕ
- 31 Сб КАНАПЕЛЬКА

ВЯЛІЧКА · ФАМІНЫ · МІКОЛЬСКІ · ПЕРАПАЛАВЕНЫ · ВАЖЭННЕ СТРАЛЫ

## ЧЭРВЕНЬ
СЕНА РЫХТУЕ

- 3 А УЛЛЯНІЦА
- 4 Ср ВАСІЛІСКА
- 5 Ч УШЭСЦЕ; ПАХАВАННЕ СТРАЛЫ
- 12 Ч СЯМІК
- 14 Сб ТРАЕЦКІЯ ДЗЯДЫ; ЗЕЛЯНЕЦ
- 15 Н ТРОІЦА; КУСТА
- 16 Пд ПРОВАДЫ РУСАЛКІ
- 19 Ч НАЎСКАЯ ТРОІЦА
- 20–21 СОНЦАВАРОТ
- 22 Н РОЗЫГРЫ
- 26 Ч АКУЛІНА-ЗАДЗЯРЫ ХВОСТ; ДЗЕВЯТНІК
- 27 Пт ПЯЦЁНКА

УШОСНІК · ГРАНЫ СЁМУХА

## ЛІПЕНЬ
ПЯКУЧЫ, АЛЕ ДАРУЧЫ

- 3 Ч ПЕРАПЯЛЯТНІК; ДЗЕСЯТНІК
- 4 Пт ПЯЦЁНКА
- 6 Н КУПАЛЛЕ
- 7 Пд ІВАН КУПАЛЬНЫ
- 12 Сб ПЯТРО
- 13 Н ПАЎЛЮК-ТАЛАКА
- 14 Пд КУЗЬМА-ДЗЯМ'ЯН
- 17 Ч АНДРЭЙ-НАЛІВА
- 21 Пд ЗАЖЫНКІ; ГРАДАВЫ
- 26 Сб СЕРПАВІЦА-ШЫПШЫНКА

ПЯТРОЎКА

## ЖНІВЕНЬ
З СЯРПОМ ПА ПОЛЮ ПРАЦУЕ

- 1 Пт МАКРЭНІ
- 2 Сб ІЛЛЯ
- 4 Пд МАР'Я
- 6 Ср БАРЫС-ХЛЕБ
- 7 Ч ГАННЫ-ЖНЕІ
- 9 Сб ПАЛІКОПЫ
- 12 А СІЛА
- 13 Ср СПАСАЎСКІЯ ЗАПУСКІ
- 14 Ч МАКАВЕЙ; ДУЖЫКІ
- 16 Сб АНТОН ВІХРАВЕЙ
- 19 А ЯБЛЫЧНЫ СПАС
- 23 Сб СПАСАЎСКІЯ ДЗЯДЫ
- 28 Ср ПРАЧЫСТА
- 29 Пт ХЛЕБНЫ СПАС; ДАЖЫНКІ
- 31 Н КАПЫТЫ; ГАРАБІНАВА НОЧ

СПАСАЎКА

## ВЕРАСЕНЬ
ПОЎНАЕ ГУМНО І КІШЭНЬ

- 5 Пт ЛУПА - ЖЫТА КУПА
- 7 Н БАЎТРАМЕЙ - ЖЫТА СЕЙ
- 11 Ч КАЛІНАВІК; ГАЛАВАСЕК
- 13 Сб ЖАНІЦЬБА КОМІНА
- 14 Н СЫМОН - СТОЎПНІК
- 19 Пт ЦУДЫ
- 21 Н БАГАЧ; ПРАЧЫСТА; ЗАСІДКІ
- 23 А РАЎНАДЗЕНСТВА
- 24 Ср ТАДОРА
- 27 Сб УЗЬВІЖАННЕ

ЛЕТА МАЛААДЗІЦ · БАБІНА ЛЕТА

## КАСТРЫЧНІК
ЛЁН КАСТРУЕ

- 2 Ч ЗОСІМ
- 3 Пт АСТАП
- 9 Ч ШАПТУН ПАКРОЎНЫ
- 10 Пт САЎКІ
- 11 Сб ПАКРОЎНЫ БАЦЬКА
- 14 А ПАКРОЎ; ПРАЧЫСТА
- 20 Пд СЯРГЕЙ — ДУШУ САГРЭЙ
- 25 Сб МЛЫНАРЫ; МАРЦІН
- 30 Ч ПАКЛОНЫ
- 31 Пт ЛУКАША — ДЗЕЎКА НАША

ДЗЯВОЧАЕ ЛЕТА · ВЯЛІКАЯ ВЯСЕЛЬНІЦА

## ЛІСТАПАД
ЗІМЕ ВЕЛЬМІ РАД

- 1 Сб ДЗЯДЫ
- 8 Сб ЗЬМІЦЕР-ХІЦЕР
- 10 Пд ПАРАСКІ
- 11 А НАСТАСЕЙ
- 14 Пт КУЗЬМІНКІ
- 15 Сб МІХАЙЛАЎСКІЯ ДЗЯДЫ, БАБЫ
- 21 Пт МІХАЙЛА
- 22 Сб ПІЛІПАЎСКІЯ ДЗЯДЫ
- 24 Пд ХВЕДАР-СТУДЗЯНЕЦ
- 25 А МІЛАСЦІВЫ ІВАН
- 28 Пт ПІЛІПАЎКА; ЗАПУСТЫ

ЗЬМІТРАЎКА · ВЯЛІКАЯ ВЯСЕЛЬНІЦА · ПІЛІПАЎКА

## СНЕЖАНЬ
СНЕГАМ БЕЛІЦЬ

- 4 Ч УВЯДЗЕННЕ
- 6 Сб ВАРАЖБІТ
- 7 Н КАЦЯРЫНЫ
- 9 А ЮР'Е
- 13 Сб АНДРЭЙ-ВАРАЖБІТ
- 14 Н НАВУМ-НАСТАЎНІК
- 17 Ср ВАРВАРЫ - НОЧ УВАРВАЛІ
- 18 Ч САВЫ-КАЛЯДНІКІ
- 19 Пт МІКОЛА
- 22 СОНЦАВАРОТ
- 24 Ср КУЦЦЯ
- 25 Ч РАСТВО; БАТЛЕЙ; ЗОРКА
- 31 Ср НОВЫ ГОД

ПІЛІПАЎКА

Святочная культура беларусаў захавала старажытнейшую прымеркаванасць галоўных свят і абрадаў да сонечнага календара. Вялікдзень, Купалле, Дзяды і Каляды сімвалізуюць веснавое-восеньскія раўнадзенствы і летне-зімовыя сонцавароты. Дэмакратызм праваслаўнай канфесіі ў адносінах да дахрысціянскіх прыродна-натуральных язычніцкіх свят і абрадаў беларусаў тлумачыць тое, што ў народнай падсвядомасці яны захаваліся па юліянскаму (старому) каляндару (ён адстае ад новага грыгарыянскага на 13 дзён). Перасоўныя святы адлічваюцца ад Вялікадня: на восьмым тыдні перад ім Масленка і затым сямітыднёвы Вялікі пост, а на сёмым пасля — Сёмуха, Тройца, за якімі ідзе Русальны тыдзень. Дзяды святкуюцца ў суботу перад 8-ым лістапада.

